# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№45 (4640) 11 лістапада 2011 г.


## У нумары:



# Сын сваёй эпохі

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Здымак, які даўно стаў хрэстаматыйным... Вясёлыя, жыццярадасныя вочы. Усмешка крыху кранае вусны, і гэта надае твару строгую мужчынскую вабнасць. Паэту яшчэ толькі пад трыццаць, але ён ужо нямала зведаў і перажыў. Дый напісаў досыць шмат, пасьпяшаючы за сваім неспакойным, трывожна-бурлівым і, разам з тым, супярэчлівым часам. Гэты здымак увайшоў у памяць большасці з нас. Хацелася б, каб ён помніўся і новым пакаленням. Паэт рэвалюцыі (нават нарадзіўся 7 лістапада, праўда, у 1896 годзе), удзельнік "сонечнага паходу", "пясняр прадвесня", "пясняр пралетарскі Чарот" — так аднагалосна "ахрысціла" крытыка Міхася Чарота (сапраўднае прозвішча Кудзелька).**



З дня ягонай трагічнай гібелі (быў расстраляны 20 кастрычніка 1937 года) мінулася амаль 75 гадоў. З часу ж напісання асноўных твораў — куды больш. Далёка наперад пакрочыла беларуская паэзія, з'явілася ў ёй нямала новых імёнаў. З лёгкай рукі асобных крытыкаў, бы грыбы пасля спорнага летняга дажджу, нараджаліся модныя паэты, якім прадракалася вялікая будучыня і якія неўзабаве забываліся, саступаючы месца чарговым прэтэндэнтам на творчую выключнасць. Чарот жа застаўся. Зразумела, мы ўспрымаем яго куды інакш, чым сучаснікі. Адмаўляючы ўсю празмерную касмічнасць, кväцістасць, лозунгавасць і прымаючы сацыяльны аптымізм, душэўную неўтаймаванасць, рэвалюцыйную акрыленасць, святую веру ў справядлівасць справы, якой служыш, выключную адданасць народу, Радзіме.

Калі Беларусь акупавалі немецкія, а потым польскія войскі, у яго сумненняў і ваганняў не было — пайшоў у падполле. "Іду ў заўтра!" — заявіў сваім таварышам. Гэта ж паўтарыў і ў прадмове да сваёй першай паэтычнай кнігі "Завіруха" (1922): "Я іду ў заўтра, а заўтра — гэта Вялікая Будучыня". За яе ён і змагаўся, яе праслаўляў у сваіх творах, хоць у большай ступені яго прываблівала сучаснасць. Вяршыняй ягонай творчасці стала паэма "Босыя на вогнішчы". Следам з'явіліся іншыя — "Чырванакрылы вяшчун", "Ленін", "Беларусь лапцюжная", "Марына", "Карчма".

"Больш за ўсё люблю пісаць вершы", — прызнаваўся ў аўтабіяграфіі. Але ягоны талент раскрыўся не толькі ў паэзіі. Паспяхова працаваў Чарот і ў прозе. Для яго апавяданняў, як і для вершаў, паэм характэрна павышаная ўвага аўтара да паказу жыцця народа, класавага расслаення ў вёсцы. Адлюстроўваў Чарот і праблемы сучаснага яму горада. Папулярнасцю ў чытача 20-х гадоў мінулага стагоддзя, асабліва ў моладзі, карысталася ягоная аповесць "Свінапас". Не выпадкова, што на аснове яе рэжысёр Юрый Тарыч у 1926 годзе стварыў першы беларускі мастацкі фільм "Лясная быль".

З задавальненнем пісаў М.Чарот і карэспандэнцыі, нарысы. На жаль, з гэтых дзясяткаў публікацый пераважная большасць не сабрана разам, а раскідана па тагачасных выданнях. Сённяшняму чытачу больш-менш вядомы нарыс-дзённік "1200 вёрст па Беларусі", у якім пісьменнік занатаваў свае ўражанні ад паездкі па рэспубліцы разам з Аляксандрам Чарвяковым. Твор і цікавы тым, што з ягоных старонак паўстае прывабны воблік гэтага відомага дзяржаўнага дзеяча. Не менш важна, што М. Чарот на канкрэтных прыкладах паказаў абноўленую беларускую зямлю.

На літаратурным небасхіле таго часу важкімі бачацца і набыткі Чарота-драматурга — аўтара твораў для дзяцей "Данілка і Алеська", "Пастушкі", "Сон на балоце", п'ес "Мікітаў лапаць", "На Купалле". Дарэчы, вадэвіль "Мікітаў лапаць" па сённяшні дзень не сыходзіць са сцэны. Асаблівай папулярнасцю ён карыстаецца ў самадзейных артыстаў. Напісаная лёгка, нязмушана, п'еса раскрывае народную дасціпнасць і мудрасць, высмейвае чалавечае глупства. Да месца адзначыць, што нават тыя драматургічныя творы Чарота, у якіх заўважаецца пэўная павярхоўнасць, заўсёды вылучаюцца такой немалаважнай якасцю, як сцэнічнасць. У гэтым, бадай, сказалася тое, што Чарот няблага ведаў законы тэатра. У гады грамадзянскай вайны ён некаторы час быў артыстам славутай трупы Уладзіслава Галубка, пасля каля года вучыўся ў беларускай тэатральнай студыі ў Маскве, а ў спектаклі "Мікітаў лапаць", пастаўленым У. Галубком, сам выконваў галоўную ролю.

Зайздросны мастакоўскі лёс музычна-этнаграфічнай драмы "На Купалле". Пастаўленая Еўсцігнеем Міровічам на сцэне БДТ-1, яна значылася ў рэпертуары некалькі гадоў, а паказаная ў Маскве на Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выстаўцы, атрымала высокую ацэнку сталічных рэцэнзентаў. На аснове гэтага твора кампазітар Аляксей Туранкоў стварыў лібрэта оперы "Кветка шчасця".

Не толькі шматгранная літаратурнай дзейнасцю займаўся гэты нястомны, няўрымслівы, апантаны чалавек. Чарот знаходзіўся і ў самай гушчы тагачаснага грамадскага жыцця. Ён быў галоўным рэдактарам газеты "Савецкая Беларусь", потым рэдагаваў часопіс "Чырвоная Беларусь", з'яўляўся членам Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР, выбіраўся кандыдатам у члены ЦК Кампартыі Беларусі.

Міхась Чарот марыў пра сусветную рэвалюцыю. Марыў не толькі тады, калі, апалены агнём грамадзянскай, звязаў свой лёс з партыяй. У гэтай рамантычнай апантанасці, пэўным максімалізме паўстае душа чалавека, які заўсёды меў свой погляд на жыццё. Няхай у нечым і памыляўся, аднак уласным поглядам ніколі не здраджваў, застаючыся песняром неспакойнага, бурнага часу, не заўсёды заўважаючы ягоную супярэчнасць. Час нарадзіў Чарота як пісьменніка, але гэты ж час і забраў яго: Чарот быў абвінавачаны ў "нацдэмаўшчыне".

У адзіночнай камеры ён напісаў свой апошні верш "Прысяга". Верш-развітанне і верш-клятву:

*Я вам не здрадзіў,*
*Не зманіў,*
*Бо славіў наш*
*савецкі будзень.*
*Свой верш*
*сардэчнай чысціні*
*Ахвяраваў я*
*родным людзям.*

.................................................

*Мае палі,*
*Мае бары, —*
*Кажу вам — я не вінаваты,*
*Паверце — я не вінаваты!*

Сын сваёй эпохі, ён назаўсёды застаўся ў часе, у якім жыў. Аднак, каб лепей зразумець гэты час, трэба ведаць і жыццё, і творчасць ягонага песняра і ахвяры — Міхася Чарота.

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў і гасцей IX Нацыянальнага фестывалю архітэктуры "Мінск-2011" з адкрыццём форуму. Ён адзначыў, што развіццё архітэктуры і горадабудаўніцтва з'яўляецца адным з самых важных кірункаў сацыяльна-эканамічнай палітыкі беларускай дзяржавы. Прэзідэнт падкрэсліў, што Беларусь заўжды будзе садзейнічаць удасканаленню міжнароднага супрацоўніцтва ў гэтай перспектыўнай сферы.

Міністры культуры Беларусі і Расіі Павел Латушка і Аляксандр Аўдзееў падчас перамоў у Маскве разгледзелі пытанні двухбаковага культурнага супрацоўніцтва, а таксама асобныя сумесныя праекты на 2012 год. Акрамя гэтага Павел Латушка правёў сустрэчу з кіраўніцтвам Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, падчас якой абмеркавалі шэраг сумесных выставачных праектаў.

У Мінску адбылася рабочая сустрэча Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі з Міністрам культуры Турцыі Эртугрулам Гюнаем. У ходзе перамоў былі абмеркаваны пытанні двухбаковага беларуска-турэцкага супрацоўніцтва ў сферы культуры. Міністры разважалі пра наладжванне сумеснай кінавідэавытворчасці, супрацоўніцтва вядучых навучальных устаноў Беларусі і Турцыі, ахову гісторыка-культурных каштоўнасцей, а таксама пра арганізацыю Дзён культуры Беларусі ў Турцыі ў 2012 годзе.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" начальніка ўпраўлення электронных сродкаў масавай інфармацыі Уладзіміра Ядранцава, кансультанта ўпраўлення вытворча-тэхнічнага развіцця Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Тацяну Куляшову, намесніка галоўнага дырэктара вытворча-камерцыйнага таварыства з абмежаванай адказнасцю "Макбел" Георгія Акуліча.

Выстаўка "Па слядах Шагала", прысвечаная жыццю і творчасці аднаго з самых вядомых ураджэнцаў Беларусі, адкрылася ў іерусалімскім цэнтры мастацтваў. У арганізацыі выстаўкі ўзяло ўдзел і пасольства Беларусі : на ёй прадстаўлена скульптура Святланы Гарбуновай "Успаміны пра мой дом", што ўпрыгожвае беларускае дыпламатычнае прадстаўніцтва.

Шматфункцыянальны цэнтр керамічнага рамяства ствараецца ў пасёлку Копысь Аршанскага раёна пры ўдзеле мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. Машэрава. З'яўленне цэнтра будзе садзейнічаць адраджэнню традыцый копыскіх майстроў і дазволіць у найбольш поўнай меры выкарыстаць турыстычны патэнцыял Копысі і наваколля.

Міністэрства культуры фінансуе новыя тэатральныя пастаноўкі паводле твораў беларускай драматургіі: спектаклі "Сымон-музыка" паводле аднайменнай паэмы Якуба Коласа Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра, "Камедыя" паводле п'есы Уладзіміра Рудава Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, "Хамуціус" паводле паэмы Аркадзя Куляшова Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Прэм'еры запланаваны на канец 2011 года.

Музей дарог і паштовай службы будзе адкрыты вясною 2012 года ў Старых Дарогах. Аснову экспазіцыі стварыць аднаўлены інтэр'ер паштовай станцыі, у якую ўваходзілі карчма, гасцявы пакой, кузня і іншыя памяшканні.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# У вірах натхнення

**8 лістапада па даручэнні Кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі дэлегацыя членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі выправілася ў вандроўку па Мінскай вобласці.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

У першы дзень пісьменнікаў прымаў старажытны Слуцк. Яны наведалі Мінскае абласное кадэцкае вучылішча і аграгарадок Казловічы. Развітаўшыся са Слуцкім раёнам, дэлегацыя завітала ў адзін з самых маладых гарадоў Беларусі — Салігорск, дзе пісьменнікаў пазнаёмілі з умовамі жыцця і працы шахцёраў. Літаратары наведалі музей прадпрыемства "Беларуськалій" і патрапілі на экскурсію ў самыя нетры зямлі — пабачылі на ўласныя вочы, як здабываюць соль.

На другі дзень падарожнікаў чакалі сустрэчы на Маладзечанскай зямлі. Яны пабывалі ў Рэспубліканскім літаратурна-мастацкім музеі імя Янкі Купалы ў вёсцы Вязынка, у пасёлку Чысць, у абноўленым напярэдадні Дажынак Маладзечне, дзе выступілі ў цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Пасля вандроўкі па Мінскай вобласці пісьменнікаў чакае двухдзённая паездка па Магілёўшчыне.

— Натхненне пісьменнік чэрпае з жыцця, якое вірue вакол яго, — адзначыў першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Генадзь Пашкоў. — У чатырох сценах ды з тэлевізарам перад вачыма няшмат вартага напішаш, таму час ад часу творцу патрэбна нейкая ўстраска, каб з'явіліся новыя ўражанні дый новыя веды пра тое, чым і як жыве яго народ сёння. Гэтая паездка аднаўляе самыя лепшыя пісьменніцкія традыцыі мінулага, калі творцы ездзілі па краіне, сустракаліся з працаўнікамі, далучалі іх да высокай літаратуры і пры гэтым набіраліся натхнення. Я нават не сумняваюся, што наша вандроўка паспрыяе з'яўленню новых літаратурных твораў.



**Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 8 лістапада даў згоду на назначэнне Алеся Карлюкевіча галоўным рэдактарам установы "Рэдакцыя газеты «Звязда»".**

Віншуем Вас, Алесь Мікалаевіч! Творчага плёну!

Лімаўцы

## Адусюль

### Факты

Пасольства Казахстана ў Беларусі сумесна з ганаровым консульствам Казахстана ў Беларусі ўрачыста адкрыла экспазіцыю, прысвечаную жыццю і творчасці вялікага казахскага пісьменніка Мухтара Аўэзава. Мерапрыемства прайшло ў мінскай сярэдняй школе № 143, якая з 2009 года ў знак дружбы і супрацоўніцтва паміж нашымі народамі носіць імя М. Аўэзава.

Вуліцам новага мікрараёна г. Магілёва нададзены імёны беларускіх паэтаў, празаікаў, драматургаў і публіцыстаў, дзейнасць якіх звязана з Магілёўшчынай: Мікалая Судзілоўскага, Янкі Журбы, Васіля Шашалевіча, Платона Галавача, Васіля Коваля, Анатоля Сербантовіча, Мікалая Лук'янава, Якуба Усікава, Аркадзя Кандрусевіча, Пятра Шасцерыкова, Васіля Матэвушава, Васіля Карпечанкі, Эдуарда Валасевіча.

### Памяць

Факсімільныя выданні кніг Янкі Купалы "Шляхам жыцця" і Якуба Коласа "Сымон-музыка", фінансаваныя Міністэрствам культуры Беларусі, выйдуць у свет да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры.

### Узнагароды

Адбылося ўзнагароджанне лаўрэатаў Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка Брэсцкага аблвыканкама. Прэміі атрымалі чатыры пісьменнікі: Мікалай Кавалевіч з Брэста і Алесь Корнеў з Баранавіч — за зборнікі паэзіі, Мікалай Еляневіч з Пінска — за раманы "Час свята" і "Нагрудны крыж" і Мікалай Туруноўскі — за дзіцячую кнігу "Казкі для маленькай дачкі".

## Імпрэзы

# Фестываль фестываляў

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

**Заўтра ў нашай сталіцы завяршаецца XVIII мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад". Прыхільнікам дзясятай музы ён падараваў шчодры і стракаты феерверк уражанняў, улучыўшы ў кола ўдзельнікаў кінематаграфістаў больш як 30 краін: Азербайджана, Арменіі, Аўстрыі, Балгарыі, Беларусі, Бельгіі, Бразіліі, Венгрыі, Германіі, Грузіі, Ізраіля, Італіі, Кыргызстана, Латвіі, Мексікі, Манголіі, Нідэрландаў, Паўднёвай Карэі, Польшчы, Расіі, Румыніі, Сербіі, Турцыі, Украіны, Францыі, Харватыі, Эстоніі...**

Захоўваючы сваю галоўную традыцыю, сёлетні "Лістапад" прадставіў мінскай публіцы толькі тыя фільмы, што паспелі ўжо выклікаць цікавасць і атрымаць станоўчы розгалас у прафесійным і глядацкім асяроддзі, вызначыцца ў конкурсных праграмах буйных фестываляў.

У сваім віншавальным звароце да ўдзельнікаў "Лістапада-2011" Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка зазначыў, што за мінулыя гады гэты кінафорум ператварыўся ў грамадска-культурную падзею сусветнага маштабу і аб'ядноўвае ўсіх, каму дарагія ідэалы гуманізму і высокага мастацтва, дае нам цудоўную магчымасць убачыць новыя фільмы праслаўленых мэтраў і маладых рэжысёраў, у аснове якіх вечныя каштоўнасці.

Дарэчы, на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця мінскага міжнароднага кінатыдня быў названы ўладальнік штогадовага спецыяльнага прыза Прэзідэнта Беларусі "За захаванне і развіццё традыцый духоўнасці ў кінамастацтве". Сёлета гэтай высокай узнагародай ганараваны народны артыст Украіны і СССР Багдан Ступка, якога нашы гледачы памятаюць, між іншым, не толькі па бліскучых кінаролях, але і па вобразах у драматычных спектаклях, паказаных на гастролях знакамітым тэатрам імя І. Франка яшчэ ў савецкі час. На жаль, з-за стану здароўя выдатны акцёр не змог прыехаць на фестываль, і высокую ўзнагароду для яго міністр культуры нашай краіны Павел Латушка перадаў праз Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Украіны ў Беларусі Віктара Ціханава...

Заўтра мы даведаемся, як журы "Лістапада-2011" размеркавала галоўныя прызы сёлетняга кінаспаборніцтва ў розных жанрах і намінацыях. А гледачы, якія наведвалі прагляды ігравога і дакументальнага кіно, праграмы "Лістападзіка" і пазаконкурсныя паказы, ужо вызначыліся ў сваіх сімпатыях.

## Перспектывы

# «Катрушніцкі лемезень» і ЕўрАзЭС

**У Мірскім замку, дзе традыцыйна праходзяць знакавыя пасяджэнні, якія датычаць лёсу нашай культуры, пры канцы мінулага тыдня сабраліся прадстаўнікі міністэрстваў культуры Беларусі, Расіі, Казахстана, Кыргызстана і Таджыкістана. У сценах старажытнага замка адбылося трэцяе пасяджэнне Савета па культуры пры Інтэграцыйным Камітэце ЕўрАзЭС.**

Ірына ТУЛУПАВА

На парадку дня значылася 10 пытанняў. Самае галоўнае — праект Пагаднення аб супрацоўніцтве дзяржаў-членаў ЕўрАзЭС у сферы культуры. У полі зроку былі пытанні развіцця гуманітарнага супрацоўніцтва: сумесных праектаў і кантактаў паміж музычнымі і канцэртнымі дзеячамі, музеямі; супраца па вывучэнні, папулярызацыі музейных прадметаў і калекцый, бібліятэчных і архіўных фондаў, аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны, твораў мастацтва. Спектр пытанняў дастаткова шырокі, так што ў бліжэйшай будучыні варта чакаць ажыўлення культурных стасункаў.

Асаблівая размова ішла пра фестываль культур народаў ЕўрАзЭС. Першы фестываль некалькі гадоў таму адбыўся ў Мінску, другі — у Астане, трэці мяркуецца правесці ў Кыргызстане. Рабочай групе даручана распрацоўка канцэпцыі фестывалю, яго тэматычнае і жанравае напаўненне.

Разглядаўся таксама вопыт працы Беларусі і Кыргызстана па ахове нематэрыяльнай спадчыны. Беларусь распавяла пра тое, якія падыходы і механізмы па зберажэнні нашай жывой культуры, якая перадаецца ад пакалення да пакалення, напрацаваны апошнім часам. Вопыт немалы: Беларусь адной з першых краін у 2003 годзе падпісала Канвенцыю ЮНЕСКА пра захаванне нематэрыяльнай спадчыны. Далейшая праца ў складзе адпаведнага Міжурадавага камітэта ЮНЕСКА ў 2006 — 2009 гг. дазволіла набыць пэўную практыку. Паводле слоў начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Ігара Чарняўскага, падыходы з Кыргызстанам, як і з іншымі краінамі, у нас падобныя. Ад Беларусі ў спісе нематэрыяльнай спадчыны знаходзіцца толькі абрад "Калядныя цары". Але гэтымі днямі на міжнародным узроўні разглядаецца другі абрад — традыцыя шапавальства. А менавіта — унікальны досвед шапавалаў "Катрушніцкі лемезень" Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці.

"Мы вырашылі, што прымаем пагадненне аб супрацоўніцтве ў сферы культуры. Гэта досыць шырокі круг тэм па ўсіх напрамках, — зазначыў пасля сустрэчы ў Міры намеснік Генеральнага сакратара ЕўрАзЭС Мурат Мусатаеў. — Вылучыць адзін ці некалькі напрамкаў цяжка. Напачатку трэба выпрацаваць агульныя падыходы. А ў далейшым зможам канкрэтызаваць, і ў гэтым нам дапамогуць больш шчыльныя стасункі".

На пытанне карэспандэнта "ЛіМа", якія пункты пагаднення могуць паспрыяць падтрымцы чытання — праблемы, актуальнай для ўсіх краін свету, спадар Мусатаеў зазначыў: "Чалавек, які прыязджае ў любую краіну, найперш вывучае яе літаратуру, цікавіцца мовай, культурай, традыцыямі, бытам. Калі народы атрымаюць магчымасць гутарыць на мове культуры, яны хутчэй зразумеюць адзін аднаго".

Літабсягі

# Узрост мудрасці

**Юбілейная творчая вечарына вядомага паэта і празаіка Ганада Чарказяна адбылася ў Доме Дружбы. Вёў яе паэт і радыёжурналіст Навум Гальпяровіч, які даў адчуць прысутным усю непаўторнасць таленту і выключнасць асобы чалавека, павіншаваць якога сабраліся прыхільнікі яго творчасці.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Тое, што для літаратара шэсцьдзясят пяць гадоў — зусім не ўзрост, даказана мноствам цікавейшых твораў сусветнай літаратуры. Ганад Бадрыевіч кнігамі сваімі, якія выйшлі апошнім часам, паказаў, што паэзія і проза яго сталі яшчэ больш адшліфаванымі і па-мастацку дасканалымі. Кола прыхільнікаў творчасці Г. Чарказяна ў Беларусі расце, яго паэтычныя афарызмы і празаічныя філасофскія выказванні цытуюць там, дзе збіраюцца людзі творчых спецыяльнасцей, а на творы спасылаюцца ў салідных перыядычных выданнях.

Ганад Чарказян — курд з Арменіі, які прыехаў у Беларусь, — здолеў арганічна ўпісацца ў сучасную беларускую літаратуру. Пра літаратурны лёс пісьменніка і яго асобу — яркую, неадназначную — разважалі на вечарыне калегі і сябры Ганада Бадрыевіча. Іх аказалася нямала. Паэт Мікола Мятліцкі, які пераклаў шэраг твораў Чарказяна, цёпла і пранікнёна распавёў пра творчае супрацоўніцтва з юбілярам, пра тое, як цудоўна клаліся на беларускую мову метафарычныя, філасофскія вершы Ганада Бадрыевіча. Ён і прачытаў прысутным некалькі любімых сваіх перакладаў.

З вуснаў публіцыста і крытыка Алеся Марціновіча прагучалі самыя добрыя словы ў адрас творчасці Чарказяна і самыя найлепшыя пажаданні будучых поспехаў. Паэт Анатоль Зэкаў распавёў прысутным пра работу Ганада Бадрыевіча ў дзіцячай літаратуры. Партрэт юбіляра дапоўнілі паэты Казімір Камейша і Віктар Шніп. Узгадалі і пра нядаўнюю літаратурную перамогу Чарказяна: дыплом другой ступені ў штогадовым конкурсе на лепшы літаратурны твор — у галіне прозы. Песні на словы юбіляра выконваў вядомы бард Алесь Камоцкі.



Сардэчна віталі гаспадара вечарыны старшыня армянскай суполкі ў Беларусі Георгій Егізаран, тэлевядучы Тэнгіз Думбадзэ, мастакі Каміл Камал, Спартак Аруцюнян і Аляксандр Каршакевіч. А кульмінацыяй стала ўручэнне юбіляру старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым Ганаровай граматы Мінскага гарадскога аддзялення СПБ і дыплома СПБ "За значны ўклад у развіццё беларускай літаратуры, актыўную грамадскую работу і ў сувязі з 65-годдзем".

Прынята лічыць, што ўзрост мудрасці пісьменніка надыходзіць пасля шасцідзесяці, калі вопыт, разуменне чалавечай сутнасці і прадвызначэння, шанаванне жыцця і гатоўнасць дзяліцца сваімі ведамі з паслядоўнікамі змяняюць юнацкую палкасць і прагу пазнання. Цягнецца ж гэты сапраўды "залаты" перыяд творчасці майстра столькі, колькі здольны ён трымаць пяро ў руках. Усе прысутныя жадалі Ганаду Бадрыевічу доўгіх гадоў жыцця і новых цудоўных, мудрых, памяркоўных кніг.

***На здымку: Ганад Чарказян і Навум Гальпяровіч падчас вечарыны.***

Артлінія

# За мяжой рэальнасці



**Дзесяць персанальных выставак за сем гадоў? Проста неверагодна! Тым не менш, гэта — факт. І факт біяграфіі мастака, якому крыху больш за трыццаць. Хаця жывапіс маладога творцы да гэтага часу экспанаваўся ў Слуцку, Салігорску, Старых Дарогах, Капылі, Любані, Бярозе, з яго работамі знаёмыя нават замежныя аматары мастацтва: карціны таленавітага беларуса ёсць у прыватных калекцыях ЗША, Італіі, Канады, Літвы, Расіі, Украіны. Яго імя — Аляксандр Салтавец.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

Сталічны глядач упершыню знаёміцца з яго творчасцю. Прычым у Мінску ладзяцца запар дзве выстаўкі Аляксандра Салтаўца: да 12 лістапада — "На мяжы рэальнасці і казкі" ў галерэі "Універсітэт культуры", з 17 лістапада па 19 снежня — "У краіне Цудаў" у мастацкай галерэі "Вільнюс". Такія, можна сказаць, канцэптуальныя назвы (а сярод ранейшых выставак былі "Старыя казкі", "У свеце ілюзій", "Душы маёй матывы", "На скрыжаванні сноў", "Цуды", "Снення") — як сігнал гледачу: настройвайся на сустрэчу з ірэальным, уяўным, з вобразамі фантазійнымі, з дзівосным светам падсвядомасці.

Яно і праўда: пераступіўшы парог выставачнай залы, апынаешся сярод незвычайных персанажаў, нібы народжаных між рэальнасцю і сном, на памежжы зямнога і мройнага. Летуценнікі, чарадзеі, відачынцы, загадкавыя незнаёмкі, казачна-містычныя істоты, гэтак падобныя да людзей, — усе яны існуюць і рухаюцца ў дзіўнай бясчасавай прасторы, дзе Яго Вялікасць Час парадаксальным чынам усё ж нагадвае пра сябе: то фрагментам цыферблата, улучаным у кола мудрагелістага ровара; то гадзіннікам з рымскімі лічбамі, па якім, быццам па званкім барабане, заўзята б'е карнавальны музыка; то глыбокімі сумнымі вачамі алегарычнай "Каляднай ночкі"; то кранальнымі постацямі камедыянтаў, што крочаць паўз прывіднае смарагдавае святло знарочыста дэкаратыўнай вулачкі... Такая бязмежная фантазія, такая пазазямная выразнасць колераў (асабліва ўражвае ў аўтарскай палітры сіні!), такая невытлумачальна бяздонная самота бываюць толькі ў сне, калі чалавек застаецца сам-насам з тонкім светам свайго "я", паміж досведам і прадчуваннямі...

Творчая індывідуальнасць А. Салтаўца, ураджэнца вёскі Грэск на Случчыне, выявілася ў маленстве. Апантанасць маляваннем адкрыла яму дарогу ў прафесію. Скончыўшы Мірскі каледж будаўніча-рэстаўрацыйных работ, Аляксандр вярнуўся на радзіму — выкладаць выяўленчае мастацтва ў Грэскай ДШМ. Ён раскрыў і падтрымаў ужо нямала талентаў, якія, натхнёныя прыкладам настаўніка, звязваюць сваю жыццёвую перспектыву з творчасцю.

***На здымку: Аляксандр Салтавец "Палёт незнаёмкі".***

Повязі

# Наш чалавек з Урала



**Абменныя гастролі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра і Свярдлоўскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра музычнай камедыі запланаваныя ў межах міждзяржаўнай культурнай праграмы. Гасцей з Урала мы будзем прымаць у чэрвені наступнага года; візіт мінскіх артыстаў у Екацярынбург (падчас якога адкрыюць помнік У. Мулявіну на яго радзіме) мае адбыцца восенню 2013-га. Але падрыхтоўка гэтага некамерцыйнага праекта, маштабнага і ў творчым, і ў арганізацыйным, і ў фінансавым сэнсах, пачалася ўжо сёння.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

Пра залатую калекцыю спектакляў, якую пакажа мінчанам тэатр з Екацярынбурга, журналістам распавёў яго дырэктар Міхаіл Сафронаў — чалавек, для якога Мінск даўно стаў блізкім горадам. "З Мінскам звязаныя 10 лепшых гадоў майго жыцця, хаця з'явіўся ён у маім лёсе зусім выпадкова, — прызнаўся Міхаіл Вячаслававіч. — Сям'я жыла пад Свярдлоўскам, і мне было ўсё адно куды ехаць вучыцца, каб атрымаць тэатральную прафесію, пра якую марыў. Узяў даведнік адпаведных ВНУ ўсяго Саюза, і старонка, што неяк сама сабой, адвольна разгарнулася, вызначыла мой выбар: глянуў — а там Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Вось і паехаў у далёкі Мінск. Паступіў без цяжкасцей на курс, які набіралі майстры-купалаўцы Глебаў і Платонаў..."

Пасля заканчэння інстытута (1972) М. Сафронаву давялося папрацаваць у ЦК ЛКСМБ. Ды ўсё ж вярнуўся на родны Урал. Сёння ён сакратар Саюза тэатральных дзеячаў Расіі, старшыня Свярдлоўскага аддзялення СТД, прэзідэнт асацыяцыі тэатраў Урала і ўжо 12 гадоў — дырэктар знанага і шаноўнага на ўсёй постсавецкай прасторы тэатра музычнай камедыі. Пасля вяртання гораду Екацярынбургу яго гістарычнага імя тэатр захаваў сваю "брэндавую" назву: Свярдлоўскі, а таксама рэпутацыю "лабараторыі": калісьці савецкай аперэты, сёння — расійскага мюзікла. За 80-гадовую гісторыю тэатра тут было толькі 3 (!) галоўныя рэжысёры, і сёння гэта народны артыст Расіі Кірыла Стрэжнеў. Работы калектыву адзначаныя 16-ю "Залатымі маскамі". Для яго пішуцца арыгінальныя творы. Апроч класічнай асновы ёсць аркестр народных інструментаў, студыя эстраднага і джазавага вакалу, сусветна вядомы Эксцэнтрык-балет Сяргея Смірнова. Тут супраць масавых культпаходаў — за сямейнае наведванне тэатра.

Мы ўбачым 8 лепшых разнажанравых спектакляў: "Кацярына Вялікая", "Ахоўвай мяне, любая", "Сіняя барада", "Прывітанне, я ваша цётка", "Чорт і нявінніца"... Дырэктар перакананы: ёсць што паказаць гледачам. А сваім землякам ён з прыемнасцю пакажа Мінск.

***На здымку: наш госць Міхаіл Сафронаў расказвае...***

З-пад пяра

"У гонар Еўфрасінні дзеля будучыні Беларусі" — пад такой назвай у Бабруйскай бібліятэцы № 8 імя Еўфрасінні Полацкай адбыліся Еўфрасіннеўскія чытанні, прысвечаныя 910-годдзю з дня нараджэння асветніцы і 850-годдзю з часу стварэння Лазарам Богшам Крыжа Еўфрасінні. На "круглы стол" "Асветніца з роду Усяслава", які прайшоў у першы дзень чытанняў, былі запрошаны настаяцель Свята-Георгіеўскага храма протаіерэй Генадзь Вейга і метадыст духоўна-асветніцкага цэнтра пры Свята-Георгіеўскім храме Клаўдзія Шчэрбіч. У другі дзень чытанняў дзеці са школы-інтэрната для сірот пазнаёміліся з жыццём і дзейнасцю Еўфрасінні Полацкай і прагледзелі фільм "Манастыр каля царквы Спаса".

**Наталля КАЎТАРЭНЯ**

На гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшла прэзентацыя кнігі "Ад роднага парога", напісанай былым дэканам факультэта Іраідай Царук. Вырашаная ў мемуарным жанры, кніга гэтая тым не менш можа быць успрынятая як своеасаблівая хроніка краіны, паказаная праз гісторыю адной сям'і — сям'і Прытыцкіх, у якой нарадзілася Іраіда Осіпаўна і яе брат, вядомы дзяржаўны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі Сяргей Прытыцкі. Прэзентацыя выклікала зацікаўленасць у студэнтаў і выкладчыкаў.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

Вось ужо некалькі гадоў літаратурна-музычным аб'яднаннем "Світанак" пры раённым Доме культуры ў г. п. Шаркаўшчына кіруе пісьменніца Кацярына Сосна. За першае паўгоддзе яна са сваімі актывістамі правяла дзевятнаццаць сустрэч з чытачамі, мэтай якіх стала прапаганда літаратуры і чытання. Калектыў "Світанка" ў наступным годзе адзначае юбілей — 20 гадоў з дня заснавання. Свой юбілейны год яны рыхтуюцца правесці ў межах святкавання Дня беларускага пісьменства, якое ў 2012 годзе пройдзе на Глыбоччыне.

**Галіна ЛЕБЕДЗЬ**

У Гомельскай абласной бібліятэцы імя А. Герцэна прайшла літаратурная вечарына, падрыхтаваная школай-студыяй "Малады літаратар". На ёй былі прадстаўлены кнігі з серыі "Аз", якую заснаваў паэт Іван Бісеў, і серыі "Бібліятэчка школы-студыі «Малады літаратар»", заснавальнік якой — пісьменнік Валерый Вятошкін. Праз гэтыя серыі ў 2011 годзе пабачылі свет дзве кнігі лірыкі Стасі Кацюргіной, кнігі Вольгі Астапенкі і Таццяны Нілавай, празаічны зборнік Сяргея Прывалава. У школе "Малады літаратар" займаецца нямала таленавітых дзяўчат і хлопцаў, а значыць, кніжныя серыі будуць доўжыцца.

**Ала ДАРАШЭНКА**

У Адэсе адбыўся Міжнародны фестываль інтэграванага Клуба вясёлых і знаходлівых, удзел у якім узяла і каманда "Батлейка" з Беларусі. Слова "інтэграваны" ў назве фестывалю азначае, што членамі каманд з'яўляюцца разам з іншымі і інваліды. Мэта гульняў інтэграванага КВЗ — адаптацыя і інтэграцыя інвалідаў, выхаванне талерантных адносін паміж інвалідамі і не-інвалідамі. Разам з мінчанамі ў гульнях удзельнічалі вопытныя каманды з Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці, Кастрамы, Адэсы. Па выніках спаборніцтва "Батлейка" заняла прызавое трэцяе месца і была ўзнагароджана малым кубкам фестывалю.

**Алесь СУХАДОЛАЎ**

Ала БРАДЗІХІНА

# Нежаночы жаночы раман

**У пошуках найбольш адэкватных форм і жанраў для прыцягнення шырокага кола чытачоў адметнае месца належыць жаночаму раману, які, з аднаго боку, карыстаецца сёння вялікай папулярнасцю, з другога — традыцыйна ўспрымаецца ў межах так званай масавай (тут: пара-, псеўда-) літаратуры. Паспяховае вырашэнне гэтай дылемы выразна дэманструе творчасць В. Куртаніч.**



Яе раман-парафраз “Залюстрэчча для Алісы”, відавочна, мае сінтэтычную жанравую структуру. На першы погляд, твор валодае ўсімі атрыбутамі жаночага рамана. Аповед вядзецца ад імя жанчыны з незвычайным, як і належыць гэтаму жанру, імем, надзеленай падкрэслена прыцягальнай знешнасцю: “Мне было дваццаць два гады, і пры ўважлівым аглядзе можна запэўніцца, што гады шлюбу не сапсавалі ані твару, ані фігуры; бляск недаспаных вачэй, худзіна, што прыкінулася, як хвароба, ад ляжання на нечакана мулкім ложку, нездаровы румянец яшчэ больш зрабілі мяне падобнай на Шэран Стоўн”. У цэнтры сюжэта — любоўны нават не трохкутнік, а шматграннік: Сымон (былы муж Алісы, які непасрэднага ўдзелу ў падзеях не прымае, але ценем мінулага праследуе гераіню); сама Аліса; увасабленне кэралаўскага Белага Рыцара — рамантычны Дзям'ян; прагматычны, уплывовы і “дэманічны” шэф І. І., які па невядомых прычынах апякуецца гераіняй; Фаіна Шлейль, характар адносін якой з апошнім не паддаецца вытлумачэнню. Аліса знаходзіцца на жыццёвым пераломе: яна толькі што перажыла развод і, “па ўсіх правілах сентыментальных раманаў, пачала праяўляць абыякавасць да жыцця”. Аднак вы выпадковае знаёмства з Дзям'янам, якое перацякае ў любоўныя адносіны, нечаканая “дабрадзейнасць” шэфа — дарагія падарункі, аплачванне прыватных настаўнікаў па філасофіі і мастацтвазнаўстве, што адкрывае кар'ерныя перспектывы перад гераіняй, прапанова стаць мадэллю для напісання партрэта багіні Юноны — усё гэта абуджае ружовыя жаночыя мроі, самымі жаданымі з якіх становяцца шчаслівае каханне і магчымасць адкрыць уласную карцінную галерэю.

Стыль аповеду — нязмушаны, з характэрнымі каментарыямі-ацэнкамі гераіняй сябе і ўласных паводзін з пазіцыі староннягa назіральніка — таксама стварае ўласцівы “love-story” эфект даверлівых альбомна-дзённікавых запісаў: “Мы размаўлялі як партнёры; я згубіла асцярожнасць, што, зрэшты, уласціва маладым жанчынам”. Або: “Ён кіўнуў галавой, я зразумела, што прайшла нейкі пэўны этап і вытрывала праверку. Цяпер я магла лёгка і бяспечна блукаць у сваіх дзвюх соснах”. Спрыяюць яго ўзмацненню і выкарыстаныя аўтаркай шматлікія меладраматычныя клішэ. Паказальнымі могуць выступаць пікантная сцэна ў таксі, якая наўпрост адсылае чытача да славутага эпізоду галівудскага фільма “Асноўны інстынкт”, або сімвалічнае мёртвае цельца змерзлай птушкі, што становіцца папярэджаннем-перасцярогай перад раптоўнай смерцю каханага Алісы Дзям'яна ад спадчыннай хваробы (прычына, дарэчы, раскрываецца толькі пасля пахавання, а таму такі варыянт развіцця падзей выклікае хутчэй неўразуменне, чым “слязліва-ружовую” эмацыянальную рэакцыю, прадугледжаную канонамі жанру).

> *“Залюстрэчча для Алісы” В. Куртаніч уяўляе сабой даволі ўдалую спробу паяднаць несумяшчальныя на першы погляд паняцці “дамскага рамана” і “інтэлектуальнай прозы”.*

Нарэшце, выкарыстоўваецца ў творы і ўласцівы жаночым раманам казачны архетып Папялушкі, набываючы пры гэтым адмысловую гратэскава-абсурдную рэалізацыю. Аліса, насуперак па-майстэрску створанаму пісьменніцай ланцугу знешніх падзей, замест багіні — аб'екта пакланення неафітаў створанай І. І. рэлігіі (дзіўнай сумесі іудаізму і антычнага паганства) — ператвараецца ў ахвяру-марыянетку. У параўнанні з рускай аўтаркай жаночых раманаў М. Марэевай, якая нярэдка наўпрост карыстаецца знаёмымі чытачу казачнымі сюжэтнымі формуламі, што празрыста прасочваецца ўжо ў назвах (“Прынцэса на бабах”, “Стойкі алавяны Салдатаў”), мадэль інтэртэкстуальнай сувязі “Залюстрэчча для Алісы” В. Куртаніч з мастацкім тэкстам Л. Кэрала нашмат складанейшая. Імкнучыся акрэсліць гэтыя ўзаемадачыненні, пісьменніца абазначыла жанр свайго твора тэрмінам “раман-парафраз”, што, паводле трапнага назірання І. Шаўляковай, варта разглядаць у кантэксце музыказнаўства “як твор віртуознага характару на адну ці некалькі запазычаных тэм, што аздабляюцца і вар'іруюцца (прычым асобныя варыяцы звязваюцца паміж сабою разнастайнымі пераходамі, пасажамі)”.

Асэнсаванне ў агульнай плыні ўчынкаў і слоў персанажаў уставак-цытат з казкі Л. Кэрала якраз і стварае другі, філасофска-інтэлектуальны, узровень успрымання рамана В. Куртаніч. Паміж згаданымі тэкстамі ўзнікае трывалая ўзаемасувязь. З аднаго боку, урыўкі з казкі англійскага пісьменніка служаць своеасаблівымі ключамі, дапамагаючы дэшыфроўцы ўнутранага сэнсу сюжэтных хадоў рамана-парафраза. З другога — пэўны эпізод твора беларускай аўтаркі становіцца тлумачэннем-ілюстрацыяй “бяссэнсіцы” Л. Кэрала, пераводзячы яе ў сферу наглядных сітуацый. Пры гэтым у аснову мастацкай арганізацыі абодвух тэкстаў пакладзены прынцып абсурду, толькі ў англійскага празаіка ён вонкавы, а ў нашай сучасніцы — унутраны, спалучаны з захаваннем знешняй лагічнасці і праўдападобнасці падзей. Аднак, у адрозненне ад твораў Л. Кэрала, у рамане В. Куртаніч практычна адсутнічае гумарыстычны складнік. Жанравая сінтэтычнасць “Залюстрэчча для Алісы” не абумоўліваецца ні ўзмацненнем іранічнага модусу мастацкасці, ні спалучэннем меладраматычных матываў з крымінальнымі, як тое нярэдка адбываецца ў сучасных рускіх “love-story”.

> *Стыль аповеду — нязмушаны, з характэрнымі каментарыямі-ацэнкамі гераіняй сябе і ўласных паводзін з пазіцыі старонняга назіральніка — таксама стварае ўласцівы “love-story” эфект даверлівых альбомна-дзённікавых запісаў.*

Відавочна, твор В. Куртаніч уяўляе сабой даволі ўдалую спробу паяднаць несумяшчальныя на першы погляд паняцці “дамскага рамана” і “інтэлектуальнай прозы”. Героі пастаянна абмяркоўваюць складаныя пытанні з гісторыі філасофіі, рэлігіі, мастацтвазнаўства і літаратуры, свабодна цытуючы Біблію, старадаўніх мысляроў, класічных еўрапейскіх і сучасных беларускіх паэтаў. З самай першай старонкі Аліса схільная разважаць пра сваё жыццё, аперыруючы навуковымі катэгорыямі (“Падчас трохгадовых побытавых баталій мяне не цікавілі такія магчымыя передышкі, як: спецыфічнаcітуатыўная, геданісцкая, душэўная, зацягненая, заблытаная, якая падтрымлівае шлюб, якую трэба прымаць належна перад скасоўваннем шлюбу, — адным словам, здрады”) і шчодра перасыпаючы свае развагі лацінскімі выразамі. Апошнія, трэба сказаць, часам выглядаюць недарэчна (“Што быў мой сон: argumentum ad hominem ці argumentum ad rem?”), хаця ў цэлым заўважаецца мэтазгоднасць іх выкарыстання, падпарадкаванасць задачы маркіраваць такім чынам этапы “адукацыі” галоўнай гераіні.

Насычанасць твора міфалагічнымі алюзіямі-рэмінісцэнцыямі, прычым самага рознага паходжання (біблейскімі, старажытнагрэчаскімі і рымскімі, індыйскімі, егіпецкімі), існаванне нейкага закрытага рэлігійнага “клуба”, таямніца якога раскрываецца бліжэй да фіналу рамана, прарочыя сны і іх вытлумачэнні, здзяйсненне прыкметпапярэджанняў складаюць яшчэ адзін пласт-узровень “Залюстрэчча для Алісы” — містычны. Аднак яго наяўнасць не абмяжоўваецца займальнай функцыяй і дазваляе не толькі заінтрыгаваць чытача, але і выкарыстаць цэлы комплекс матываў: раздваення і падмены-падробкі, знешняй і ўнутранай свабоды і незалежнасці, узвышэння-падзення, пошуку і страты сябе, — праз якія раскрываецца адна з галоўных філасофскіх ідэй твора — ідэя ідэальнай раўнавагі паміж супрацьлеглацямі, іх ізаморфнасці і адзінства.

Безумоўна, трансфармацыя звыклых літаратурных мадэлей шляхам дыфузіі жанраў і форм, змешвання самых розных стыляў, спалучэнне тэхнікі формульнага пісьма з традыцыямі інтэлектуальнай прозы не з'яўляецца ўніверсальным рэцэптам поспеху, але можа стаць адной з плённых тэндэнцый развіцця сучаснага жаночага рамана.

## Universum



Віка ТРЭНАС

### Калі маўчанне — золата

*“Дзве рэчы небяспечныя для таго, каб падняцца па лесвіцы поспеху: маўчаць, калі надыходзіць час гаварыць, і гаварыць, калі надыходзіць час маўчаць”, — сцвярджаў Фрыдрых Бодзіштэйн. Ці датычыцца гэтае выслоўе паэта, для якога слова — аснова творчасці, галоўны “працоўны інструмент”? Безумоўна! Любы дасведчаны рэдактар параіць пачаткоўцу ставіцца да вобразаў ашчадна, бо ў вершы, як кажуць, не павінна быць нічога лішняга. Кожнае слова мусіць мець сваё месца, а твор будуецца з іх, нібы дом з цаглін. Пра каштоўнасць паэтычнага маўлення, а што важней — маўчання, пра пісьменніка, які дасканала валодае сваім майстэрствам і пра сакрэты літарацкага поспеху — гэты расповед.*

#### Эстэтыка маўчання

Паэт, літаратуразнаўца Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў нарадзіўся ў 1976 годзе. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, магістратуру і аспірантуру па кафедры тэорыі літаратуры. Вывучаў тэалогію. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Друкуецца з 1992 года. Першая паэтычная кніга “Паміж небам і багнаю” пабачыла свет у 1997 годзе ў “Бібліятэцы часопіса «Маладосць»”.

Перад намі — другая кніга Алеся пад назвай “Эстэтыка маўчання”. У новы зборнік увайшлі філасофска-тэалагічныя вершы, а таксама паэма. Раздзелы “Прырода цішыні” і “Гефсіманскае галлё” вызначаюцца надзвычай сур'ёзнымі творамі, што закранаюць быційныя пытанні. Аднак у кнізе знайшлося месца іроніі і філалагічным штукарствам (дарэчы, зробленым з вялікім густам і пачуццём меры) — пра гэта сведчыць раздзел “Пароды без арыгіналаў”.

Галоўнае ў кнізе “Эстэтыка маўчання” — адчуванне няспыннага працэсу мыслення і вельмі дакладнага стаўлення да Слова, бо з Яго, як вядома з Бібліі, усё і пачалося. Уважлівасць да верша, важкасць кожнага вобраза, празрыстая глыбіня думкі — у Алеся Дуброўскага-Сарочанкава ёсць чаму павучыцца. Калі, канечне, паэт-пачатковец прызнае неакласічную літаратурную школу і хоча стварыць уласную эстэтыку, а не дэканструяваць яе, што цяпер модна.

#### «Новая зямля» і «Новае неба»

Назва твора “Новае неба”, змешчанага напрыканцы кнігі, суадносіцца з назвай паэмы Якуба Коласа “Новая зямля”. У чым сэнс такога суаднясення? Для многіх чытачоў “Новая зямля” — “энцыклапедыя сялянскага жыцця”. Але хочацца звярнуць увагу на тое, што назва выбітнага коласаўскага твора мае таксама глыбока філасофскі сэнс, калі згадаць радкі з Біблії (якія былі ўзятыя Алесем у якасці першага эпіграфа да ягонай уласнай паэмы): “І ўбачыў я новае неба і новую зямлю...” Дарэчы, эпіграфы ў паэме маладога аўтара адыгрываюць найважнейшую ролю ў разуменні “Новага неба”: яны раскрываюць канцэптуальную сувязь твора, напісанага ў XXI стагоддзі, з шэдэўрамі сусветнай філасофскай думкі і літаратуры. Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў прызнаецца: “Гэтую паэму можна ўспрымаць як разважанне *паміж радкоў* “Новай зямлі”. Аўтар паспрабаваў аб'яднаць у сваёй невялікай па аб'ёме, але вельмі змястоўнай паэме культурны досвед, захаваны ў найлепшых узорах сусветнай літаратурнай класікі.



# Сонечныя сны

**17 кастрычніка Аляксандру Станюту, пісьменніку, доктару філалагічных навук, прафесару, даследчыку творчасці Ф. Дастаеўскага і арыгінальнаму літаратурнаму крытыку, споўнілася б 75 гадоў. Ён адышоў у іншы свет у жніўні гэтага года, але маштаб зробленага ім, на маю думку, зусім не адпавядае ступені публічнага прызнання ягонага таленту.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

## Біёграф, інтэрпрэтатар, дакументаліст?

Упэўнены, падобнае меркаванне будзе прынята асобнымі чытачамі з іроніяй, а то і ўнутраным пратэстам. Як можна казаць пра недастатковае ўшанаванне, калі ў А. Станюты былі рэгаліі і высокі грамадскі статус, калі былі выдадзеныя кнігі, калі ён адчуваў павагу з боку калег і меў высокі аўтарытэт сярод колішніх студэнтаў? Тым не менш не пакідае адчуванне, што асоба і творчасць Аляксандра Аляксандравіча па-ранейшаму ўспрымаюцца ў вузкім кантэксце.

Для дасведчаных тэатралаў Аляксандр Аляксандравіч з'яўляецца біёграфам Стэфаніі Станюты, сваёй маці. Пераацаніць значнасць кнігі "Стэфанія" цяжка. Лічаныя беларускія акцёры пакінулі ўспаміны або мэтанакіравана гутарылі з журналістамі. Таму дакументальная аповесць, якая змяшчае ў сабе шмат цікавых дэталяў, падрабязнасцей творчага жыцця самой артысткі, яе калег, Купалаўскага тэатра ўвогуле, ліквідуе "белыя плямы" ў гісторыі айчыннага сцэнічнага мастацтва. Для іншых А. Станюта цікавы найперш у якасці крытыка і літаратуразнаўцы, бо яго памятаюць як аўтара дзвюх кніг пра творчасць Ф. Дастаеўскага, зборніка "Плошча свабоды", шэрагу літаратурна-крытычных даследаванняў.

Але нягледзячы на глыбіню ацэнак, тэатральная і літаратурная крытыка застаецца з'явай у нечым другаснай у параўнанні са стварэннем арыгінальнага тэксту, спектакля, фільма. Крытык застаецца ў сваім часе — разам з большасцю з'яў мастацтва, пра якія ён напісаў. Тады як лепшыя ўзоры арыгінальнай творчасці пачынаюць самастойнае жыццё ўжо без інтэрпрэтатара (нешматлікія выключэнні, кшталту В. Бялінскага, толькі пацвярджаюць правіла). Таму для крытыка адна з магчымасцей застацца ў якасці стваральніка першаснай мастацкай з'явы — шлях у празаікі жанры.

Станюта зрабіў такі крок у сталым узросце, калі былі апублікаваныя яго раманы "Гарадскія сны" і "Сцэны з мінскага жыцця", шэраг аповесцей і апавяданняў. Творчасць пісьменніка атрымала станоўчыя водгукі. Тым не менш сфарміравалася меркаванне, што кнігі Станюты — гістарычная дакументалістыка, магчымасць перанесціся ў ваеннае і пасляваеннае мінулае Мінска, стаць сведкамі нямецкай акупацыі, забойства Кубэ, вызвалення, наладжвання быту пасля вайны ("Гарадскія сны") або трапіць у эпоху "адлігі" ("Сцэны з мінскага жыцця"). Магчыма, некаторыя падставы для такога падыходу даў сам аўтар. Уладальнік сапраўды фантастычнай памяці, А. Станюта захаваў ва ўяўленні назіранні, уражанні, малюнкі далёкага мінулага. Улічваючы, што з таго часу (асабліва ваеннага) засталося няшмат сведчанняў, прычым яркіх, непасрэдных, дзіцячых або юначых, творы пісьменніка сталі сапраўдным кландайкам для аматараў сталічнай даўніны. Аднак і такі падыход звужае ўспрыманне Станюты як пісьменніка. Пры такой логіцы яго проза ўспрымаецца як кнігі для мінскіх інтэлігентаў сталага веку або маладых аматараў гісторыі, якія доўгімі вечарамі паглыбляюцца ў мінулае сталіцы.

Такім чынам, сын-біёграф, крытык-інтэрпрэтатар, пісьменнік-дакументаліст. Ці не замала? Не, калі ўспрымаць творчасць А. Станюты ў параўнанні з яго калегамі. Так, калі належным чынам асэнсаваць узровень напісанага. У прозе Аляксандра Аляксандравіча ў найбольшай ступені сканцэнтраваліся творчыя пошукі аўтара. Каб патлумачыць іх значэнне, звернем увагу на суадносіны ў літаратуры катэгорый асобы і часу.

## «Гарадскія сны»

Звычайна ў празаічным жанры (аповесцях, успамінах) у цэнтры аповеду знаходзіцца асоба героя, які дзейнічае ў пэўнай часавай прасторы. Абставіны жыцця з'яўляюцца фонам для сюжэта або ўплываюць на падзеі. У буйным жанры (рамане) творца звычайна імкнецца гарманічна прадставіць як чалавека, так і часавую прастору, эпоху, у якой той існуе. Менавіта таму героі такіх твораў становяцца сімваламі пэўнага гістарычнага перыяду і ўвасабляюць думкі і ідэалы людзей таго часу.

З аднаго боку, у цэнтры "Гарадскіх сноў" знаходзіцца асоба гісторыка Сяргея Забелы, які згадвае сваё жыццё ў даваенным, ваенным і пасляваенным Мінску. Сям'я героя, месцы яго жыхарства, інтэр'еры дамоў, рэплікі і паводзіны людзей… Дзесьці на заднім фоне гучаць стрэлы, ідзе вайна. Часам гэты свет урываецца ў жыццё героя (напрыклад, у выпадку, калі Сяргей разбівае шкло фашысцкай машыны і немец у пошуку вінаватага прыходзіць да яго дадому). З другога боку, у творы прадстаўлена канкрэтная гістарычная эпоха і рэальныя асобы. Наркамы НКУС Берман і Яжоў, гаўляйтар Кубэ і яго канкурэнт адносна ўлады ў Беларусі фон Готберг, міністр дзяржбяспекі Цанава і футбалісты мінскага "Дынама", пра якіх ён клапаціўся.

А. Станюта па-майстэрску пераключае ракурсы з асабістага і прыватнага на агульнае, дзякуючы чаму яго кніга трымае ўвагу чытачоў. Перад намі класічны варыянт твора, які мае некалькі ўзроўняў прачытання. Першы дазваляе паглыбіцца ў свет героя. Другі — адчуць эпоху. Узнікае паралель з "Вайной і мірам", дзе грамадскае жыццё адбіваецца на лёсах герояў. Але ж раман Талстога стаў класікай яшчэ таму, што меў трэці, філасофскі, абагульняльны ўзровень. Такая рыса ўласцівая і раману Станюты.

На пачатку твора лірычны герой прыязджае ў Маскву і наведвае Крэмль, дзе калісьці, у якасці курсанта служыў яго бацька: "Неба зніжалася, пакідаючы сваю бясконцую вышыню, і нібы ўпадала сюды, у вялікую лагчыну сярод высокіх каменных пабудоў. (…) І было адчуванне, што вось так, з усёй відавочнасцю, нават нагляднасцю перад вачыма паўстала раптам нябачная, незямная, без пачатку і канца, нябесная плынь вечнасці. (…) І вось тут, у гэтай упадзіне, пад спрадвечнай нябеснай плынню з'яўляецца звычайны чалавек, бацька твой. (…) Пасля нябесная плынь пакідае тваёго бацьку на гэтай плошчы ахоўваць бога, створанага людзьмі. (…) Бацька тут застаецца, жывы ахоўвае мёртвага, а нябесная плынь зноў падымаецца кудысьці за каменную агароджу плошчы. Яна нясецца вышэй, далей — туды, дзе для бацькі, як і для ўсіх, ізноў настане небыццё".

Сяргей Забела трапляе праз гады ў тую ж прастору, дзе калісьці знаходзіўся яго бацька. "У прасторы, у тым ці іншым месцы, у прынцыпе, можна пры жаданні пабыць, увайсці туды і зноў выйсці. Прастора, месца — гэта ўжо неяк бліжэй да нязменнасці і да непарушнасці. А час, час? Ім не аваладаеш. Ён табою — так…" Па сутнасці, "Гарадскія сны" становяцца спробай лірычнага героя праз філасофскія разважанні, праз дыялогі з самім сабой разгадаць таямніцу часу, мінулага і знайсці сэнс жыцця.

У чым жа філасофская аснова рамана А. Станюты? Паспрабаваць знайсці адказ на гэтае пытанне нам дапаможа назва твора. Што азначае ў ёй слова "сны"? Пісьменнік выкарыстоўвае ў творы "прынцып сноў", што робіць дзеянне рамана не паслядоўным, а пульсуючым, перарывістым, у нечым фантасмагарычным і ў чымсьці нагадвае "Сто гадоў адзіноты" Маркеса.

Чаму сны становяцца "гарадскімі"? Мяркую, тое не проста канстатацыя месца дзеяння. Як піша пісьменнік, "час мяняе ўсё. Аднымі і тымі ж застаюцца толькі месцы. Яны, можа, і звязваюць неяк тое, што адбываецца ў часе". Шматзначным успрымаецца фінал твора: "І вось цяпер, праз сорак год, у чэрвені, каля тых самых дзвярэй, пад знаёмымі з гадоў юнацтва вокнамі былі чуваць зусім іншыя галасы, іншы вулічны шум і ветрык, іншы шолах лістоты ўжо пастарэлых ліп. (…) Не было ўжо тых, хто помніў, ведаў той час. Не было ў паспешлівым маладым натоўпе, у памаладзелым, няхай пакуль толькі звонку, часе. Час прайшоў. Засталося месца. Як бы яго не перароблівоў час, месца, дзе было, там — і застаецца назаўсёды". Тонкасць і небанальнасць успрымання рэчаіснасці, часу і прасторы — самых глабальных філасофскіх катэгорый, пэўна, першая ўмова сапраўднага таленту. А ўменне зафіксаваць плынь свядомасці героя, маштабнасць ягонага роздуму робіць такую здольнасць пісьменніка відавочнай. Месца дзеяння (Мінск) у "Гарадскіх снах" звязвае, папершае, мінулае і сучаснасць, па-другое, людзей розных эпох, а па-трэцяе, тры ўзроўні прачытання рамана (асабісты, грамадска-гістарычны і філасофскі), што надае твору цэласнасць і завершанасць.

## «Сонечная» і «начная» проза

Апошнім часам у беларускай літаратуры стала надзвычай модна гуляць "у класікаў". Пры ўсіх адмоўных і адначасова камічных сітуацыях, якія нараджаюць гэткія прэтэнзіі, творы неабходна разглядаць на прадмет іх адпаведнасці ці неадпаведнасці канону. І высокаму ўзору. Толькі рабіць гэта трэба шчыра і "па гамбургскім рахунку". А. Станюта не паспеў, а можа, не імкнуўся, публічна заявіць уласныя прэтэнзіі на прызнанне. Гэтую справу за яго павінны зрабіць мы.

Рэаліі сучаснага літаратурнага працэсу сведчаць: чытачы страцілі давер да станоўчых ацэнак, бо яны пераважаюць ледзь не ў кожнай рэцэнзіі. Таму паспрабую патлумачыць значэнне прозы А. Станюты інакш: праз развіццё сучаснай айчыннай літаратуры.

У літаратуразнаўстве існуе даўняя традыцыя вылучаць у прыгожым пісьменстве два кірункі, звязаныя з асобамі двух вялікіх пісьменнікаў, — Л. Талстога і Ф. Дастаеўскага. Што з'явілася падставай для класіфікацыі? Найбольш грунтоўнае разыходжанне бачыцца ва ўнутраным свеце творцаў і іх стаўленні да светабудовы. Не будзе адкрыццём адзначыць, што ва ўсе часы сучаснасць з канфліктамі, войнамі і супярэчнасцямі ўспрымалася большасцю сапраўдных пісьменнікаў як дысгарманічная з'ява. Адпаведна, галоўныя героі ў творах абедзвюх плыняў звычайна імкнуліся дасягнуць гармоніі. Аднак яе пошукі адбываліся рознымі шляхамі.

Аўтары, якія ісnavалі ў рэчышчы першай, "талстоўскай" традыцыі, імкнуліся або перанесці дзеянне ў рамантызаванае мінулае і адшукаць там "залатое стагоддзе", або знайсці ў сучаснасці асоб, што выклікаюць захапленне, або прывесці ўласных герояў да раўнавагі з навакольным светам. У сучаснай беларускай прозе прадстаўнікамі такой плыні, якую можна назваць "сонечнай", з'яўляюцца А. Федарэнка, У. Саламаха, А. Станюта, У. Сціпан і некаторыя іншыя.

Пісьменнікі другой традыцыі, якую можна назваць "начной", імкнуцца сканцэнтраваць увагу чытачоў на сучасных для іх рэаліях, адлюстраваць дысгармонію рэчаіснасці, драматычную экспрэсію і нават паглыбіць яе. Так ствараецца кантраст з гармоніяй і чытач "падводзіцца" да разумення яе неабходнасці. Прадстаўнікамі гэтай плыні ў нашай літаратуры з'яўляюцца А. Казлоў, Ю. Станкевіч, А. Бахарэвіч, А. Брава...

Адзначу яшчэ адзін, асабісты крытэрый вылучэння згаданых кірункаў. Апошнім часам чытаю значную колькасць твораў сучаснай беларускай літаратуры. Нядаўна злавіў сябе на парадаксальнай думцы: для ўласнай асалоды чытаю менавіта "сонечныя", гарманічныя творы. Тады як зварот да "начных", дысгарманічных кніг адбываецца хутчэй па прафесійным абавязку (каб напісаць рэцэнзію, каб мець уяўленне пра бягучы літаратурны працэс).

Упэўнены, "сонечны" і "начны" кірункі выступаюць увасабленнем адпаведнага тыпу мыслення: гарманічнага і дысгарманічнага. Прычым як пісьменніка, так і чытача. З аднаго боку, мы можам разглядаць тып чытацкага мыслення (праз выбар пісьменнікаў у якасці куміраў або пэўнай кнігі). З другога боку, творчым асобам уласцівы заўсёдны пошук крыніц натхнення. Таму, думаю, "сонечныя" пісьменнікі хутчэй за ўсё будуць чытаць "сонечных" і наадварот.

Прызнаюся, з кніг сучаснай айчыннай літаратуры толькі некаторыя выклікалі ў мяне сапраўднае натхненне, думкі, ідэі і, галоўнае, адчуванне гармоніі, параўнальнае з уздзеяннем твораў агульнапрызнанай, сусветнай класікі. Адной з іх стаў раман А. Станюты "Гарадскія сны". Аднак не будзем спяшацца з ацэнкамі. Аляксандра Аляксандравіча ўжо няма з намі. Яму больш ні з кім няма чаго дзяліць. Менавіта таму з усёй шчырасцю і адказнасцю за свае словы хачу назваць яго раман "Гарадскія сны" адным з сапраўдных дасягненняў, а магчыма, і класікай беларускай літаратуры.

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Вітольд Ермалёнак з Мёраў разважае пра адметнасці выхавання маладых даследчыкаў:**

— На мой погляд, у апошнія гады назіраецца зніжэнне цікавасці да гісторыі і краязнаўства. Напэўна, гэта звязана з развіццём інфармацыйных тэхналогій і шырокай даступнасцю інфармацыі. Але і сёння сярод маіх вучняў ёсць сапраўдныя даследчыкі і разведчыкі, удумлівыя, эрудзіраваныя, зацікаўленыя.

Калі пяцікласнікі становяцца сябрамі нашага гуртка "Арганаўты мінулага", то спачатку праходзяць тэарэтычную падрыхтоўку, знаёмяцца з асновамі археалогіі, краязнаўства, нумізматыкі. Але перш за ўсё іх трэба навучыць шукаць. Многія здзіўляюцца: як вы знаходзіце экспанаты для музея? Сапраўдны краязнаўца, якому гэты лёс наканаваны Богам, павінен быць апантаны даследаваннем і заўсёды трымацца дэвізу "Знайсці і захаваць". А экспанаты можна знайсці ўсюды. Трэба толькі ўмець іх бачыць. Вось я, да прыкладу, калі быў у Егіпце, у мясцінах, якія наведваюць мільёны турыстаў, знайшоў разец узростам 8 тысяч год.

У той жа час у даследаваннях часта дапамагаюць краязнаўцы. Пацвярджэнне таму — гісторыя, якая доўжыцца ўжо чацвёрты год, ключ да яе разгадкі мне дапамаглі знайсці калегі з Беларусі і іншых краін.

У Мёрах быў польскі даваенны гатэль. Калі яго разбіралі ў 2007 годзе, за шпалерамі рабочыя знайшлі больш як дзве сотні фотаздымкаў польскага афіцэра. Некаторыя здымкі былі падпісаныя, на некаторых былі пазначаны мясціны. Але хто на іх, на той час складана было адказаць. Мы ведалі толькі імя салдата — Эдвард. Прайшло тры гады, і сёння я магу назваць яго прозвішча! У нас былі розныя версіі лёсу салдата, але цяпер дакладна ведаем, што гэта быў Эдвард Пяньковскі, які адзін час служыў у вёсцы Слабодка, што на Браслаўшчыне. Ён быў жанаты, меў сына Андрэя. Магчыма, сын жывы і цяпер, можна паспрабаваць знайсці і ўнукаў Эдварда, тады нам могуць стаць вядомымі новыя старонкі жыцця гэтага салдата.

## Адкрыццё зямлі

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

Зямля, на якой жывеш, застаецца нязведанай да той пары, пакуль чалавек не пацікавіцца яе гісторыяй, не пачне задаваць сабе пытанні, што яму вядома пра вёску альбо горад, у якім ён нарадзіўся і вырас. Сваю зямлю адкрыў для светлагорцаў Віктар Раманцоў — беларускі журналіст, публіцыст і краязнавец, сябра Беларускага саюза журналістаў. Цікавасць да роднага горада абудзіла натхненне для напісання першай кнігі "Зведаная зямля: Светлагоршчына ў пытаннях і адказах".

Колькі гадоў Светлагорску і як змяняліся назвы паселішчаў, калі на тэрыторыі раёна пасяліўся першы чалавек, ці існавалі на Светлагоршчыне гарады з магдэбургскім правам, ці ёсць тут свой "верставы слуп". Гэта далёка не ўсе з тых пяцідзесяці пытанняў, на якія даў адказ у кнізе Віктар Раманцоў. Аўтар падзяліўся з чытачамі сваім жыццёвым крэда: "Той, хто ведае мінулае і сучаснае свайго краю, — ведае яго будучыню". Кніга "Зведаная зямля" распавядае таксама пра славутых людзей, якія нарадзіліся на Светлагоршчыне.

## Музейны ўнікат

# Вандроўка каменнай бабы

**Андрэй БЛІНЕЦ**

**У фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, у калекцыі "Археалогія Сярэднявечча" захоўваецца каменны ідал, вывезены ў свой час з вёскі Зубкі Клецкага раёна. У Музеі гісторыі Клеччыны пра гэты помнік нагадвае гіпсавая копія, зробленая паводле старога фотаздымка. Яшчэ адзін здымак "зубкоўскага ідала" экспануецца ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі. Часам можна пачуць, што ідал з'яўляецца напамінам пра дахрысціянскія вераванні нашых продкаў. Аднак гэтае меркаванне не зусім адпавядае рэчаіснасці.**

Каменная баба сапраўды сведчыць пра паганскія вераванні, толькі не старажытных беларусаў, а качэўнікаў-полаўцаў, якія жылі ў прычарнаморскіх стэпах у 2-й палове XII — XIII стст. Падарожнік Гіём дэ Рубрук пісаў, што полаўцы "…насыпаюць вялікі курган над нябожчыкам і ставяць яму статую, павернутую тварам да ўсходу, якая трымае перад пупком кубак". На жаль, здымак "зубкоўскага ідала" зроблены з такога ракурсу, што цяжка сказаць, ёсць у яго кубак ці кісці рук проста адбіты. Куды цікавейшым падаецца іншае пытанне: якім чынам палавецкі надмагільны помнік трапіў у нашы мясціны?

На мяжы XVIII — XIX стст. сярод рускіх паноў узнікла мода на старажытнасці. Асабліва папулярнымі былі палавецкія ідалы. Калі Расійская імперыя трывала замацавалася на берагах Чорнага мора, многія памешчыкі лічылі за гонар прывезці ў свой маёнтак падобныя фігуры. Не сталі выключэннем і беларускія ўладанні расійскіх вяльмож. Вядома, што палавецкія бабы былі ў маёнтку князя Галіцына ў Прапойску (цяпер Слаўгарад), у палацы Паскевіча ў Гомелі, у сядзібах пад Оршай і Віцебскам. Але Клеччыны ў гэтым пераліку няма. Гутаркі са старажыламі вёскі Зубкі доўгі час не праяснялі карціны. Старыя людзі памяталі, што каменны ідал стаяў у панскім двары, а вось калі ён тут з'явіўся, сказаць не маглі. І ўсё ж пошукі далі свой вынік. Дачка былога святара Зубкоўскай царквы Георгія Прорвіча распавяла тое, што памятала сама і што ведала са слоў бацькі, які блізка сябраваў з памешчыкамі. Так, па яе словах, ідала прывёз у маёнтак у пачатку 1920-х гг. пан Мар'ян Бярновіч. Ён купіў статую на клецкім кірмашы ў нейкага яўрэя. Той збіраўся разбіць "бабу" на часткі і прадаць камень як будаўнічы матэрыял. Верагодна, ідал быў вывезены з нейкага маёнтка, што знаходзіўся недалёка ад Клецка. (Не было сэнсу везці каменную бабу здалёк у наш горад толькі для таго, каб разбіць на кавалкі.) У выніку бурлівых рэвалюцыйных падзей помнік застаўся без гаспадара, і яго чакаў незайздросны лёс. Аднак умяшаўся пан Бярновіч.

Памешчык устанавіў статую ў сваім двары на спецыяльна складзены каменны пастамент. Вясною і летам у цёплае надвор'е каля яе збіраліся дзеці, якім пан распавядаў старыя паданні, легенды і выпадкі з даўняй гісторыі. Ён быў незвычайным землеўладальнікам — гаспадаркай зусім не цікавіўся, але вельмі захапляўся гісторыяй, краязнаўствам, прыродазнаўствам і любіў бавіць час з сялянскімі дзецьмі. Гаспадарку вяла яго жонка Кацярына. Увогуле, пра зубкоўскіх памешчыкаў даводзілася чуць толькі добрае: з павагаю ставіліся да людзей, дапамагалі збожжам, грашыма і г.д.

Другая сусветная вайна і нямецкая акупацыя разбурылі звыклы лад жыцця. Мар'ян Бярновіч бясследна знік. Ніхто так і не змог сказаць, ці ён загінуў, ці выехаў у Польшчу. Памешчыца Кацярына Бярновіч была закатавана ў Калдычэўскім канцлагеры, куды трапіла за сувязь з партызанамі. Прыйшоў у заняпад панскі двор. Каменная баба зрабілася нікому не патрэбнай і, хто ведае, можа была б такі разбіта на кавалкі, але яе своечасова вывезлі ў Мінск. Доўгая вандроўка палавецкага ідала, нарэшце, скончылася.



***Фота з фондаў Музея гісторыі Клеччыны.***

# Вяртанне справядлівасці

**Мікола БЕРЛЕЖ**

**Імя аднаго з арганізатараў мінскага антыфашысцкага падполля Міхаіла Гебелева набывае шырокую вядомасць.**

Быў час, калі тэма стварэння падпольнай арганізацыі ў Мінскім гета ў Вялікую Айчынную вайну лічылася ці не забароненай. Толькі дзякуючы энтузіязму і сумленнасці асобных даследчыкаў, як, напрыклад, супрацоўніцы Інстытута гісторыі АН БССР Ганны Купрэевай, удалося ўзнавіць шмат што з гераічнай і шматпакутнай памяці. Святлана Гебелева, працуючы журналісткай адной з мінскіх "шматтыражак" (цяпер яна жыве ў ЗША), шмат гадоў прысвяціла ўзнаўленню праўды пра ролю свайго бацькі ў змаганні з гітлераўцамі: у канцы 1941 года ў гета быў створаны адзіны падпольны цэнтр, які ўзначалілі Міхаіл Гебелеў, Гірш Смоляр і Мацвей Пруслін. 14 мая 1942 года Міхаіл Гебелеў на нарадзе падпольшчыкаў горада быў зацвярджаны сакратаром Тэльманаўскага райкама партыі. 15 жніўня 1942-га пасля зверскіх катаванняў фашысты павесілі адважнага патрыёта.

Цяпер адна з вуліц Мінска — якраз на колішняй мяжы гета — носіць імя Міхаіла Гебелева. Шлях С. Гебелевай да той хвіліны, калі было прынята рашэнне назваць вуліцу імем яе бацькі, быў няпростым і доўгім. Сённяшнія беларускія ўлады, асабіста Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, падтрымалі ініцыятыву шэрагу яўрэйскіх грамадскіх арганізацый, адгукнуліся і на звароты дачкі героя.

Пра тое, як збірала матэрыялы пра бацьку і ўвогуле пра дзейнасць падпольшчыкаў у гета, пра ўдзельнікаў і сведкаў жудасных падзей, пра тое, як скlaліся лёсы тых, хто выжыў, і расказвае Святлана Гебелева ў кнізе "Доўгі шлях да запаветнай вуліцы". Напісаны ў добрым публіцыстычным стылі, зборнік, што складаецца з асобных нарысаў, чытаецца лёгка, на адным дыханні. Багатае на дакументальныя крыніцы, архіўныя матэрыялы, выданне ў значнай ступені падсумоўвае тую працу па ўзнаўленні памяці пра Мінскае гета, якую праводзілі многія энтузіясты.

Святлана Міхайлаўна падрабязна расказвае і пра даваенную біяграфію патрыёта Беларусі — ураджэнца вёскі Узляны Пухавіцкага раёна Міхаіла Гебелева, пра вытокі фарміравання біяграфіі камуніста, падпольшчыка. Аўтар кнігі ў розных нарысах згадвае Узляны, аднагодкаў, блізкіх родзічаў антыфашыста. А ў раздзеле "Узляны" падрабязна распавядае пра паездку ў Пухавіцкі край, пра тое, якія жудасныя падзеі адбыліся і ў гэтай старонцы.

"У мясцовай базавай Узлянскай школе нам паказалі спісы ахвяр расстрэлу 8 кастрычніка 1941-га года, — піша С. Гебелева. На маё здзіўленне, я ўбачыла сярод іх імя майго дзядулі Лейбы Гебелева, хаця ён пасля свайго геройскага ўчынку, адправіўшы на той свет двух фашыстаў, здолеў прабрацца ў Мінскае гета, але ўсё роўна загінуў...

Спісы ахвяр кастрычніцкага пагрому 1941-га склалі юныя краязнаўцы. У школе назбірана шмат матэрыялаў пра Вялікую Айчынную вайну <…>

Педагогі і вучні школы пастаянна вядуць пошукавую працу. Але пра подзвігі Міхаіла Гебелева, свайго земляка, не ведалі. Ды і хто мог ім пра гэта расказаць, калі гэтая тэма была доўгі час закрытая, ды і яўрэі ва Узлянах болей не жывуць. Цяпер школьнікі ведаюць, што Міхаіл Гебелеў быў адважным падпольшчыкам, што ён ратаваў дарослых і дзяцей.

Дырэктар школы Марыя Міхайлаўна Грыбло сказала: "У нашай школе абавязкова з'явіцца стэнд, прысвечаны легендарнаму падпольшчыку Міхаілу Гебелеву, а яго імем мы назавём нашу школьную піянерскую арганізацыю".

Каб дапамагчы ў гэтым, я пакінула ў дар школе вялікі партрэт бацькі, а таксама нямала фотаздымкаў бацькі і сямейства Гебелевых, дакументы і мае публікацыі пра яго".

Узляны — багатая на гісторыю вёска. З ёю звязаны лёс краязнаўца, этнографа, перакладчыка, гістарычнага пісьменніка Аляксандра Ельскага (1834 — 1916). Нарадзіўся зусім блізка — у Дудзічах. Жыў у Замосці, таксама не вельмі далёка ад Узлян, стварыў хатні музей, сабраў велізарную бібліятэку, архіў рукапісаў, старых дакументаў. Вёў вялікую перапіску з гісторыкамі з розных куткоў Расіі, Еўропы. На адваротным баку лістоў Аляксандра Ельскага быў заўсёды штамп: "Замосце. Пошта Узляны, Мінская губ. Тэлеграф Рудзенск". Ва Узлянах у 1898 годзе нарадзіўся Юджын Лаянс. У 1907 годзе разам з бацькамі эмігрыраваў у ЗША. Напісаў шэраг публіцыстычных кніг. У тым ліку — і пра ўраджэнца Узлян, амерыканскага генерала і вынаходніка Давіда Сарнова (1891—1971). Кніга Ю. Лаянса "Давід Сарнаў: біяграфія" пабачыла свет у Нью-Ёрку ў 1966 годзе. Пяру нашага земляка належаць кнігі "Камандзіроўка ва Утопію", "Чырвоная дэкада", "Сталін — цар усяе Русі" і інш.

Ва Узлянах доктарам на мясцовым ФАПе працаваў у сярэдзіне 1950-х гадоў пісьменнік, вучоны, краязнавец Валянцін Грыцкевіч. Цяпер ён жыве ў Санкт-Пецярбургу. Аўтар кніг "Падарожжы нашых землякоў" (Мінск, 1968), "Шляхі вялі праз Беларусь" (Мінск, 1980, у суаўтарстве з А. Мальдзісам), "Ад Нёмана да берагоў Ціхага акіяна" (Мінск, 1986), "З факелам Гіпакрата: З гісторыі беларускай медыцыны" (Мінск, 1987), "Адысея наваградскай лекаркі: Саламея Русецкая" (Мінск, 1989).

Цяпер і вандроўка Святланы Гебелевай ва Узляны — старонка літаратурна-краязнаўчай памяці Пухавіччыны. А самае галоўнае, што асоба героя кнігі "Доўгі шлях да запаветнай вуліцы" Міхаіла Гебелева становіцца шыроkавядомай постаццю ў нашай айчыннай гісторыі.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Сёлета, 9 снежня, у краіне будзе адзначацца 120-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Як будзе адзначаны юбілей класіка беларускай літаратуры? Што ўжо зроблена і якія мерапрыемствы чакаюць свайго завяршэння? На гэтыя і шэраг іншых пытанняў адказвае Таццяна Шэляговіч, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.**

# Як пройдзе юбілей Максіма?

— Правядзенне любога юбілею — заўжды надзвычай адказная справа. Парадокс, але яна найбольш істотная не для музея, а для шырокай супольнасці, паколькі папулярызацыя творчасці Багдановіча, яе навуковае даследаванне, ушанаванне асобы пісьменніка з'яўляецца нашай штодзённай працай. Але для грамадства такія даты выступаюць у якасці пэўнай сімвалічнай мяжы, што дазваляе выйсці на больш шырокі прастор. А таксама далучыць да асобы паэта пэўных людзей або ўстановы, якія па шэрагу самых розных прычын дасюль даўно не мелі з ёй кропак судакранання.

**— Мяркую, што пераход Рубікона да Багдановіча быў немагчымы без узгодненай праграмы дзеянняў.**

— Праграма святкаванняў пачала распрацоўвацца загадзя і была падтрымана на дзяржаўным узроўні. 14 лютага 2011 года з'явілася пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 187, падпісаная старшынёй урада Міхаілам Мясніковічам. У ёй быў зацверджаны рэспубліканскі арганізацыйны камітэт па правядзенні юбілейных мерапрыемстваў на чале з міністрам культуры Паўлам Латушкам, куды ўвайшлі прадстаўнікі міністэрстваў інфармацыі, адукацыі і замежных спраў, Брэсцкага, Мінскага і Гродзенскага аблвыканкамаў, Мінскага гарвыканкама, упраўлення сацыяльна-культурнай сферы Апарату Савета Міністраў, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага радыё і нашага музея. Агульнымі намаганнямі мы рэалізоўваем план мерапрыемстваў, зацверджаных той жа пастановай.

**— Калі ласка, акрэсліце асноўныя кірункі працы.**

— Сапраўды, пагаворым падрабязна пра асноўныя пункты праграмы, паколькі агульны спіс мерапрыемстваў уключае 24 назвы. Напрыклад, Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў і выпусціў памятную манету з выявай Багдановіча. А Міністэрства сувязі краіны — канверт з арыгінальнай маркай, спецгашэнне якой адбудзецца на Галоўным паштамце 9 снежня. Супрацоўнікі абедзвюх устаноў, дызайнеры, мастакі прыходзілі ў музей, кансультаваліся з супрацоўнікамі, добрасумленна вывучалі асобу паэта, з творчасцю якога, зразумела, знаёміліся ў школе, натхняліся яго вобразам. Міністэрствам адукацыі Беларусі будзе праведзены Рэспубліканскі конкурс школьнага сачынення пра жыццё і творчасць Багдановіча. А 25 — 26 лістапада на базе Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбудзецца Міжнародная навуковая канферэнцыя "Творчасць Максіма Багдановіча ў кантэксце сусветнай літаратуры".

**— Кажуць, што асоба паэта будзе прадстаўлена і ў кіно…**

— Сапраўды, у сярэдзіне лістапада павінна скончыць сваю працу творчая група, якая працуе над дакументальным фільмам "Максім Багдановіч. Зорны шлях". Сцэнарый напісаў Аляксей Чарнушэвіч, а рэжысёрам выступіў Андрэй Леўчык. Спадзяюся, што прадукцыю "Беларускага відэацэнтра" можна будзе выкарыстоўваць і падчас экскурсій у музеі. Дарэчы, часткова фільм здымаўся ў яго сценах, бо мемарыяльных мясцін, звязаных з асобай паэта, у Беларусі амаль не захавалася.

**— Мяркую, самы час пагаварыць пра міжнародны аспект пры правядзенні юбілею.**

— Справа ў тым, што ўжо досыць даўно ў экспазіцыі Ялцінскага гісторыка-краязнаўчага музея мелася зала, прысвечаная творцам, чый лёс звязаны з крымскай зямлёй. Асобны стэнд быў Багдановічу. Матэрыялы музея фізічна састарэлі, а іх якасць пакідала жадаць лепшага. Пры дапамозе Міністэрства замежных спраў Беларусі былі наладжаны кантакты з установамі Аўтаномнай Рэспублікі Крым. Улічваючы сучасныя камп'ютарныя магчымасці, нашыя супрацоўнікі апрацавалі неабходныя дакументы і прадаставілі іх калегам, якія абнавілі экспазіцыю. Дарэчы, яны паабяцалі пашырыць стэнд за кошт іншых, менш значных асоб. 3 снежня ў Ялце адбудзецца вечар, прысвечаны Багдановічу, у якім возьмуць удзел прадстаўнікі музея. Тады здолеем на ўласныя вочы ўбачыць зробленае.



Акрамя таго, з ініцыятывы Міністэрства культуры краіны ў замежжы будзе прадстаўлена спадчына паэта. Беларускі фонд культуры ажыццявіў падрыхтоўку прэзентацыйнага выдання. Яно складаецца з трох асобных кніг, у кожнай з якіх прадстаўлены адзін верш Багдановіча ("Пагоня", "Слуцкія ткачыхі", "Зорка Венера") на мове арыгінала і ў перакладзе на 10 моў свету. Прадмову напісаў міністр культуры Беларусі Павел Латушка, уводзіны ў свет кожнага верша падрыхтаваў пісьменнік Анатоль Бутэвіч.

**— Адзін з сегментаў супольнай працы ўзялі на сябе ўстановы міністэрства інфармацыі?**

— Сёлета ў беларускіх выдавецтвах ужо з'явілася ці яшчэ з'явіцца некалькі выданняў, якія ахопліваюць вельмі шырокую чытацкую аўдыторыю. Па-першае, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла факсімільнае выданне "Вянка", адзінага прыжыццёвага зборніка паэта. Упершыню такая ідэя была рэалізавана ў 1981 годзе, калі святкавалася 90-годдзе з дня нараджэння Багдановіча. 10-тысячны наклад тады разышоўся цалкам. Пазней кніга яшчэ двойчы перавыдавалася. Але і цяпер на яе існуе попыт, таму "Вянок" зноў з'явіўся на кніжных паліцах. Адзначу, што кніга з'яўляецца непераўзыдзеным прыкладам кампаноўкі вершаў. Хоць вядома, што Багдановіч да апошніх дзён працаваў над "Вянком" і імкнуўся ўдасканаліць яго. Па-другое, для папулярнай серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі", што выходзіць у тым жа выдавецтве, я склала кнігу "Максім Багдановіч. Песняр чыстае красы", прысвечаную жыццю і творчасці паэта. Заснаваная на фондах музея, яна сведчыць пра працу ўсёй нашай установы. Патрэцяе, у "Мастацкай літаратуры" выйшла аповесць Алеся Марціновіча "Свяці, зорка, свяці", у якой распавядаецца пра дзіцячыя гады будучага паэта. Па-чацвёртае, выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" ажыццяўляе выпуск унікальнай энцыклапедыі "Максім Багдановіч" (дагэтуль толькі Францыск Скарына і Янка Купала ўдастойваліся такога гонару). Праца над зборам матэрыялаў і напісаннем артыкулаў пачалася яшчэ ў 1980-я гады. Потым па шэрагу прычын быў перапынак. Праца аднавілася ў 2007 годзе па ініцыятыве музея, а цяпер выйшла на фінішную прамую. Нарэшце, пятым выданнем, што выходзіць у РВУ "Літаратура і Мастацтва", стане том "Максім Багдановіч: вядомы і невядомы", укладальнікам якога выступіў Ціхан Чарнякевіч. У выніку працы ў архівах і бібліятэках ён увёў у навуковы ўжытак дакументы, якія не траплялі на вочы не тое што чытачам, а нават даследчыкам. Або проста не перадрукоўваліся з перыёдыкі на працягу дзесяцігоддзяў. Застаецца дадаць, што ў друкаваных і электронных СМІ, на радыё і тэлебачанні ўжо з'явілася значная колькасць артыкулаў, нататак, інтэрв'ю, прысвечаных асобе паэта і яго творчасці. Спадзяюся, бліжэй да юбілею іх колькасць значна ўзрасце.

**— Якая праца чакае музей пасля 9 снежня?**

— Зразумела, заканчэнне юбілейных урачыстасцей не азначае завяршэнне працы. Хутчэй наадварот — з'яўляецца стымулам да яе працягу. Прычым, згодна з планам, рэалізацыя некаторых мерапрыемстваў будзе працягвацца ў 2012 годзе. Напрыклад, у Гродне, у парку побач з домам, дзе жыла сям'я паэта, будзе ўсталяваны помнік. Ужо распрацаваны ўмовы конкурсу, але ён яшчэ не абвешчаны. Падвядзенне вынікаў, выбар і ўстаноўка помніка ў любым выпадку будуць адбывацца ў наступным годзе. Тады ж у Траецкім прадмесці пры дапамозе ТАА "Трайпл" адбудзецца аднаўленне дома, дзе нарадзіўся Багдановіч. Акрамя таго, працягнецца рамонт асноўнага будынка музея (цяпер ён таксама вядзецца ў нашым філіяле "Беларуская хатка").

**— Таццяна Эдуардаўна, што пажадаеце чытачам "ЛіМа"?**

— Шануйце Багдановіча, маладога, але такога геніяльнага паэта! Хай кожны пусцісь у сваё сэрца ідэалы і памкненні, якімі жыў Максім. Жадаю ўсім дайсці да Беларусі з Максімам Багдановічам!

# Зварот да Літвы

Даніла АРЦІМОВІЧ




"Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое: // Не цэнім, маючы, а страцім залатое — // Шкада, як і красы твае, мой родны краю. // Тугою па табе тут вобраз твой ствараю". Менавіта з гэтых радкоў пачынаецца славутая паэма Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" (пераклад Максіма Танка), створаная, як вядома, ураджэнцам Навагрудчыны. Аўтар называў бацькоўскі край "Літвой", бо менавіта гэта назва раней ужывалася ў дачыненні да тэрыторый нашай Радзімы. Таму "ліцвінскі перыяд" стаў сапраўднай эпохай у гісторыі Беларусі.

Ці магчыма ахапіць яго ў адной кнізе? Асабліва калі гэта не падручнік па гісторыі Беларусі? Паэт, перакладчык і журналіст Станіслаў Суднік, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец", адказвае на такое пытанне станоўча. Лепшым аргументам у яго спрэчцы са скептыкам стане кніга "Літва. Гістарычныя паэмы, балады, пераклады", што сёлета выйшла ў Лідзе. Частка твораў, уключаных у выданне, ужо друкавалася ў кнігах або перыёдыцы. Але шэраг з іх падрыхтаваны С. Суднікам адмыслова для гэтага выдання. Чытачы пазнаёмяцца з паэмамі аўтара "Літва", "Рацібор", "Давыд Гарадзенскі", перакладамі з Яна Чачота, Міхаіла Лермантава, Юліюша Славацкага…

"У кнізе хапае ўсяго: і гістарычных падзей, і выдуманых, і рэальных гістарычных асоб, і легендарных, і проста літаратурных вобразаў, — піша ў прадмове С. Суднік. — А ўсё разам — гэта кніга пра Літву, пра нашу з вамі Літву, якая засталася там, "дзе Рым і Арда Залатая", але якую мы ў генах сваіх данеслі да нашага часу і якую дзеці і ўнукі нашыя панясуць далей".

# Падарунак

## *Успамін пра Сцяпана Александровіча*

Уладзімір СОДАЛЬ

**Не скажу, што я быў блізкі да Сцяпана Александровіча чалавек, але мы адзін адным цікавіліся. Я — ягонымі змястоўнымі кнігамі, ён — маімі публікацыямі. Разы з два мы з ім сустракаліся. Адзін раз прыкладна ў 1975 — 1976 годзе. Якраз гэтай парою ў выдавецтве "Народная асвета" выйшла ягоная новая кніжка "Тут зямля такая" — дапоўненае і дапрацаванае выданне ранейшай кніжкі "Незабыўнымі сцежкамі". Мяне вельмі здзівіла, што ў нарысах пра Францішка Багушэвіча ў новым выданні знікла шмат арыгінальных фотаздымкаў.**

Прыкладам, у новым выданні не змясцілі фотаздымак паэта ў маладыя гады. Знікла з новага выдання і фота кушлянскай каплічкі-альтанкі, мемарыяльнай дошкі ў жупранскім касцёле, фота Віленскага акруговага суда, каменяпомніка паэту ў ваколіцах Кушлян. Не было і фотаздымка будынка Віленскага ўніверсітэта, дзе калісьці знаходзілася гімназія, якую скончыў Францішак Багушэвіч. Гэта мяне насцярожыла. Згаданыя здымкі не былі лішнія ў першым выданні. Не былі б яны лішнія і ў другім. Вырашыў высветліць у самога аўтара. Але ён у гэтую пару правіў сваё здароўе ў недалёкім ад Навінак сухотным дыспансеры. Сцяпан Хусейнавіч дзяліўся творчымі задумамі, выказваў меркаванні, дзе яшчэ, у якіх архівах могуць быць дакументы пра Францішка Багушэвіча, ягоныя пісьмы. Што ж да змяшчэння ў новым выданні здымкаў, то ён гэта патлумачыў звычайнай эканоміяй лістажу для іншых нарысаў. І толькі ўсяго.

Пасля тае сустрэчы Сцяпан Хусейнавіч пра мяне не забываўся. Прыгадваецца такі момант.

...Тэлефонны званок. Бяру слухаўку. Чую: "Уладзімір Ільіч? Александровіч. Я вас папрашу... Тут энцыклапедыя заказала мне невялікі артыкульчык пра літаратурны музей Багушэвіча ў Жупранах. Але мне вельмі нядужыцца. Я папрасіў бы зрабіць гэта вас. У "Энцыклапедыі" дамоўлена на ваша аўтарства".

Вядома, я з прыемнасцю прыняў прапанову, быў рады, што такі прызнаны даследчык, вучоны, даручае і давярае напісаць на прапанаваную яму тэму энцыклапедычны артыкул менш спрактыкаванаму калегу. Артыкул я неўзабаве напісаў. Ён быў надрукаваны ў першым томе "ЭЛіМБел".

Гэта быў адзін з апошніх званкоў Сцяпана Хусейнавіча да мяне. Неўзабаве ён памёр.



Раіса Баравікова

## Да графічных малюнкаў Напалеона Орды

* * *

*Скідвае восень агністае лісце.*
*Вечар навокал усё заімгліў.*
*Раптам здалося, што ў нейкім калісьці*
*мы ў гэтым палацы жылі…*

*Учора для бедаў якіх ачуняла,*
*а сёння для радасці ўстала якой:*
*тут лясне грымота, там грымне навала,*
*дык можа, за гэтай сцяною — спакой?!*

*Вецер рассуне лёгкія шторкі…*
*Хлыне праменне, як вадаспад,*
*падхопіць, узніме, ускружыць над горкім:*
*рукі — да рук і пагляд — у пагляд.*

*І ты мне прашэпчаш:*
*мы з дужай кагорты,*
*і ты мне раскажаш пра сноў нашых час…*
*Вось толькі з малюнка вялікага Орды*
*сышоў бы палац той да нас.*

* * *

## Шаноўнаму N

*Пад дождж!.. Мой Божа… Нечакана…*
*Без парасона — на рагу!*
*Ну добра, стану я адданай,*
*наколькі ёю быць змагу.*

*А зараз, чуеш: гукі, гукі…*
*Яны ў залеве срэбнай спрэс!*
*Нібыта клавішы на бруку,*
*і ў кожнай кроплі — паланэз.*

*Угледзь — таполі каля лесу,*
*ставок з гірляндаю лілей,*
*высокі ганак пад навесам, —*
*хутчэй туды… Бяжым смялей!*

*Ды тую далеч дождж адрэзаў,*
*уміг размыўшы той навес…*
*І мы стаім пад… паланэзам,*
*і нас ратуе паланэз.*

* * *

*Я позіркам дамалявала,*
*што мур за вежамі схаваў.*
*З нябёсаў поўня азірала:*
*масток драўляны, сонны стаў.*

*І там, дзе ўся ў плюшчы альтанка,*
*між чарады купчастых дрэў*
*спявала гордая шляхцянка,*
*і я расчула гэты спеў…*

* * *

*Рука перабярэ алоўкі*
*і спыніцца на ярка-жоўтым.*
*Чакай, распавядзеш мне потым,*
*якім бываеш ты нялоўкім.*

*Як знак апошняе вячэры —*
*чужых вачэй любімы колер.*
*І я — ніяк… І ты — ніколі*
*не вернешся сюды яшчэ раз.*

*Даводзіш мне: не ўсё так гладка.*
*Я разумею — несумненна!*
*Ды ў гэтых выветраных сценах*
*малюнак будзе як закладка.*

*Жыцця няроўнага са збегаў*
*абставін… Так… Тваёй была!*
*Прашу, васпана, да стала…*
*"Высокае. Палац Сапегаў".*

## Таемная сядзіба

*Не верне нават неспадзеўкі*
*тую сядзібу далягляд,*
*дзе мыць баяліся сукенкі,*
*каб чыйсьці з іх не змыць пагляд.*

*Гарэў шыпшынаю ля аркі*
*фальбоны лёгкае кармін*
*той, што дасюль*
*жыве ў фальварку, —*
*як верасовай палянкі ўспамін…*

* * *

*Варацэвічы…*
*Шлях не зменіцца.*
*Кронай дуб памахае здалёк.*
*У нябёсы ўжо хутка ўшчэміцца*
*і маёй душы вугалёк…*

*Мітуслівa-халодны, не болей, —*
*свет такі, як заўжды і быў!*
*Нават ястраб*
*трымціць над полем,*
*быццам неба сваё згубіў.*

*І ні яснасці, і ні змроку, —*
*разлazваная шэрасць дня,*
*дзе наўкола, як кінуць вокам, —*
*хмызнякоў — сцяна і сцяна…*

*Ну, адкуль жа цяпло тое вернецца?*
*На парозе ўжо маразы…*
*І такой тугой далеч сцелецца,*
*што й не змахваю я слязы.*



Напалеон Орда "Замак Сапегаў"



Мар'ян Дукса

* * *

*Ты не прыдуманае штосьці —*
*рэальная, амаль фатальная.*
*І ты заўжды была і ёсць,*
*паэзія непатапляльная.*

*Ты не пажоўклы экспанат*
*і не музейная рэліквія.*
*Ты з квеценню нязгаснай сад,*
*жывая, блізкая рэлігія.*

*Сярод будзённых спраў, валют,*
*сярод кантрактаў і камерцыі*
*цябе смакуе бойкі люд,*
*нібы прыправу, нібы спецыю.*

*Сэнс надаеш начы і дню*
*і мудрасць спазнаеш па кроплі ты.*
*Твой шлях адзін — увышыню*
*праз хлебныя і бытавыя клопаты.*

*Як цяжка нам — хоць пластам ляж —*
*у часе немачы і хворасці.*
*Ты выяўляеш смутак наш*
*на фоне паказной бадзёрасці.*

*Застаецца сумна сам-насам,*
*калі ўжо дні праходзяць спеўныя.*
*Ты суцяшальны ёсць бальзам,*
*як раны зашчымяць душэўныя.*

*Усіх праектаў лес густы*
*каб не застаўся марай марнаю…*
*Паэзія, спрыяй жа ты*
*эпоху мець гуманітарную.*

*Агонь твой не, не дагарыць,*
*яшчэ пасвеціць зыркай зоркаю.*
*Ты праўду будзеш гаварыць —*
*салодкую ці вельмі горкую.*

*Паэзія, блукаеш дзе ж?*
*То мкнеш у забыццё,*
*то вернешся.*
*Паэзія, не прападзеш,*
*ад нас нікуды ты не дзенешся.*

* * *

*У незвычайным кайфе*
*ці ж пра душу яны дбаюць?*
*Напаўжывога Кадафі*
*барадачы дабіваюць.*
*Літасць ужо не заплача,*
*ёй тут не месца проста.*
*Весела, весела скача*
*з палкаю воўчая помста.*
*Што ж вы звярэеце, людцы…*
*Дзікі настрой ваш святочны.*
*Почырк усіх рэвалюцый —*
*тут ён такі відавочны!*
*Ах, гэта сэрцаў раскутасць…*
*Кроў закіпае, як брага.*
*Гэта ўзаемная лютасць,*
*незацугляная звяга…*
*Добрага будзе нямнога,*
*дзе ні сумлення, ні страху,*
*там, дзе нізрынулі Бога*
*і растапталі Алаха.*

* * *

*Рамонкаў свежыя бутоны*
*квітнеюць…*
*Ты ж, як ідыёт,*
*сядзіш тут, жалезабетонны*
*парослы мохам даўні дзот.*
*Кустамі сціснуты густымі,*
*нясеш нікчэмнай службы крыж —*
*усё вачніцамі пустымі*
*на ўсход уважліва глядзіш…*
*Імчаць турысты-чужаземцы.*
*Яны ўсе хмурацца чаго?*
*Пытаюць сённяшнія немцы*
*аб нечым кайзера свайго.*
*Усе пытанні — без адказу.*
*Мо скажа што цар Мікалай…*
*Вайна — сусветная зараза —*
*прашыла памяць, лай ні лай.*
*Відаць, зблажэлы дзот на ўзгорку*
*начамі сніць былых вяяк.*
*І так яму бывае горка…*
*А мне за ўсіх балюча як!*

* * *

*Як сталася, так сталася…*
*Вятрысты лёсу буй.*
*Ні ў сталасці, ні ў старасці*
*занадта не бядуй.*
*Хіба быць можа вернута*
*былое для душы?*
*І рыхлы грунт сумлення ты*
*ізноў не варушы.*
*Вось дзень прыйшоў — ні воблачка.*
*У думках — чысціня.*
*Успыхні светлым воблікам*
*цяпер*
*на небе дня.*

* * *

*Асенні лес, мы сумныя з табой.*
*Галлё і думкі ледзь перабіраем.*
*Як свечка, лісце моўчкі дагарае.*
*Вільготнай, свежай дыхаем журбой.*
*На фоне неба шэрага стаім.*
*Нас пяднала сённяшняя стрэча.*
*Скразная ціша, горкая пустэча*
*у царстве затарможаным тваім.*
*І заміраем на кароткі міг.*
*Сплыла ў нябыт часіна залатая.*
*Што нас, астылых, сонца пакідае,*
*спасцігнуць гэта мусім удваіх.*

### Дэбют



Таццяна Тамашэвіч

Магчыма, гэтай публікацыі не было б, каб не сустрэча на мінулагоднім свяце паэзіі "Ракуцёўскае лета". Усе мы тады заўважылі, што творы Таццяны Тамашэвіч пранізаныя элегічным настроем, у іх шмат смутку і болю. Пэўна, невыпадкова, бо працуе маладая паэтка (нарадзілася 25 снежня 1986 года) у тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва роднага Маладзечна.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

* * *

*Сумны геній светлай адзіноты,*
*Да мяне ўначы прыйдзі,*
*Строга верш той не судзі,*
*Дзе жыцця радок гаротны*
*У крывавых кроплях поту,*
*Быццам дыямент расы,*
*Зняе праўдаю. Прасі*
*Усяго, што хочаш. Потым*
*Граць забытых песень ноты*
*Будзе позна. Для жывых*
*Слова — гэта Бога ўздых,*
*Што стварыў нас з адзіноты.*

* * *

*Мінецца ўсё — і гэта пройдзе,*
*Бо так заведзена ў прыродзе.*
*Заціхне боль, сатруцца слёзы,*
*І стане верш асновай прозы.*
*Так дзень сабой змяняе ноч.*
*Ты ж да святла заўсёды кроч,*
*І стане роўнаю дарога,*
*Што прывядзе цябе да Бога.*

* * *

*Калі душа, як песня,*
*Гучыць пяшчотай слоў,*
*Прашу Цябе, не крэслі*
*Яе журбой наноў.*

*Калі душа, як птушка,*
*Імкнецца ў вышыню,*
*Надзеі мілай стужкай*
*Я сум Твой абаўю.*

*Калі душа з усмешкай*
*На свет дзіцём глядзіць,*
*Тваёю стану сцежкай,*
*Каб змог па ёй хадзіць.*

*Калі душа, як сонца,*
*Аддасць Табе жыццё,*
*Тваёю буду моцай —*
*Любові адкрыццём.*

## Белыя ветразі

*Белыя ветразі,*
*Лёгкія плыні,*
*Ў светлую далеч*
*Імчыце мяне.*
*Чыстыя вобразы,*
*Срэбныя ліўні,*
*Ёсць насамрэч вы*
*Ці толькі мо ў сне?*

*Белыя ветразі,*
*Зорныя лебедзі,*
*Зззяюць у памяці*
*Вечнай красой.*
*Белыя мары,*
*Дзе ж вы падзеліся?*
*Зніклі дзявання*
*За шэрай смугой.*

*Самыя першыя,*
*Самыя ціхія*
*Словы кахання*
*Ў салодкай смузе.*
*Белыя ветразі,*
*Птахі цнатлівыя,*
*Вы да кахання*
*Імчыце мяне.*

# Спазнаць сябе праз Коласа

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**Ужо стала добрай традыцыяй, што кожны год у сценах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа сябры музея, даследчыкі творчасці песняра і ўсе аматары беларускай літаратуры адзначаюць дзень нараджэння класіка. Вось і сёлета ў музеі прайшло XVI Рэспубліканскае свята “Каласавіны”, якое аб’яднала шмат імпрэз, што ладзіліся супрацоўнікамі музея цягам некалькіх дзён.**

Можна сцвярджаць, што ў гэтым годзе “Каласавіны” выдаліся на дзіва ўраджайныя, яны закранулі не толькі дарослых даследчыкаў, але і вучняў школ, студэнтаў. Так, традыцыйна прайшло літаратурнае свята для дзяцей “Казкі жыцця”, як звычайна ў дзень нараджэння паэта ў музеі “адкрылі фонды” — да 129-годдзя класіка зладзілі выстаўку арыгіналаў “Рукою Коласа”. У часовай экспазіцыі шырокай публіцы былі прадстаўлены рукапісы твораў, што адносяцца да пачатку літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа (вершы “Мужык”, “Бяднота”, апавяданне “Адгукнуўся”), а таксама ўрыўкі з вядомых паэм “На шляхах волі”, “Адплата”, “Рыбакова хата”. Многія матэрыялы дэманстраваліся ўпершыню. Сумесна з Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі супрацоўнікі музея правялі прэзентацыю 13-га, 14-га і 15-га тамоў Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах. Мы ўжо маем магчымасць атрымаць тры чвэрці Збору твораў у свае хатняя бібліятэкі, але шаноўныя выступоўцы — людзі, якія непасрэдна працуюць над падрыхтоўкай выдання, — падкрэслілі, што ў наступным годзе, да 130-гадовага юбілею песняра, выданне Збора твораў цалкам завяршыцца. Безумоўна, кнігі стануць добрым падарункам не толькі музею і сталым даследчыкам, але і маладым навукоўцам. Як падкрэсліў член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар Міхась Мушынскі, матэрыялы для новых даследаванняў, напісання курсавых і дыпломных работ у кнігах дастаткова.

Але, думаецца, як і штогод, самай яркай падзеяй “Каласавін” стала Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя. На гэты раз яна была прысвечана тэме “Якуб Колас і яго сучаснікі: да вывучэння творчага і асабістага кола ўзаемасувязей пісьменніка”. Дырэктар Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская падчас адкрыцця навуковых чытанняў падкрэсліла: “Штогод з’яўляюцца новыя даследчыкі творчасці песняра, і таму, нягледзячы на тое, што з першага навуковага форуму прайшло шмат год, наша канферэнцыя толькі пашырае кола ўдзельнікаў і тэматычны абсяг даследавання. Наступны год будзе двойчы юбілейны — мы будзем адзначаць 130-годдзе Якуба Коласа і Янкі Купалы, а таксама 100-годдзе іх першай сустрэчы. У нас шмат задум, каб зладзіць сапраўднае свята, але і сёлетні форум не павінен саступаць”. І сапраўды, ужо на гэтых “Каласавінах” былі акрэслены некаторыя перспектывы міжнароднага супрацоўніцтва ў музейнай галіне. Так, Дайнора Аўташкене, намеснік дырэктара Літаратурнага музея Аляксандра Пушкіна ў Вільнюсе, зазначыла, што ў сталіцы Літвы і сёння часта ўспамінаюць Якуба Коласа. У музеі ўжо ладзіліся выстаўкі “Якуб Колас: жыццё і творчасць”, “Якуб Колас і Янка Купала”. Таму спадарыня Дайнора выказала ўпэўненасць, што ў гэтым годзе паміж музеямі будзе заключана пагадненне, а ў наступным, 2012-м, калі ў нас будзе адзначацца юбілей класікаў, а ў Літве — Год музеяў, будуць арганізаваны міжнародныя выстаўкі — як у Мінску, так і ў Вільнюсе.



Але на гэтым міжнародны аспект “Каласавін” не вычарпаны. У Мінск завітала таксама і Эльвіра Калашнікава, вучоны сакратар Літаратурна-мастацкага музея Марыны і Анастасіі Цвятаевых (г. Аляксандраў, Расійская Федэрацыя). “Усё ў гэтым жыцці не выпадкова, — падкрэсліла Эльвіра Барысаўна. — Зусім нядаўна да нашага музея як філіял быў далучаны літаратурны музей пісьменніка Аляксея Мусатава. І вось, праглядаючы старыя часопісы, я вынайшла, што Мусатаў і Колас — творцы блізкіх лёсаў і пісьменніцкіх поглядаў. Абодва сяляне, атрымалі педагагічную адукацыю, настаўнічалі, пісалі пра сялян. Думаецца, у гэтым нешта ёсць, і падмурак для плённага супрацоўніцтва можа быць закладзены”.

Падчас канферэнцыі прамаўлялі шмат, абмяркоўвалі розныя аспекты творчай індывідуальнасці песняра. Аляксандр Каваленя, доктар гістарычных навук, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, звярнуў увагу на філасофскі складнік спадчыны Коласа, яго мовы. Аляксандр Аляксандравіч зазначыў, што пісьменнік адчуў патрэбы народа, адлюстраваў беларуса высокай культуры, чалавека светлага, таленавітага, апантанага, міралюбівага, прыгожага. І гэта не проста тое, як мы бачым сябе, але і тое, якімі нас бачыць іншы свет — праз прызму твораў Коласа. У гэтым жа ключы выказаўся і старшыня грамадскай камісіі па справах аховы спадчыны пры міністэрстве культуры краіны, пісьменнік Анатоль Бутэвіч. Ён падкрэсліў, што наша літаратурная спадчына — агульнаеўрапейскае багацце, і мы, каб сапраўды спазнаць і адчуць сваё нацыянальнае, не павінны адасабляцца ад свету. Аляксандр Лукашанец, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, патлумачыў прычыны пастаяннай цікавасці да творчай спадчыны Коласа: “Гэта абумоўлена перш за ўсё тым, што за апошнія 20 год вырасла новае пакаленне беларусаў, якія нарадзіліся і выраслі ў незалежнай Беларусі. Гэта людзі, якія маюць іншы менталітэт, успрыманне сябе ў сусветнай супольнасці. Але для таго, каб спазнаць сябе, трэба па-новаму ўспрыняць і ацаніць тое, што рабілі Купала і Колас на самай зары развіцця нацыі”.

Што да непасрэдна навуковага складніка канферэнцыі, то тут таксама можна адзначыць новыя падыходы да вывучэння творчасці класіка. Так, поруч з традыцыйным аналізам вобразнасці, матываў, мовы, педагагічных поглядаў Коласа, разглядам бібліяграфіі і бібліёграфаў, біяграфіі і біёграфаў, удзельнікі “Каласавін” звярнулі ўвагу на культуралагічны аспект спадчыны песняра, прааналізавалі пераклады твораў Коласа на кітайскую і туркменскую мовы. З гэтай нагоды, каб яшчэ больш пашырыць геаграфію свята, Міхась Мушынскі перадаў у бібліятэку музея выданне зборніка вершаў “Голас зямлі” ў перакладзе на таджыкскую мову.

“Каласавіны” яшчэ раз пацвердзілі: цікавасць да нашай нацыянальнай спадчыны ёсць, і яна з кожным годам толькі ўзмацняецца. І не дзіўна, бо у гэтым чароўным свеце — свеце твораў Коласа — кожны чытач можа знайсці для сябе цікавы аспект, пісьменнік — творчыя прыёмы, а навуковец — аб’ект для даследавання.

***На здымку:** прафесійнае абмеркаванне падчас адкрыцця канферэнцыі. Удзельнікі — Аляксандр Каваленя, доктар гістарычных навук, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, Аляксандр Лукашанец, доктар філалагічных навук, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, і доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі.*

---

*У падтрымку чытання*



Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Віктара Зайкоўскага

### Рэжысёр Аляксандр Колбышаў:

## У маіх сённяшніх фільмах вы ўгадаеце рысы герояў Джэка Лондана

— Я вельмі рана навучыўся чытаць — у няпоўныя пяць гадоў. Мяне на лета адправілі з шахцёрскага горада Горлаўкі да цёткі ў Харкаў, яна, каб чымсьці мяне заняць, дала азбуку. І я пачаў складаць літары ў словы і вымаўляць атрыманае, можа, і сэнс не ўсяго разумеў. Гэта падалося займальным, як канструктар. Калі бацькі прыехалі за мной, былі здзіўлены. Захапіўся чытаннем: схаваўшыся з ліхтарыкам, бо бацькі адправілі спаць, чытаеш з адным пытаннем — а што ж там далей? Бацькі не складалі спецыяльную праграму, дзякуй богу, не было Інтэрнэта, плыні некантралюемай інфармацыі, у якой сёння маладому чалавеку цяжка зарыентавацца (тут трэба накіроўваць, спіс літаратуры складаць, што мы і рабілі для ўласнага сына). Мне спецыяльна нічога не падсоўвалі: побач была бібліятэка. Я ў ёй проста прапісаўся. Мне падабаўся пах друкарскай фарбы. І ўвогуле, бярэш кнігу ў рукі, зачытаную амаль да дзірак, калі хочаце, са сваёй біяграфіяй (колькі чалавек гэту кнігу прачыталі, колькіх яна закранула, прымусіла думаць, пакутаваць)... Адразу адчуваеш яе каштоўнасць.

Любіў фантастыку, прыгоды. Любімы аўтар — Джэк Лондан. У маіх сённяшніх фільмах вы ўгадаеце рысы яго герояў — цэльныя натуры, мэтанакіраваныя. Ёсць літаратура, якая трапляе да цябе ў дзяцінстве, а тады ты вяртаешся да яе ў сталым узросце. Часу катастрафічна не хапае, вяртаешся да таго, што ўжо добра ведаеш і любіш. “Маленькага прынца” Экзюперы, напрыклад, цікава чытаць у любым узросце — заўсёды знаходзяцца новыя аспекты. Ёсць неабходнасць сёння ў Маленькім прынцу з яго пастулатамі. “Сіняя птушка” Метэрлінка — я адчуваю пах дзяцінства. І “Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі”. Літаратура, якая не мае ўзроставага цэнзу.

У мяне за плячыма два дыпломы ВНУ — акцёр і рэжысёр, гэта патрабавала вывучэння літаратуры, і сучаснай, і класічнай. Здымаў я і паводле твораў Шукшына. Але тут ёсць свая спецыфіка — складана ламаць канструкцыю літаратурнага матэрыялу, адаптаваць яе да сцэнарнай асновы. Літаратура — самастойны від мастацтва.

Сёння для мяне чытанне — пошук матэрыялу, будучага героя. Аддаю перавагу арыгінальным сцэнарыям, творам малавядомых аўтараў. Бывае, нечакана трапляе да цябе такая літаратура, якая можа ўвасобіцца ў фільм. Так было з апавяданнем Аляксандра Чакмянёва, паводле якога створаны “Ваўкі”. З апошняга прачытанага назаву раман палкоўніка авіяцыі Віталя Кірпічэнкі пра вайну ў Афганістане “Яны спадзяваліся”. Я і сам марыў быць ваенным лётчыкам.

# Путешествие во

**Российский писатель Владимир Дегтярёв, известный читателю как автор книги “Ушкуйники”, яркой и увлекательной, повествующей о событиях, которые вполне могли происходить в XII — XIII веках на территории Руси и за её пределами, снова предлагает уйти от обыденного восприятия, казалось бы, общепринятых истин. О пока не изданном романе “Суры” и проекте “Азбука” он рассказывает своему коллеге Сергею Трахимёнку.**

**— Почему ты вдруг занялся столь экзотическим видом деятельности, как палеоэтнография?**

— Давай сначала поговорим о языке. Что это такое?

**— В первую очередь, средство для передачи информации.**

— Журналисты массовых изданий используют только три тысячи слов, высыпая их в разных наборах на газетные страницы. Считается, что телевидение использует пять тысяч слов! И современная литература телевидению завидует. Знаменитая книга Дэна Брауна “Код да Винчи” в русском переводе использует четыре тысячи слов. Это книга? Это телефонный справочник. Развитие средств массовой информации, уничтожение генофонда старых носителей языка о временах революций и репрессий превратили русский язык в гладильную доску. Иное дело письменный язык — “спрятанный язык”, основным качеством которого является долговечность, в отличие от бешено меняющегося разговорного языка. Его основная задача — точная передача информации максимально малыми средствами. А если обратиться к знанию, которое хранит самый древний текст, топонимы и гидронимы Земли, может быть, человечество откроет свою подлинную историю, которая на протяжении его существования подчищалась и переписывалась в угоду правящим классам и религиям. Стоит обратиться к древним текстам и преданиям — и откроется много интересного, что, впрочем, противоречит общепринятым концепциям.

Напишем: “Чилатеть! Ты сан пошинаемь”? Русский поймет не буквы, он махом ухватит смысл вопроса. Ибо он улавливает единовременно и смысл, и графику букв, их последовательность и общий рисунок. И мозг тут же “правит” неверно написанное слово до нужной “правильности”. Слоговый язык не имеет напластований смыслов, которые “навалили” на современные языки различные идеологические системы и мировоззрения. Он максимально доступен, легко читаем, в нём отсутствуют грамматические правила, отсутствуют исключения, окончания, суффиксы, префиксы и т.д. Русские всегда могут понять свой древний язык, ибо он “вшит” в наше сознание. Если же смешать английские буквы написанного по-английски вопроса: “Читатель! Ты нас понимаешь?”, ни один англичанин не поймет за сто лет, что написано. Но вот японский, немецкий и ряд африканских и южноамериканских языков имеют слоговую систему. Их древние тексты легко дешифруются.

Любой слоговый, древний топоним можно проверить на смысловую верность, прочитав его наоборот. И если получается полная противоположность первоначального смысла, значит, топоним расшифрован правильно. Кроме того, если наше древнее письмо сравнить с древним шумерским, а потом с исчезнувшим языком санскрит, мы сразу увидим, что санскрит не “умер”, как утверждают учёные. Просто надо правильно читать этот язык. Он есть обратная сущность шумерского языка, а значит, тоже механизм проверки результата. А это уже математическая система. Выражаясь языком компьютерщиков, системными языками человеческого мозга являются два древних слоговых языка: арабский и русский. Об этом весьма доказательно написал Н. Вашкевич в книге “Системные языки мозга”.

**— Для чего и кем был создан язык?**

— Если принять гипотезу неэволюционного происхождения человека и предположить, что оно было создано теми, кого впоследствии стали называть богами (представители более высокой земной цивилизации, которым требовалась энергия большой мощности, сжатая в малых объёмах. Чтобы забирать её из недр нашей планеты, они стали создавать себе биологических роботов, от карликов до гигантов. Подтверждение тому — шумерские поэмы).

Наши физики утверждают, что получение энергии из золота невозможно. А если бы такие технологии были, то это был бы самый лучший и энергоёмкий энергоноситель. В тысячу раз мощнее и безопаснее, чем уран или плутоний. Так вот те, кого называли богами, имели такие технологии. И человечество какое-то время после “ухода богов” продолжало по инерции добывать золото. Затем золото стало играть совершенно другую роль — богатства. Кстати, технология получения энергии из золота записана в самом этом слове, только в старой буквенной графике. У меня готов проект “Азбука”, там всё рассказано и показано.

Для того чтобы управлять созданными “по образу и подобию”, необходима была система звуковых сигналов. Она основывалась на семи звуках (высота нот). Команды дублировались цветом. Когда появилась необходимость в более сложных командах, родилось “человеческое” Слово. В нём гласные звуки стали сочетаться с согласными. А также появилась каста посредников между богами и людьми. Именно для них и предназначались Речь и Азбука. Азбука представляла собой, с одной стороны, запись команд, с другой — зашифровку данных, необходимых для той или иной деятельности или для сохранения важных знаний.

**— И кто играл роль посредников между людьми и богами?**

— В нашей цивилизации — жрецы государства Шумер (Су Ум Ер). Именно для них и была необходима письменность, то есть третья, после звука и света, знаковая сущность. Она построена на простых и чётких арифметических основах и, я полагаю, является одинаковой во Вселенной. Есть 28 письменных знаков. Из них 21 согласная буква и семь гласных, которые управляют согласными. Данная письменность сегодня известна как шумерская письменность, или санскрит. Позже письменность стала распространяться на представителей других каст, например, на суров — надсмотрщиков, на воинов, инженеров… Но это уже было тогда, когда боги бросили лично опекать “род людской”, якобы покинули Землю и людские элиты стали играть роль богов.

**— Получается, что все беды у человечества начались после “ухода богов”.**

— Да. Боги стройной системой организации человеческого общества сдерживали человеческие страсти. А после их “ухода” всё злое выплеснулось наружу. Мало того, те семь человеческих каст-цивилизаций, которые создали боги, играли определённую роль в разделении труда, а разделение труда хорошо влияет на дисциплину. Место, где сегодня находится Южный Китай (пустыня Такла-Макан), специализировалось на медицине, Индия плавила металлы (что подтверждают артефакты на её территории), арабы были надсмотрщиками в шахтах Нижнего мира (Южная и Центральная Африка), потом мореходами, поскольку доставляли руду в Индию и так далее. Каста-цивилизация суров была кастой воинов, которая обеспечивала порядок на пространстве Империи.

В те времена писцы, если было необходимо обратиться к богам, писали им на листе “снизу вверх”. Если же писец находился справа от звезды Сириус, письмо осуществлялось справа налево, а если наоборот, то слева направо. Когда в результате изменения климата и внутренних распрей Великая империя начала распадаться, суры тремя потоками стали уходить из её центра на территорию Северного полушария...



*Визитка:*

*Владимир Николаевич Дегтярёв, кинодраматург и писатель, родился 26 сентября 1954 года в д. Преображенка Кировской области (Россия). Учился во ВГИКе (1978 — 1982, мастерская В. И. Ежова).*

*Создал телерадиокомпанию в Казахстане. Автор сценариев художественных фильмов “Красный обоз”, “Восточный коридор”, множества сценариев к документальным фильмам; автор книг “Дальний прицел”, “Супротивцы”, “Поцелуй истины”, “Колодец Чингисхана”, “Охотники за курганами”, “Золото Югры” и других, опубликованных в российских издательствах.*

**— И как только они переместились через соответствующую широту…**

— Их стали называть русами. Рус (арабское) — леопард. Русью 1200 лет назад была вся Европа от Испании до Волги. От Волги до Урала была земля Сибирь. За Уралом были Югра и Тартария. Я называю топонимы современные, для понимания их читателями.

**— А письменность сразу приобрела современную конфигурацию?**

— Нет, существуют три азбуки. Условно, по графическому написанию букв, их можно обозначить как азбука бога Энки, азбука бога Энлиля и “руническое письмо”. Я занимаюсь только первыми двумя азбуками, на “косое” руническое письмо уже не хватает времени… Собственно говоря, и кириллица, и латиница есть усложнённые и абсолютно бестолковые графические варианты упомянутых мною азбук. А древняя письменность представляет собой слоговое письмо, где не было глаголов и прочих частей речи, кроме существительных. В ней фактически “работает” математическая точность смысла и результата. А каждая буква в своей графике обозначает точную Сущность. То есть, знак “В” ты не прочтёшь как “Б”, что сегодня делают ловкие пройдохи в латинице…

**— И что раскриптовка книги Земли даст человечеству?**

— Во-первых, возможность адекватно реагировать на те вызовы, которые перед ним вдруг возникают. Во-вторых, не допускать возникновения чрезвычайных проблем, которые порождает само человечество, поскольку оно является искусственно созданным сообществом и не находится в балансе с природной средой планеты. И, в-третьих, полученное Знание не позволит тратить ресурс планеты и человечества на достижение целей, которые могут быть достигнуты иным, простым и очень дешёвым путём.

Например, много средств ушло на постройку андронного коллайдера, дорого стоит поиск полезных ископаемых традиционными методами… И так далее. А можно карандашом написать несколько букв и показать, что значит “Бозон Хиггса”, какова его физическая или математическая величина. Или на обычной карте указать, где есть нефть, золото или… древние стартовые комплексы “ракет богов” — Din Gir. Некоторые до сих пор стоят в пусковых шахтах. Это же клад — узнать устройство древнего ракетного движителя неимоверной мощности…

**— Какие тайны хранит топонимика Беларуси?**

— В силу разных обстоятельств белорусский язык долгое время был подвержен консервации. Но для исследователей такая длительная неизменность Слова просто клад! Сейчас каждая третья описываемая Сущность в проекте “Азбука” проверяется исключительно на 12 000 базовых слов белорусского языка!

**— Прекрасно. Тогда ставлю тебе на раскриптовку один из самых упоминаемых топонимов в Беларуси — Минск.**

— Хорошо. Но предупреждаю: будет много пояснений… И для начала уберём суффикс принадлежности-ск…

Первое толкование древнего города Мэ Эн (Минска) — “Великий, главный, оружием собирающий дань”. Его жители звались мэняне.

Упомяну озеро Ильмень. Это название писалось Il Me Ni. Перевод до жути свирепый: “Место, откуда полубоги с оружием выходят”. “Иль” — это редкий артикль, обозначающий “полубога”. Аль и Эль — главные боги. Представь, каково было увидеть автохтонным жителям прибалтийских территорий высоких, белокожих людей со светлыми волосами, подплывающих по озеру Иль Мень к их жилищам? Так изумлялись индейцы Южной Америки, когда впервые увидели корабли испанских конкистадоров. И здесь и там считали, что вернулись боги…

Христианская религия, кстати, бодро загоняла божественные языческие артикли в конец понятия, но не убирала их совсем. Это мудро. Республика Эль Мари теперь стеснительно называется Марий Эл. А марийцы ещё тысячу лет назад были не последним народом на этой земле. Они были круп-

# времени

нейшими специалистами по разведению новых пород скота и улучшению стада. В церемонии венчания на царство сына Ивана Грозного — Фёдора Иоанновича — марийцы вывели на Красную площадь белого быка! Тот бык возглавил процессию бояр и воевод, первый подошёл к будущему Белому Царю — Фёдору Иоанновичу, упал перед ним на передние ноги... Поклонился!

Католики белого быка боялись и загнали в конец понятия артикль "Эль" при переназвании города Брюссель (Burus El). Но название горы El Bu Rus (Великий белый русский бык) — оставили.

Некоторые учёные предлагают производить толкование столицы Беларуси по способу "народной этимологии". Мол, раз город назывался Ме Не, значит, здесь была мена, люди менялись плодами своих трудов. "Мена, менять, измена" произошло от древнего жестокого понятия "Ме Не Ти" — "Оружие отдаю за жизнь". Короче — "сдаюсь". Потому это толкование не подходит для главного города.

Второй вариант толкования связан с современным написанием — Мин(ск). Могло ли название города сначала появиться в виде такого понятия — Ми На? Вполне могло. Перевод такой: "Поколения упокоены". То есть, под главным городом Беларуси (как под Киевом, под Москвой, под Смоленском, под Мюнхеном и т.д.) находились (и до сих пор находятся) огромные пещерные захоронения прежних жителей. Это обычная древняя практика упокоения, ничего особенного здесь нет.

Третий вариант. Корневое понятие в названии города — "Мин" — на картах территории Евразии нашлось везде! "Мин Дер Ла", "Мин Жир", "Мин Куш", "Мин Кенд", "Мин Бар". Но более всего меня сразила некогда бывшая в Китае династия Мин и главная площадь в том же китайском Пекине — "Тан Ай Мин". Не станем сильно удивляться: "Где Бел Ла Русь, а где Китай, и почему названия одинаковые?" В качестве хорошего намёка мы назовём сейчас три громадных топонима: Сахара (пустыня) — Саха (Якутия) — Сахалин (остров). САХА, САХА, САХА; МИН, МИН, МИН… Не много ли одинаковых топонимов на нашем маленьком глиняном шарике? Значит, люди и цивилизации двигались и двигаются по планете. Наша Империя "фронтом", за пять тысяч лет, передвинулась от линии "Эфиопия — Вавилон" через "Царь-Град — Лахор" на современную линию "Москва — Камчатка". И нам скоро придётся ещё раз линейно подниматься на Север. Земля этого хочет… Природа.

Так что же такое Мин? Главная площадь Пекина носит не китайское название. Это язык той цивилизации, которая почти полтысячи лет (в VI — IX веках н. э.) "сидела" на китайцах и научила племена собирателей основным законам, а также научила иногда варить или жарить пищу. А Мин (Мын — у людей с "короткой глоткой") — это "тысяча", "большой неизменный период". Наши предки "сто лет" считали большим пределом, а уж тысячу лет и подавно воспринять не могли. Но относились к числу с уважением. Площадь Тан Ай Мин — "Восход Луны над Вечностью".

То есть, Минск (Мынск) надо понимать как город "древний, великий, уважаемый".

И последнее: Мин — это еще и "Знание". Во все времена Знание считалось самой большой ценностью. Отсюда простой вывод: "Раз Минск (Мынск) был Великим и главным городом, то там должна быть достаточно большая «языческая» библиотека". Она, конечно, спрятана. Эта библиотека написана на камнях, на досках, на кожах. Полное объяснение исходных данных сего факта не для этой статьи. Ведь белорусское понятие Мын на древнем слоговом языке правильно пишется как Му Ин. Буква Ы получается когда одновременно произносишь "уи — ы". А понятие Му Ин переводится как "в мудрость входящие". Нигде, кроме библиотеки, в мудрость не входят.

**Словом, подводя итог толкованию топонима Минск, можно сказать, что расшифровка названия главного города территории Бел Ла Русь пусть будет нами с тобой остановлена пока на понятии "город древний, мудрый, уважаемый"… А древнюю библиотеку надо бы поискать.**

## Фильмография В.Н. Дегтярёва

*Автор сценария:*

*— художественных фильмов "Красный обоз" (1980, к/с ВГИК — к/с "Казахфильм"), двухсерийного "Восточный коридор, или Рэкет по-…" (1989, "Оркен-фильм", "Ялта-фильм", "Мосфильм");*

*— более двадцати документальных фильмов, снятых на к/с "Казахфильм": "Иртыш — знак вопроса" (1986, режиссёр-оператор В. Дудин), "Ключи от поймы" (1987, режиссёр Б.Кадырбеков), "Радуга над степью" (1989, режиссёр Б.Кадырбеков), "Крестьянское хозяйство Леонтьевых" (1991, режиссёр Б. Кадырбеков); автор сценария и режиссёр документального фильма "Район плаванья неограничен" (1991, оператор В. Дудин), видеофильма "Павлодар" (1989, режиссёр-оператор В. Дудин);*

*— документальных фильмов, снятых на "Казахтелефильме" (режиссёр С. Морозов): "Проводы зимы" (1986), "Остановленное мгновение" (1987), "Ересь Колмогорова" (1988), "Шлак и уголь" (1991) и др.*

**Старадаўні горад Ляхавічы, што калісьці славіўся непрыступным замкам, з часам ператварыўся ў невялікае мястэчка Слуцкага павета, дзе нішто не нагадвала пра былую веліч.**
**Тут у 1901 г. і нарадзіўся будучы партызан, разведчык, кантрабандыст, а перадусім пісьменнік Сяргей Пясецкі.**
**Род Пясецкіх вядомы ў Беларусі з XVI ст. У часы Рэчы Паспалітай яго прадстаўнікі мелі землі, багацце, займалі высокія пасады.**
**У сваяцтве з імі былі нават магутныя Сапегі.**
**Аднак за стагоддзі багацці растрачаны, землі перайшлі да іншых гаспадароў, а бацька нашага героя — Міхаіл — задавольваўся месцам паштовага чыноўніка.**



# Турма і воля Сяргея Пясецкага

**Андрэй БЛІНЕЦ,**
**г. Клецк**

Сяргей быў пазашлюбным сынам шляхціца і служанкі, якой пасля нараджэння дзіцяці бацька забараніў наведваць хлопчыка, а неўзабаве ў яго з'явілася новая каханка. Сяргей рос самотным і замкнёным. Ахвотна блукаў па навакольных лясах. Навучыўся спрытна лазіць па дрэвах, разбірацца ў звярыных слядах, арыентавацца па зорках. Па некалькі дзён мог харчавацца грыбамі і ягадамі. Калі ж вяртаўся дадому, браўся за кнігі з бацькавай бібліятэкі. Здаецца, што яго сапраўднымі выхавальнікамі былі Гюго, Дзюма, Гогаль, Купрын і іншыя. Па службе бацьку неаднойчы пераводзілі з месца на месца. І паўсюдна Сяргей адчуваў сябе чужым. Канфліктаваў з аднакласнікамі і настаўнікамі. За спробу ўзброенага нападу на інспектара гімназіі ва Уладзіміры ўпершыню трапіў у турму. Тэрмін аказаўся кароткім. Свабоду прынесла рэвалюцыйная смута 1917 г.

Праз краіну, ахопленую анархіяй і тэрорам, юнак прабраўся ў Мінск і нечакана зразумеў, што заўсёды марыў пра такое жыццё, поўнае небяспекі і прыгод. Сяргей далучыўся да аднаго з партызанскіх атрадаў і да вясны 1921 г. ваяваў у шэрагах беларускай паўстанцкай арганізацыі "Зялёны Дуб". З заканчэннем вайны скончылася і партызанская вольніца. Дваццацігадовы хлопец апынуўся на польскім баку мяжы без прафесіі, без грошай, без сям'і. Тады ж ён трапіў на вока агентам 2-га аддзела польскага генштаба (т.зв. "двойкі"), які займаўся разведкай і контрразведкай, і без ваганняў прыняў іх прапанову аб супрацоўніцтве.

Пазней у адной з аповесцей ён напіша: "Работа шпіёнаў цікавіла мяне заўсёды. Мне імпанавалі іхні спрыт, энергія, адвага. Уступіць у вайсковую выведку, каб знайсці прымяненне сваім сілам, я й не спрабаваў, бо ўважаў гэта за немагчымае. Лічыў, што агенты выведкі мусяць мець надзвычайныя здольнасці, скончыць шматгадовыя спецыяльныя школы… Памыляўся… Патрэбна пэўная кваліфікацыя, і выявілася, што я яе маю". Ён добра ведаў памежную паласу, якая па жывым перарэзала Беларусь; валодаў мясцовай гаворкай — сумессю рускай, беларускай і польскай моў з дамешкам яўрэйскіх слоў; быў знаёмы з ваеннай справай. На сваё першае заданне разведчык Пясецкі пайшоў без грошай і дакументаў, у кішэні было 5 тысяч марак, што па тагачасным курсе адпавядала аднаму долару. Пераход граніцы ва ўсе часы быў справай нялёгкай, а тым больш на пачатку 1920-х… Каб трапіць з "польскага" Ракава ў савецкі Мінск, неабходна было пераадолець мяжу, а потым — т.зв. "другую пагранічную лінію". Паміж імі дзяжурылі конныя і пешыя патрулі, у зручных месцах хаваліся "сакрэты". Мясцовасць за другой лініяй прачэсвалі конныя раз'езды. Рэгулярна праводзіліся аблавы. Небяспечным мог быць і выпадковы сустрэты злачынца, і даведзены да галечы селянін, і яўрэй-швец — сакрэтны супрацоўнік Надзвычайнай камісіі. "Такое падарожжа, — пісаў наш герой, — можна параўнаць з вялікай шахматнай дошкай, чорныя палі якой абазначаюць небяспеку, і трэба перайсці з аднаго боку на другі толькі па белых клетках. Пры гэтым звычайна не ведаеш, дзе наступны чорны квадрат".

Памежжа жыло асаблівым жыццём. Тут квітнела кантрабанда, нефармальнай сталіцай якой стала мястэчка Ракаў. Тысячы людзей займаліся толькі тым, што перапраўлялі ў абодва бакі разнастайныя тавары: дамскую бялізну і парфумерыю, абутак і галантарэю, штучныя зубы і электрычныя ліхтарыкі. І, канечне ж, золата, брыльянты, какаін. Будучы па натуры авантурыстам, Пясецкі ўцягнуўся ў гэты вір. Перад начальствам апраўдваўся — яму як разведчыку зручна дзейнічаць пад маскай кантрабандыста. І сапраўды, афіцыйныя рапарты адзначалі яго адвагу, спрыт, здольнасць выконваць самыя складаныя заданні. Але поруч з гэтым ён не грэбаваў звычайным разбоем. Прыахвоціўся да наркотыкаў і гарэлкі. Увесь час увязваўся ў розныя авантуры, за што трапляў у турму, як на савецкім, так і на польскім баку. Урэшце рэшт "двойка" вырашыла пазбавіцца ад непрадбачанага агента. У канцы 1926 г. ён зноў апынуўся без грошай і без працы. З усёй маёмасці застаўся толькі рэвальвер.

Разам з сябрам Пясецкі здзейсніў напад на пасажырскі цягнік на вузкакалейцы Ліда — Гродна. Акцыя прайшла паспяхова, але праз нейкі час паліцыя затрымала злачынцаў. Былога разведчыка асудзілі на расстрэл, які, улічыўшы ранейшыя заслугі, замянілі на 15 гадоў зняволення. За кратамі Пясецкі бясконца бунтаваў, патрабаваў выканання сваіх правоў, пісаў прашэнні аб скарачэнні тэрміну. Замест гэтага яго пераводзілі з адной вязніцы ў другую з больш суровым рэжымам. Ліда, Равіч, Каронаў і, нарэшце, "Святы Крыж" — турма з самымі жорсткімі ўмовамі ўтрымання. Кожны пяты вязень паміраў у яе мурах. Менавіта тут Сяргей пачаў пісаць. Яму ў рукі выпадкова трапіў абрывак газеты з аб'явай пра літаратурны конкурс. І арыштант вырашыў удзельнічаць.

У яго жыцці было столькі прыгод, што іх хапіла б на некалькі раманаў. А польскую літаратурную мову, якой раней не ведаў, пасвеў вывучыць па кнігах турэмнай бібліятэкі. Вязню нават выдалі чысты сшытак. Лепш няхай піша, чым арганізоўвае чарговы бунт. Менш чым за месяц з'явілася аўтабіяграфічная аповесць "Пяты этап", героямі якой сталі кантрабандысты і разведчыкі. Але турэмная цэнзура адмовілася даслаць яе на конкурс. Не выйшла на волю і другая аповесць "Дарога да сцяны". Цэнзура ўгледзела ў ёй парушэнне "маральных правіл". І толькі трэці твор — "Каханак Вялікай Мядзведзіцы" — трапіў да чытачоў. Гэтая кніга змяніла лёс аўтара. Выдадзеная ў 1937 г., яна хутка стала бестселерам, вытрымала некалькі выданняў у Польшчы, была перакладзена на замежныя мовы. Натуральна, публіка жадала бачыць аўтара і была надзвычай здзіўлена, калі даведалася, што ён адбывае тэрмін за разбой. Грамадская кампанія за вызваленне пісьменніка, да якой далучыўся і ўраджэнец Мінска Мельхіёр Ваньковіч, дала свой вынік. Восенню 1937 г. Сяргей Пясецкі апынуўся на волі.

Ён вёў самотнае жыццё. Пазбягаў карэспандэнтаў. Шмат працаваў. Яго новая кніга "Начныя багі" заняла другое месца ў апытанні чытачоў "Wiadomosci Literackich" на лепшую аповесць Польшчы 1938 г. Тады ж пра нашага земляка загаварылі як пра магчымага кандыдата на Нобелеўскую прэмію. Але ўсе планы перакрэсліла вайна. У час акупацыі Пясецкі быў байцом Арміі Краёвай. Уваходзіў у склад асобнай групы Віленскай акругі АК. Менавіта ён арганізаваў уцёкі з вязніцы гестапа Юзафа Мацкевіча, пазней знакамітага польскага пісьменніка. Пасля вайны ён здолеў перабрацца ў Італію, адтуль выехаў у Англію, дзе правёў рэшту жыцця. Хоць яго кнігі выходзілі ў розных краінах, жыў бедна. Многія выдавецтвы не надта рупіліся пра высылку ганарараў. У прадмове да выдадзенага ў Італіі "Каханка Вялікай Мядзведзіцы" ўвогуле было сказана, што аўтар загінуў на вайне. Тым не менш літаратурнай працы Пясецкі не кідаў. Пісаў навелы, п'есы, публіцыстычныя артыкулы. У Англіі з'явіўся і вострасатырычны раман "Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі". Ён быў сябрам Саюза польскіх пісьменнікаў у выгнанні, супрацоўнічаў з эміграцыйнымі выданнямі, у тым ліку са славутай парыжскай "Культурай". У 1953 г. з'явіўся першы пераклад яго твораў на беларускую мову. У газеце "Бацькаўшчына" пад загалоўкам "Забытыя героі" былі надрукаваны ўрыўкі з аповесці пра партызан 1919 г.

12 верасня 1964 г. Сяргей Пясецкі памёр у ваенным шпіталі ад раку. Ён пахаваны далёка ад родных Ляхавіч, у Вялікабрытаніі, у горадзе Гастынгс. І амаль праз сорак гадоў пасля яго смерці кнігі Пясецкага нарэшце пачалі даходзіць да беларускага чытача.

Новае выданне

# Хай свеціць сонейка драматургу

**Ажно не верыцца, што мінула ўжо шмат гадоў з таго часу, калі я трымаў у руках першую кніжку прозы “Стронга” Уладзіміра Ягоўдзіка з ягоным аўтографам. І радаваўся за яе не менш, чым сам аўтар, радаваўся па-зямляцку шчыра і светла, перачытваючы аповесць і апавяданні, што ўвайшлі ў кнігу, “ад коркі да коркі”. Потым былі дзясяткі іншых кніг аповесцей, апавяданняў, казак, абразкоў, замалёвак, эсэ пісьменніка. Але заўсёды ў душы празаіка Уладзіміра Ягоўдзіка — я гэта адчуваў — было месца для драматурга.**

Сяргей ЧЫГРЫН

Іншыя, здавалася б, больш нахабна лезлі б у драматургію, надакучвалі б рэжысёрам п’есамі, а Уладзімір Ягоўдзік не спяшаўся завальваць тэатры сваімі драматычнымі творамі. У гэтым плане ён заўсёды быў нейкі спакойны, цярплівы, строгі да сябе і нават асцярожны. Праўда, перш чым свет пабачыла яго першая празаічная кніга “Стронга” (Мінск, 1984), Брэсцкі тэатр лялек у 1983 годзе паставіў яго першую п’есу-казку “Залатое зярнятка”. А потым, праз два гады, сцэнічнае жыццё ў Брэсце атрымала другая казка Уладзіміра Ягоўдзіка “Сонейка, свяці!” Лёс “Сонейка…” быў даволі шчаслівы. Па гэтай п’есе купалаўцамі запісаны радыёспектакль на Беларускім радыё, пастаўлены мюзікл у Гродзенскім абласным драматычным тэатры. І што самае неверагоднае, гэтую п’еску “Ваап-інформ” выдаў у Маскве ў 1987 годзе ў перакладзе на рускую мову, а Міністэрства культуры Украіны — па-украінску. Далёка на Камчатцы (Расія) у мясцовым абласным тэатры лялек жыццё атрымала п’еса драматурга “Пякла баба калачы” (у суаўтарстве з А. Пыжыкам).

Шчаслівай на сцэнічнае жыццё была і п’еса Уладзіміра Ягоўдзіка “Усміхніся, прынцэса!”. У 1991 годзе рэжысёр Мікалай Варвашэвіч паставіў яе на сцэне Слонімскага беларускага драматычнага тэатра пад назвай “Прынцэса і салдат”. А Беларускае радыё па гэтай п’есе падрыхтавала радыёспектакль. Дарэчы, на радыё ў 1990-я гады часта гучалі п’есы драматурга. Радыёспектаклем “Калі тупне зайка” па п’есе Уладзіміра Ягоўдзіка заслухваліся юныя слухачы рэспублікі ў канцы 1980-х гадоў. Спектакль па гэтай п’есе, але пад назвай “Сакрэты вогніка”, дэманстраваўся і на Беларускім тэлебачанні. Як бачыце, Уладзіміру Ягоўдзіку сапраўды свяціла сонейка дзеля сцэнічнага ўвасаблення і доўгага жыцця ягоных п’ес.

Прайшлі гады, і драматург зноў вырашыў вярнуцца да сваіх драматычных спроб. Ён іх перачытаў, перапрацаваў, напісаў нізку новых. І ўсе разам звязаў у адзін снапок “Спеўны кірмаш” і вырашыў адрасаваць яго ўсім, хто любіць тэатральнае мастацтва. Кніга з такой назвай не так даўно пабачыла свет.



П’есы Уладзіміра Ягоўдзіка, з якімі пазнаёміцца не толькі чытачы, а найперш прафесійныя рэжысёры, а таксама рэжысёры народных і самадзейных тэатраў, немудрагелістыя. У іх дзейнічаюць традыцыйныя народныя персанажы: каралі, ведзьмы, жаўрукі, лесавікі, жнеі, кавалі і г.д. — зразумелае дзецям казачнае асяроддзе, якое, дарэчы, на працягу многіх стагоддзяў уплывае на выхаванне самабытнага характару беларусаў. Адны казкі з гэтай кніжкі маюць філасофска-прытчавую афарбоўку, другія — напісаны паводле беларускага фальклору, трэція — казкі-роздумы над сяброўскімі ўзаемаадносінамі ў жыцці. Напрыклад, героі п’есы “Вясёлы звярынец” не жадаюць у лесе выць паваўчы, значыць, не любяць і не шануюць воўка. Дзеля гэтага ліса ўрачыста зачытвае загад: “Загад уладара нашага яго царскай вялікасці ваўчынай шэрасці трэцяга. Хто да раніцы не навучыцца выць па-воўчы, той заўтра трапіць яму на сняданак!” Але вожык і вавёрка смела адказваюць: “А навошта нам выць? Мы ўмеем хараша спяваць! А па-воўчы няхай выюць разбойнікі…” Так разважаюць казачныя героі Уладзіміра Ягоўдзіка, але так бывае і ў чалавечым жыцці…

У гэтай згадцы можна было б спыніцца на сюжэце кожнай з п’ес драматурга, але лепш за ўсё будзе, калі з імі пазнаёмяцца чытачы, а рэжысёры тэатраў самастойна пранікнуць у сутнасць дзей п’ес, каб вызначыць іх ідэю і асноўную думку. П’есы зборніка “Спеўны кірмаш” сцэнічныя, лёгкія для пастановак, вобразы казачных герояў напісаны аўтарам ярка, проста, цікава. Усе яны нясуць у сабе пазнавальную, маральна-этычную і эстэтычную змястоўнасць. У п’есах шмат песень на словы вядомых беларускіх паэтаў Алеся Пісьмянкова, Леаніда Дранько-Майсюка, Алеся Бадака, Міколы Пракаповіча. Аформіла кнігу мастачка Алена Лось.

Верыцца, што зборнік п’ес-казак Уладзіміра Ягоўдзіка “Спеўны кірмаш” навучыць юных гледачоў быць працавітымі, добрымі і справядлівымі. Галоўнае, каб п’есы не засталіся па-за ўвагай рэжысёраў беларускіх тэатраў.

Прэзентацыя

# На ліфце — у космас



**Думаю, многія чытачы падзеляць са мной настальгічна-трапяткія ўспаміны пра жанр фантастыкі, знаёмства з якім, як правіла, адбываецца ў дзяцінстве. Менавіта фантастыка вучыць нас думаць нетрадыцыйна, глядзець на свет па-новаму, мадэляваць касмічныя прасторы, даследаваць Атлантыду і Старажытны Рым... Падарожжы ў мінулае і будучыню, дзіўныя прыгоды, новыя адкрыцці — з усім гэтым сутыкаюцца героі кнігі Валерыя Кастручына і Уладзіміра Цвяткова “Прыгоды ў Даліне Пяці Вятроў”, што не так даўно пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”.**

Кацярына БЯДУЛІНА

У выданне ўвайшлі дзве фантастычныя аповесці: “Прыгоды ў Даліне Пяці Вятроў” і “Падарожнікі ў часе”, у кожнай з якіх аўтары даюць чытачам унікальную магчымасць забыцца на рэальнасць і акунуцца ў фантастычны свет.

Існуе меркаванне, што ўсё ў гэтым жыцці не выпадкова. Так атрымалася і з Алікам, галоўным героем першай аповесці. Калі б яму на галаву не звалілася кніга — фундаментальная праца пра планету Марс, напісаная яго дзядулем, ён ніколі б не зацікавіўся ёю і ніколі б у яго не ўзнікла пытанне: “А мой дзядуля сам з’яўляецца марсіянінам?” А тут яшчэ і сябар запрашае Аліка да сябе ў госці паглядзець фільм пра Марс з удзелам любімага акцёра. Як тут не пагадзіцца? Але вось адбываецца нечаканае… Алік захрасае ў ліфце разам са сваім сабакам Рынгам. Голас дыспетчара становіцца чужым і далёкім-далёкім. Хлопчык нібы правальваецца ў незнаёмае вымярэнне. Ліфт становіцца касмічным караблём, яго дзверы даюць выхад у космас. І вось… Алік і Рынг апынаюцца на Марсе. Дзіўная дзяўчынка Кара дапамагае герою пазнаёміцца з жыццём планеты. Так ён даведваецца пра робатаў, Вялікага Шкодніка, Фобас, адкрывае новыя таямніцы гэтай загадкавай планеты.

Аповесць “Падарожнікі ў часе” — вострасюжэтная і дынамічная. З чалавекам, які шукае сябе ў новым, імкнецца спазнаць навакольны свет, заўсёды здараецца штосьці надзвычайнае. Так адбылося і з героямі аповесці — школьнікам Цімафеем і яго сябрам катом Філімонам, якія падарожнічаюць у часе. Іх вандроўка пачынаецца са Старажытнага свету і Атлантыды. Менавіта тут хлопчык знаёміцца з атлантам Эолам, трапляе то ў глухую пячору, то на ўзбярэжжа вялізнага акіяна, разам з навукоўцамі розных часоў (нават са знакамітым Архімедам) робіць дзіўныя адкрыцці. Аўтары аповесці з лёгкасцю дазваляюць героям перамяшчацца ў часавай прасторы. Пазнаёміўшыся з таямніцамі Старажытнага свету, Цім вяртаецца ў цяперашні час, дзе яго таксама чакаюць цуды. Хлопчык разумее, што ён, аказваецца, падарожнічаў у часе не бессэнсоўна, бо адкрыў для сябе шмат новага. Наш герой не заўважае, як робіць поспехі ў вучобе і атрымлівае адны “пяцёркі”. Аднак, вырашыўшы распавесці пра свае прыгоды аднакласнікам, ён сутыкаецца з непаразуменнем. Але ў той жа час Ціма чакае поспех: навуковая рада прызнае дасягненні і пацвярджае, што ён, вучань сёмага класа, здзейсніў адкрыццё — вынайшаў новы метад выкарыстання энергіі гравітацыйных хваль у практычных мэтах.

Свет фантастыкі яшчэ раз нагадвае нам, што ўсё, пра што мараць людзі, абавязкова становіцца рэальнасцю. Успомніце фантастыку Жуля Верна, “Гіпербалоід інжынера Гарына” Аляксея Талстога альбо фантастычны раман Аляксандра Бяляева “Чалавек–амфібія”.

Свет фантазіі

# Творца з Дзяржынска

Раіса МАРЧУК

**Аматарам фантастыкі добра знаёмае імя Юрыя Брайдэра. Але, мабыць, не ўсе ведаюць, што ён жыў і тварыў у Беларусі, а дакладней, у Дзяржынску. Працаваў у міліцыі, у дэпартаменце па ахове. Героямі яго твораў, асабліва першых, былі саслужыўцы, мясцовыя жыхары, людзі яркія і неардынарныя. Пісьменнік цікава і таленавіта выпісваў іх характары, паводзіны, учынкі. Нягледзячы на творчую завуаліраванасць, прататыпаў часта пазнавалі, і ўсё гэта выклікала яшчэ большую цікавасць да твораў.**

— Усе, з кім Юрый Міхайлавіч працаваў і меў зносіны, характарызавалі яго як вельмі добрага, прыстойнага, вясёлага і гумарнога чалавека, — расказала дырэктар Дзяржынскага гісторыка-краязнаўчага музея Вольга Чарненка. — Калі ён пісаў пра што-небудзь смешнае з жыцця пэўных людзей, то рабіў гэта зусім не злосна і даволі тактоўна. Пісьменнік часта заходзіў да нас, дзяліўся творчымі планамі, прыносіў толькі што надрукаваныя творы і абавязкова са сваімі аўтографамі.

Юрый Брайдэр яшчэ ў дзяцінстве прыдумваў розныя гісторыі для сябе, іншы раз чытаў іх сябрам. Усур’ёз творчай працай заняўся ў пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Служба ў міліцыі не перашкаджала яго пісьменніцкай дзейнасці. Праз нейкі час Юрый Міхайлавіч пачаў пісаць у суаўтарстве з Мікалаем Чадовічам. Іх творы друкаваліся не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі. Усяго з-пад пяра фантастаў выйшла 30 аповесцей і апавяданняў, 19 раманаў. Дарэчы, іх прозвішчы трапілі ў сусветную “Энцыклапедыю фантастыкі”, дзе было пазначана, што ў творах аўтараў спалучаюцца інтарэс да класічнага парадаксальнага сюжэта, жыццёвая назіральнасць пісьменнікаў-рэалістаў і талент сатырыкаў.

Фантаст з Дзяржынска неаднаразова быў узнагароджаны жанравымі прызамі расійскай літаратурнай прэміі ў галіне фантастыкі “Странник”. Прынамсі, у 1998-м атрымаў “Меч Руматы” за прыгодніцкі раман “Паміж плахай і сякерай”. Праз пяць гадоў — новае прызнанне: на міжнародным фестывалі “Зорны мост-2003” іх раман “Цвік у галаве” стаў лаўрэатам у намінацыі “Буйная форма” і быў прызнаны лепшым сярод амаль сотні твораў. У беларускага фантаста меліся і іншыя перамогі. Кнігі Юрыя Брайдэра выходзілі немалымі, па сучасных мерках, тыражамі — па 12 — 15 тысяч экзэмпляраў — і перакладзены на 14 моў свету.

## Мастак і кніга

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



# Не хапае часу на творчасць

**Уладзімір Савіч — чалавек вельмі строгі і патрабавальны. Менавіта такім ён застаецца для студэнтаў. Сваю прынцыповую пазіцыю тлумачыць тым, што наяўнасць таленту — калі Богам пацалаваны студэнт — не дае права на ляноту. І ніякіх адгаворак не прымае.**

**— Уладзімір Пятровіч, як бы вы ахарактарызавалі тых, хто сёння працуе над кнігай?**

— У графіцы засталіся толькі тыя, каму ёсць што сказаць і хто жадае выказацца. Я ўжо трыццаць пяць гадоў выкладаю ў Акадэміі мастацтваў. Слова "таленавіты" адносна студэнтаў я нават не ўжываю. Глыбока перакананы: першая прыступка таленту — калі ён ужо скончыў акадэмію, над ім ужо не стаіць з пугай ні выкладчык, ні загадчык і не патрабуе прытрымлівацца тэрміну здачы працы да прагляду і да т.п. Застаюцца мастакамі тыя, у каго ёсць жаданне выказацца. А наш інструмент — аловак, пэндзаль…

**— Як старшыню творчай суполкі вас не можа не хваляваць тое, што няшмат моладзі імкнецца ў гэты сегмент творчасці.**

— Так, існуе многа выдатных студэнтаў, дыпломная праца якіх застаецца "лебядзінай песняй".

Сёння, калі студэнт выходзіць на дыплом, робіцца не кніга, а серыя ілюстрацый па матывах гэтай кнігі. Маладыя людзі разумеюць, што не рэалізуюць гэты макет, таму робяць графічныя аркушы. Хаця ёсць і выключэнні: Вера Ягоўдзік узяла кнігу ў замежнай сяброўкі і зрабіла паўнавартасны макет двух варыянтаў. Можна і неабходна эксперыментаваць: у кнізе можна сумясціць палову аднаго варыянта, палову — другога.

Сёння ж кнігавыданне мастаку-ілюстратару прапануе ў большасці стандартныя макеты, для якіх робіцца набор ілюстрацый. Як ацэньваюць кнігу на конкурсе? Спачатку — як яна зроблена паліграфічна. Потым ацэньваюць вартасць макета і толькі потым — ілюстрацыі. У большасці нашых мастакоў адна бяда — яны добрыя ілюстратары, але не могуць адпаведна зрабіць макет. Камп'ютар дае вялікія магчымасці, але і вялікую спакусу: часта аздабленне ідзе не ад душы, духоўнасць прападае — кампілююцца творы.

Пастаянна ламаем галаву на кафедры, як вярнуць мастака да кніжнай графікі. Канечне, у першую чаргу ўсё залежыць ад асобы. Той, у каго свет у душы, застанецца, нібыта зерне, што дасць парастак. Пра адказнасць яшчэ раз нагадаю: са студэнтамі разы тры-чатыры прапаноўваў зрабіць у якасці дыплома кнігу, якая рыхтавалася ў выдавецтве. Толькі адна спроба атрымалася. Было такое, што нават тэксты гублялі.

Каб вярнуць нашу кнігу на вяршыні, заваяваныя ёю ў 1970 — 1980-я гг., патрэбна істотная падтрымка дзяржавы — і гэта пытанне я ўздымаў і буду ўздымаць на высокім узроўні. Я збіраюся на прыём да міністра інфармацыі: і пра гэта пагутарыць, і пра своечасовую выплату ганарараў мастакам.

Трэба, каб паступова дзяржава ізноў вярнулася да выдання не толькі асноўнага масіву, але і кніг павышанай якасці, конкурснага характару. І я з задавальненнем параіў бы вартых такіх заданняў з моладзі.

Вось наш выпускнік і сённяшні выкладчык, выдатны мастак-графік Павел Татарнікаў, дзеля якога зрабілі выключэнне на сусветна вядомым BIB у Браціславе: ён двойчы атрымаў вышэйшую ўзнагароду — "Залаты яблык".

**— Якія работы адзначылі б?**

— Бачыў шмат замежных кніг, над якімі шчыравалі сусветна вядомыя мастакі. І самастойныя творы, і ілюстрацыі па тэксце, каб была магчымасць паказаць амплітуду сваёй творчасці.

З апошніх нашых выданняў адзначыў бы альбом "Беларускае мастацтва". Гэта выданне на конкурсе кнігі СНД у Маскве адзін бал недабрала да Гран-пры, заняло першае месца ў намінацыі "Садружнасць". Макет зроблены як на адным дыханні. Ганаруся тым, што кнігу зрабіў мой сын, мастак Андрэй Савіч, які займаецца кніжнай і станковай графікай, жывапісам, скульптурай.

**— Уладзімір Пятровіч, што самае галоўнае трэба зразумець чалавеку, які збіраецца стаць кніжным графікам?**

— Мастакі, якія займаюцца кніжнай графікай, — на вельмі адказным участку працы. Малеча, што яшчэ і размаўляць як след не ўмее, гартае кніжкі, глядзіць малюнкі — і праз ілюстрацыю атрымоўвае інфармацыю пра свет. Менавіта мастаку наканавана выхаваць у дзіцяці пачуццё гармоніі. Заўсёды студэнтам прыгадваю словы Маціса: "Ніколі не пачынайце з таго, чым я закончыў. Увесь час шукайце, эксперыментуйце і імкніцеся ісці сваім шляхам".

Ілюстрацыі павінны быць зроблены сэрцам і рукою. Тады гэта будзе мастацкае выхаванне. Жывапіс, колер — гэта душа чалавека. Радасць — не ў яркасці фарбаў, калі ілюстрацыі згарманізаваны, дзіця прывыкае да культуры колеру. Кожны мастак павінен размаўляць мовай сваёй зямлі. Так, ведаць родную мову, спадчыну, этнаграфію, фальклор — быць высокаадукаваным чалавекам.

Калі я пачаў займацца кнігамі, па-першае, пачаў вывучаць сваю спадчыну — этнаграфію, музыку, гісторыю. (Мастак павінен не толькі прачытаць тэкст, але раскрыць яго, даць больш інфармацыі.) Першую кнігу "Разумная дачка" зрабіў у 1972 годзе. Калі пачаў прыносіць выявы ў строях, у намітках, пачуў: "Што ты літоўцаў прыносіш?" — і давялося несці фотаздымкі ў доказ, што гэта наш рэгіён, Палессе. Пра аформленую мной кнігу Ніны Мацяш "Казка пра суседзяў, змяю і мядзведзя" ў Маскве на конкурсе сказалі: упершыню ўбачылі прыгожых беларусаў. Мне было вельмі прыемна.

**— Што б самі хацелі яшчэ аздобіць?**

— На маім рахунку — больш як сотня кніжак, у асноўным дзіцячыя. Калі б давялося аформіць — узяўся сам зрабіць і макет, і ілюстрацыі. З майго сённяшняга ўзросту перапрацаваў бы анталогію дзіцячых казак ці грунтоўны твор роднай літаратуры, накшталт "Новай зямлі" Якуба Коласа.

**— Раскажыце пра цікавы міжнародны праект, у якім давялося ўдзельнічаць.**

— Пад Кёльнам знаёмы пастар мае галерэю і на святы, царкоўныя ды іншыя, ладзіць выстаўку. Цікавы быў праект з мастаком-фатографам: мы абмяняліся пяццю незавершанымі работамі і дамовіліся выкарыстоўваць іх на свой густ. Аказалася, мне больш складана — я папрасіў дазволу рабіць з іх калаж. Як мастак-графік не магу адысці ад паперы. У яго атрымалася выдатна — унікальная тэхніка: здымае работы на палароід, праз некалькі разоў пераздымкаў выява робіцца больш графічнай. Ён мае каляровыя плямы падклаў пад гэты "малюнак", розны нахіл асвятлення, такія каляровыя цуды атрымаліся. І раздрукаваў на алюмініевых пласцінах, кожная 300 кілаграмаў вагой. Гэта ўражвае.

**— Што турбуе вас як мастака?**

— Не хапае часу на творчасць. Шмат ідэй, нават і занадта. А кожная ідэя нібы крыга, пазней разбіваецца на кавалкі — і вы змушаны выбіраць ужо з іх. Некаторыя мастакі, пакуль твор не закончаць, іншы не пачынаюць, а ў мяне заўсёды твораў 30 — 40 пачатых. З аднаго боку, гэта хараша, з творам важна размаўляць. Ён набірае эмоцыі. І калі першую эмоцыю ты здолееў раскрыць — гэта вельмі добра. З другога боку — калі мяняеш, можа, атрымаецца больш прыгожа, але штучна. І прафесіянал гэта заўважыць.

***Візітка:***

***Уладзімір Савіч нарадзіўся 16 красавіка 1952 г. у вёсцы Акцябр Лагойскага раёна Мінскай вобласці. У 1976 г. закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут і з таго часу выкладае ў ім. Прафесар (1996). З 1972 г. удзельнічае ў мастацкіх выстаўках. Член Беларускага саюза мастакоў з 1978 г. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў. З 28 лістапада 2007 года займае пасаду старшыні Беларускага саюза мастакоў. Працуе ў станковай і кніжнай графіцы, жывапісе.***



***На здымках:** ілюстрацыі У. Савіча (вокладка кнігі П. Стэнлі-Бэкера "Дзеткі палёў і садоў"; да камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта").*

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК




**Шугля, В. Ф. Дорога к дому…: книга лирики / Владимир Шугля. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 160 с.**

Новы зборнік вершаў Уладзіміра Шуглі — яшчэ адно пацвярджэнне паэтычнага таленту аўтара. У яго лірыцы без крывадушша і падману выяўляюцца пранізлівыя пачуцці, простыя, але шчырыя думкі, меркаванні пра ўласцівасці быцця. Вобразнасць і метафарычнасць, як і мае быць у паэзіі, ідуць поруч з глыбінёй уражання і святлом душы аўтара. Думаецца, такая паэтычная споведзь не пакіне раўнадушнымі чытачоў розных узростаў.




**Салтук, А. У. Дзве зары / Алег Салтук — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 238 с.**

Творчасць Алега Салтука, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, хутчэй можна аднесці да традыцыйнай. Звыклая вобразнасць, класічныя прыёмы вершаскладання, далёка не новыя тэмы. Але поруч з такой звыкласцю і знаёмасцю ў вершах Алега Уладзіміравіча адчуваецца і нейкая свежасць, нібы ўлетку подых халоднага ветрыка на беразе возера. Тэматычна кніга далучана да папярэдніх зборнікаў вершаў аўтара. Увага паэта на гэты раз скіравана на актуальныя праблемы сучаснасці, якія вырашаюцца праз яго крэўную прыналежнасць да людзей, прыроды, усяго вечнага, дарагога і існага.




**Ляхор, В. А. Твои сыновья, Беларусь! XII — XVIII вв. / В. А. Ляхор, А. М. Данилов; худож. В. А. Ляхор. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2010. — 20 с.**

Як навучыць маладое пакаленне любіць свой край? Як распавесці дзецям пра гісторыю так, каб новыя веды сталіся падмуркам для сапраўднай цікаўнасці? Думаецца, аўтары гэтай кнігі абралі заканамерны і па-свойму правільны шлях — выхаванне патрыятызму праз знаёмства са знакавымі постацямі беларускай гісторыі. У кнізе ў займальнай форме вядзецца расповед пра жыццё і ваенныя подзвігі Усяслава Чарадзея, Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага, Юрыя Радзівіла, Казіміра Семяновіча, Яна Караля Хадкевіча, Тадэвуша Касцюшкі. Прыклады гэтых слаўных сыноў нашай зямлі, безумоўна, здольныя натхніць маладое пакаленне, асабліва хлопчыкаў — аматараў ваеннай гісторыі.




**Саган, Ф. Слезинки в красном вине / Франсуаза Саган; пер. с фр. Л. Ефимова. — Москва: Эксмо, 2011. — 192 с.**

Гэты зборнік навел легендарнай французскай пісьменніцы пабачыў свет на яе радзіме год трыццаць таму. У Расіі ён выдаецца ўпершыню і абяцае сапраўдным прыхільнікам творчасці Саган шмат задавальнення ад знаёмства з новымі творамі любімай аўтаркі. Элегантныя пуанты (нечаканыя і хуткія развязкі ў навелах), глыбокае разуменне характару жанчыны і мужчыны, уменне ў малым аб'ёме паказаць шырыню падзей і адлюстраваць увесь калейдаскоп чалавечых эмоцый — рысы, уласцівыя творчасці Франсуазы Саган, можна знайсці і ў новым зборніку.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Над вымыслом слезами обольюсь…

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

**С детства люблю фантастику — наверное, потому что она сродни кино: мир, в который попадаешь, заставляет забыть о том, в котором живёшь. Чтобы выжить в этом иллюзорном мире, нужны особые качества: честность, порядочность, отвага. Холодный ум и пламенное сердце. Благородство души. И тогда всё получится: в бреши вражеских бастионов найдётся трещина, враг отступит, время повернётся вспять. И главные герои непременно будут счастливы — потому что любят тоже по-настоящему. Однажды и на всю жизнь.**
**Ой, что это я — всё сказанное применимо и к боевику, и к сериалу, и… И всё-таки — фантастика. Ну хотя бы по формальным признакам места действия — иные времена и путешествие по ним, иные планеты, иные существа, а главное — иные возможности.**
**В сегодняшней подборке книг "Харвеста" — фантастические романы.**

### Две скорости — ноль и максимум



У книги популярной писательницы **Лоис Макмастер Буджолд "Гражданская кампания"** (а три литературные премии Хьюго в области научной фантастики что-то да значат) есть подзаголовок — "Комедия биологии и нравов". Ну разве не комично — люди, опьянённые успехами медицины, заказывали себе сыновей. Теперь их сыновья вынуждены жёстко конкурировать за внимание редких представительниц противоположного пола. Майлз Форкорсиган — полководец, путешественник, дипломат, придворный и просто Герой, тоже не чужд всеобщих страстей. В сопровождении дворецкого Пима он появляется на страницах романа, обуреваемый мыслями о Катрионе, вдове, которая решила больше не выходить замуж. У неё хватает хобби. Среди них и создание садов, и упаковки для жучьего маслица. (А жучки-маслячки, между прочим, могут стать грозным оружием и даже уничтожить растительность на планете Барраяр). И у неё, и у Майлза "две скорости — ноль и максимум". Возможно ли, что они будут вместе? Читателя ожидают увлекательные приключения героев, которые вершат большие дела.

### Быть осторожной, чтобы не нравиться слишком сильно



Честно признайтесь, вампирскую сагу Сергея Лукьяненко о светлых и тёмных вы читали с огромным удовольствием. Думается, и **Юлия Басова** — автор книги "**Ясные. Миссия — любовь**", тоже. А поскольку хорошего всегда мало и оно имеет тенденцию быстро заканчиваться, можно попытаться создать "ещё одну серию" или "что-то по мотивам". Например, приключения девушки, которой приходится быть осторожной, чтобы не нравиться слишком сильно. Потом откроется, что она из Ясных, созданных сводить с ума, влюблять до смерти. Простые смертные летят на них, как бабочки на огонь.

Героиня этого романа Мила Богданова выбирает в качестве будущей специальности филологию, поступает в университет и встречает среди его студентов знаменитого иностранного актёра Роберта Стронга. Семнадцатилетняя студентка не может не заметить, что он особенный. Ей снится странный сон, в котором Роберт поклялся убивать каждого, кто к ней приблизится, а её пообещал спасти. А потом её… похищают. И тогда открывается, что Мила, и Стронг, и похититель — совсем даже не обычные люди. Похититель, например, Самурай. Как жить с этим дальше и сумеет ли героиня выкрутиться из передряги, в которую попала, — читайте в романе Ю. Басовой.

### А затем наступил апрель



Что самое крутое в книге **Романа Злотникова "Генерал-адмирал"**? Думаете, пролог? Или часть первая — "Петербургское небо"? Или вторая — "Трансваальская земля"? Может, эпилог? Наконец-то угадали. Самое крутое — его последняя строка: конец первой книги. А это значит, что продолжение будет! Алексей Коржин, главный герой фантастического романа, волевой и целеустремлённый, упав с лошади в нашем времени, оказывается в Петербурге XIX века. "Из зеркала на него смотрела не собственная стареющая физиономия, а лицо 33-летнего генерал-адмирала Российского флота великого князя Алексея Романова"… У России есть всё, чтобы совершить промышленный и технологический рывок, которого не случилось в известной нам истории, — на землях Трансвааля в Южной Африке ещё не разведаны золотые россыпи, на Урале ждут залежи железной руды, а страна полна непризнанных талантов. Удастся ли изменить что-то в ходе знакомых по учебникам событий?

### Почему не стоит соглашаться на съёмку?



Ты не подозреваешь ни о чём плохом, просто на ходу соглашаешься, чтобы тебя щёлкнули для какого-то издания, а оказываешься подопытным кроликом в эксперименте, поставленном птицеобразными инопланетянами. Сначала местечко, куда тебя занесло, вполне может показаться раем: еда постоянно пополняется, светит солнышко, море ласковое и компания вполне пристойная. А обязанность — играть в войну. Только оружие в твоих руках, повинуясь твоей воле, из игрушечного фанерного может стать настоящим и убить на самом деле. Тебя никто не хватится, даже если погибнешь: дома будет жить твоя копия, сотворённая инопланетным разумом. Тебе же предстоит терять друзей, которых едва приобрёл, убивать таких же, как сам, детей, надеяться только на себя и искать путь домой с Сорока Островов, где жизнь идёт по правилам страшной жестокой Игры. Сумеют ли мальчики и девочки прекратить этот страшный эксперимент, который длится не одно десятилетие, и вернуться на Землю? Сумеют ли сохранить в себе добытую с таким трудом истину — от тебя зависит, чтобы фанерный меч не превращался в орудие убийства? Заканчивая роман о юных рыцарях, автор надеется: "В детстве, когда каждый двор — остров, а каждая улица — мост в неведомое, однажды не останется места для Игры, в которой убивают".

В книгу **Сергея Лукьяненко "Рыцари Сорока Островов"** вошли два произведения писателя: кроме романа о мальчиках и девочках, ставших пленниками Сорока Островов, читатель найдёт под её обложкой также произведение "Мальчик и тьма", названное вскоре после выхода в свет "чёрной жемчужиной Сергея Лукьяненко". Его с удовольствием прочтут поклонники "Дозоров".

К герою этого романа мальчику Даньке пришёл из Настоящего света и Настоящего зеркала Солнечный котёнок (котёнок — потому что на зайчика он совсем не похож). Этот волшебный зверёк умел находить Потаённые двери — между мирами. И с его помощью Данька попадает в страну, где не бывает дня, поскольку жители понемногу продали весь свой солнечный свет. Один из редких старожилов расскажет ему, что случилось: "Однажды мама вернулась от торговцев со всем, что хотела иметь. Она продала ту часть солнца, что светила для неё. Теперь она всегда ходила в полутьме, на ней лежал сумрак. Но ей он совсем не мешал, да и я тогда не испугался. А в небе появилась маленькая серая тучка — она всегда закрывала маму от солнца… Не всех соблазнили еда и тряпки, но даже для самых несговорчивых нашёлся свой товар. И они продали свой свет. За умные книги, которые мечтали прочитать. За красивые слова, которые научились говорить, за новые песни, которые так приятно было слушать".

И теперь над городом царит тьма и Летящие уничтожают его обитателей, а те покупают у торговцев крылья для своих детей (взрослого крыло не выдержит). И мальчикам, пока не подрастут, назначено попарно выходить в дозор и сражаться с Летящими. А потом распрощаться с умением летать — или стать на сторону тьмы, ведь Летящие не утрачивают эту способность. Для того, чтобы Данька вернулся домой, ему придётся вернуть городу солнце, ведь Солнечный котёнок без Настоящего света не сможет найти ни одну волшебную дверь.



## На войне как на войне

Каждому писателю с вершин прожитой жизни хочется ещё раз вернуться в юность. Даже если на молодые годы выпали страшные испытания. Юрий Степанович — генерал-лейтенант в отставке, ветеран Великой Отечественной войны. Его "книга непридуманных рассказов" — ещё одно свидетельство событий, которые произошли с автором "в огневые лейтенантские годы". Сегодня он повествует о них своим внукам: о том, как в мясорубку войны попадали дети, о боях за населённые пункты, об армейской смекалке, что помогала выжить, о риске, с котором и не подозревали смельчаки, добывая из подбитого танка на нейтральной полосе рацию (только потом узнали, что ползли через минное заграждение). С гордостью расскажет и о том, как в годы войны варили корпуса танков новым автоматическим способом — благодаря оборудованию, разработанному конструкторской группой Института электросварки под руководством Е. Патона в рекордно короткие сроки. Преимущество автоматической сварки перед ручной стало не последним фактором среди позволивших выиграть танковое сражение 12 июля 1943 года под Курском. Узнает читатель и о конвоях Северного морского пути, золоте крейсера "Эдинбург", белорусской операции 20.06 — 29.08 1944 года.

Юрий Степанович комментирует изданную в 1976 году в Москве книгу Военного издательства Министерства обороны СССР "Полезные советы воину" (никто в военные будни этими советами воспользоваться бы и не смог): "Зубы чистите ежедневно… <...> На войне я не видел ни у одного экипажа ни зубных щёток, ни зубного порошка. По статистике, живучесть танка составляет 1 — 3 атаки. Определённая часть воинов, видя большие потери, рассуждала так: «Зачем за зубами ухаживать, если после следующей атаки и на меня может пойти похоронка?»"

# Птушка на калясніцы

## З журналісцкага нататніка



Алена Брава

*Мудрацы мінулага раілі сваім сучаснікам хаця б зрэдку спыніць бег жыццёвай калясніцы, зняць і пагрузіць на яе ўсе колы. "Атрымаеш вынік, калі рушыш далей, спяшаючыся без паспешлівасці, рухаючыся ў нерухомасці", — гаворыцца ў адным старажытным трактаце. Што тады казаць нам, заложнікам калейдаскапічнага мільгацення дзён і месяцаў, чые калясніцы-жыцці ляцяць над зямлёю на злом галавы! А калі ты журналіст, сама прафесія падразумявае хуткасць і няспынны рух. Зрэшты, да пякельнага рытму ты ўжо прыстасавалася. І нават усё часцей умудраешся… ага, менавіта! — у самым сэрцы гонкі спыняць сваю калясніцу, але робіш гэта такім чынам, што астатнія ўдзельнікі забегу пра тое і не здагадваюцца. Для іх ты ўсё гэтак жа ляціш да фінішу. А ты між тым спакойна запісваеш у нататнік тое, чаго зусім не патрабуе ад цябе газета, і ў кожнай замалёўцы, як вада ў каляіне, стаіць час. Раздумваеш пра тое, што ў старажытным трактаце колы параўноўваюцца з зямнымі стыхіямі, а калясніца — з сасудам, у якім заключаны як Космас, так і душа чалавека.*

*Ды шмат пра што думаецца, калі любуешся птушкай, што бясстрашна ўселася на сонцападобнае, здольнае рухацца і ў нерухомасці кола!*

### Нататнік з Парыжа

Сястра прывезла з Парыжа прыгожы нататнік у цвёрдай кніжнай вокладцы, з фантастычна белай ("экалагічна чыстай") паперай. На вокладцы — выява шматрукага індуісцкага бажаства. Прывезла год таму… Я так і не асмелілася спакусіцца на беззаганнасць гэтай белізны. Днямі, узяўшы нататнік у рукі, зразумела нарэшце, што менавіта я хацела б калекцыяніраваць. Нават у дзяцінстве нічога не калекцыяніравала — сама серыйнасць працэсу адштурхоўвала, дый цікаўнасці да рэчаў, якія можна ўкласці ў прымітыўную колькасную схему, не было. Кнігі — іншая справа, гэта як паветра і хлеб… не, без хлеба выдатна магла абыходзіцца, без кніг ж адчувала не голад — сіроцтва.

Апошнім часам, заходзячы ў кніжныя крамы, затрымліваюся ля палічак з прыгожымі нататнікамі, гартаю. Рэдка, але трапляюцца па маім гусце. Выпрашана: буду калекцыяніраваць нататнікі!

Між іншым, яшчэ некалькі год таму раўнадушна праходзіла міма гэтага стракатага "спадарожнага" тавару. Усё, што не кніга, — тое *рэч*, а рэчы з матэрыяльнага свету — па той бок задавальнення. Зразумела, яны набываліся па неабходнасці, але не прыносілі радасці. Сапраўдную асалоду атрымлівала ад удалага тэксту, цікавага чалавека… Апошнім часам паастыла да людзей, палагоднела… не, не да рэчаў — да дробязей, якія ўпрыгожваюць жыццё.

### Самазабойца

Вялізныя голыя грудзі вольна раскінуліся на складкаватай гары тлушчу, як у хтанічнай Маці ці старажытнай багіні бессаромнасці. Прасціна закрывае ніз жывата — і гэта ўжо добра. Рукі зафіксаваныя гумовымі жгутамі, у правую ўсмакталася змяя кропельніцы. Брудныя валасы з сівізной, а твар нечакана дзіцячы. Па ружовых шчоках бягуць буйныя слязішчы.

"А-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а, развяжыце мяне! — раве гара. — Навошта перашкаджаеце памерці?!"

На суседнім ложку, пад апаратам штучнай вентыляцыі лёгкіх, — да падбародддзя захінуты прасцінай сямнаццацігадовы хлапец. Бледны тварык, блакітнаватыя павекі.

"Нырнуў няўдала, пералом шыйнага пазванка, — удакладняе ўрач. — Сёння прааперыравалі. Ногі рухацца дакладна не будуць. Рукі — як пашанцуе".

Выходзім на калідор рэанімацыйнага аддзялення.

"Аааааа! Хачу памерці!" — нясецца з палаты.

"Хто гэта?" — пытаюся, хаваючы ў сумку дыктафон.

"А, гэтая? — урач прымае ў мяне белы халат. — Наша пастаянная кліентка. Вырашае такім чынам сямейныя праблемы. Калі ў мінулы раз труцілася, дык тыдзень адкачвалі. Сваякі тут, у рэанімацыі, начавалі. Гэтым разам нешта мала таблетак выпіла, за суткі ачуняла. Вунь, крыкам дабірае".

"Аааааааааа, не хачу жыць!"

Зрабіць бы так, каб два чалавекі на суседніх ложках памяняліся лёсамі. Хаця б на суткі…

### Маякоўскі і школа Адлера

У кіраўніка юрыдычнай канторы на стале стаіць чыгунная статуэтка Маякоўскага. Не пазбаўлены грубаватага шарму лубок эпохі, амаль рарытэт. Паэт у сваім звыклым абліччы: патлаты, у шырокіх нагавіцах, з адкрытай кнігай у руцэ. Неяк пацікавілася ў гаспадара кабінета, чаму трымае "горлана-главаря" на пачэсным месцы, — любіць яго вершы, ці што? Хітравата пасміхаючыся, юрыст адказаў, што гэта ўсяго толькі тэст для маладых, якія прыходзяць уладкоўвацца на працу.

"І ведаеце, амаль ніхто не адказвае правільна. Чаго толькі не давялося чуць: маўляў, і Карл Маркс гэта, і Дзяржынскі, і нават, уяўляеце, Пушкін…"

Што ж, аўтар паэмы "Пра гэта", пэўна, перавярнуўся б у труне.

Цяжка ўявіць адваката, які не ведае, у якую эпоху жыў Пушкін.

А журналіста?

Аднаму з барысаўскіх музеяў вайскоўцы перадавалі на захоўванне шэраг матэрыялаў, звязаных з нямецкай разведшколай Абвера "Сатурн", што знаходзілася ў Пячах. Між іншым, А. Казлоў, беларускі "Штырліц", які тую школу "распрацоўваў" і нават эвакуіраваўся разам з ёю, пратаптып многіх кніг і фільмаў, у Барысаве чалавек не проста вядомы — ганаровым грамадзянінам горада з'яўляецца. Дык вось, выпускніца журфака напісала матэрыял пра новыя музейныя экспанаты. Праз некаторы час мяне выклікае рэдактар. "Паслухай, што ты ведаеш пра школу Адлера?"

Задумваюся. Першая асацыяцыя — кароткатэрміновыя курсы для курортніц. Мора, сонца, спёка… "Школа Адлера — для вас! Маланкавыя раманы — без душэўных пакут!" Зазіраю ў рукапіс: "Савецкі разведчык у школе Адлера"…

І ўжо амаль не здзіўляюся, калі выпадкова чую дыялог дзвюх маладых жанчын: "Ці ведаеш, хто такі Ленін?" — "Не, ён быў не цар… але кудысьці там людзей павёў…" — задуменна выдае даўтавалосая прыгажуня. "Ды які цар! — абураецца другая. — Ленін быў першым прэзідэнтам СССР — ажно да самай вайны!"

Выпальваць са свядомасці "маякоўскае": "Единица — вздор, единица — ноль"…

Але ж — не самую памяць!

### Жаночая «змова» і мужчынская салідарнасць

Мужчыны пазбягаюць жанчын-журналістак — высветліла гэта амаль адразу, пачаўшы працаваць у газеце. Ці проста не лічаць іх жанчынамі?

Канфлікт мясцовага маштабу. Стаю ў натоўпе і спрабую атрымаць ад кіраўніка дробнай арганізацыі адказ на зададзенае пытанне. Безвыніковa. Голас з натоўпу: "Адкажыце ж жанчыне!" Кіраўнік (углядаючыся): "Няма тут жанчын, гэтая — з газеты…"

…У судзе слухаецца справа па абароне гонару і годнасці маёй калегі. Суддзя — адказчыку: "Вы ж мужчына, як вам не сорамна — так абразілі жанчыну!" Адказчык, апраўдваючыся: "Яна не жанчына, а журналістка!" Зрэшты, чаму тут здзіўляцца, калі "моцная палавіна" лёгка адмаўляецца ад гендарнай самаідэнтычнасці? Калі толькі пачынала працаваць у "раёнцы", выказала шчырае захапленне прафесіяналізмам старэйшага калегі. Фраза, як цяпер разумею, была досыць правакацыйнай: "Вы такі класны мужчына!" Супрацоўнік зірнуў на мяне спалохана. Паправіў гальштук. Потым павучальна адказаў: "Я не мужчына! Я член калектыву!"

Тое, што мужчыны адчуваюць страх перад жанчынамі з дыктафонамі ды фотакамерамі, нечакана пацвердзілася ў анекдатычнай сітуацыі. Сяброўцы давялося зрабіць аперацыю кату: пазбавіць яго самцоўскіх вартасцей. Запрасіла дзеля гэтага дамоў нашу агульную знаёмую — ветэрынара. Вярнуўся з працы муж, пабачыў "пацярпелага" і, з мужчынскае салідарнасці, выпіў. Зайшоў сусед і ахвотна далучыўся да "акцыі пратэсту". Калі добра ўжо набраліся, сяброўка пачала злавацца, сусед быў ускінуўся ў адказ. Муж — яму (шэптам): "Т-с-с-с… маўчы лепш… у яе такія па-а-адругі… адна прывязала ката (паказвае на сабе: поза ўкрыжаванага), а потым зрабіла з ім… сам ведаеш што… я цяпер баюся побач з ёю (ківок у бок жонкі) засынаць… яна ж яшчэ і з журналісткай сябруе…"

І ўсё ж падаплёка канфлікту паміж актыўнымі жанчынамі ды "традыцыйнымі" мужчынамі, як мне падаецца, далёкая ад фрэйдысцкай. Месцейка пад сонцам соцыуму — вось за што насамрэч хвалююцца баязліўцы. Як бы гэтыя непрадказальныя істоты сваімі манікюрнымі нажнічкамі не адчыкалі ад яго ладны кавалак...

### Не ўсё страчана

Зафіксаваныя адпаведным чынам эмоцыі называюцца *якарамі*. Як "заякарыць" радасць? У шчаслівыя хвіліны засяродзься на сваім стане і дакраніся да пэўнай кропкі на запясці. Каб зноў перажыць тое ж пачуццё, дастаткова ўсяго толькі дакрануцца да адпаведнай кропкі. Прынамсі, так запэўніваюць псіхолагі.

Калі мы пішам, мы ствараем "якары" — для іншых… Неяк прачытала ў адной аўтаркі: "Гарбата ў тэрмасе была гарачая, я піла яе з металічнай накрыўкі" — і ад пранізлівага пачуцця пазнавання перахапіла горла. Імгненна адчула на вуснах металічны прысмак *вельмі гарачай* гарбаты (моцнай! маленькімі глыткамі!), убачыла сцежку да калодзежа, дождж, слімакоў на траве, мокрыя кусты бэзу… Вобраз аказаўся ідэальным якарам. І апякло нечаканым: не ўсё яшчэ страчана. Бо, значыць, ёсць нейкае спрадвечнае поле агульнай пачуццёвай памяці, што ціха гудзе, вібруе — вось яно, нікуды-не-знікаючае, і таму верыць у будучае і штосьці рабіць дзеля яго прыходу яшчэ варта.

# Мара

## Апавяданне



Дзмітрый Пятровіч

У гэты ліпеньскі поўдзень, здавалася, Яго Вялікасць Сонца само завітала да нас у госці — так было горача ў кватэры. Балконныя дзверы былі расчыненыя, вокны таксама, як задаволенае чмысці кацяня, вуркатаў вентылятар — словам, нішто не магло выратаваць нашу сям'ю ад спёкі.

— А дзе мае "парадныя" шорты? — набіваючы сваю "дачную" сумку, спытаў я ў жонкі, якая якраз праходзіла побач.

— На паліцы ў шафе пашукай, — адказала тая. — І які дурань у самую спёку пацягнецца на дачу? Трэба было або з самага ранку ехаць, або пад вечар!

"А яна правільна гаворыць", — у душы пагадзіўся я з жонкаю. Але ўголас сказаў іншае:

— Нічога, хутка на Беларусі будуць сапраўдныя тропікі і пачнуць вырошчваць ананасы і бананы. Кавуны ж ужо ёсць…

— …І плюс сорак у цянькy. Так? І хто выйграе? Хоць бы нейкае мора было побач! Акрамя Мінскага…

Жонка зноў увайшла ў пакой. Паклала руку мне на плячо. Уздыхнула.

— Усё роўна будзем у Крым ці Турцыю ездзіць — да сапраўднага мора… А ў гэтым годзе яшчэ такая спёка!

Правяла рукою па маіх валасах.

— Фу, які мокры! Нават абдымацца з табой не хочацца!

Яна засмяялася, цмокнула мяне ў вільготную шчаку і выйшла з пакоя.

Я паглядзеў ёй услед. І зноў успомніў: "І дзе ж мае шорты?" Падышоў да шафы, расчыніў дзверы. У першым жа стосе рэчаў убачыў шорты. Узрадаваўся. Пацягнуўся да іх. І… раптам на падлогу слізганула штосьці маленькае, стракатае. Мякка шлёпнулася і засталося ляжаць. Я нахіліўся. Падняў.

Гэта была маленькая падушачка з травамі, прывезеная жонкай з яе першай вандроўкі пад Еўпаторыю. І тады папраціў привезці мне штосьці незвычайнае — такое, каб запомнілася назаўсёды. І яна падаравала мне *яго*. Пах крымскага стэпу — стракаты, квяціста-лавандавы. Той самы…

Я падняў падушачку. Паднёс да носа. І — адчуў яго, знаёмы лавандавы пах… А я так даўно хацеў адчуць пах не толькі крымскай квецені і разнатраўя, але і мора. Убачыць мора было вялікай маёй марай.

…Маленькі жоўты аўтобус-"багданка" перасек гарадскую мяжу, і адчуванне маё рэзка змянілася. Яшчэ ў Еўпаторыі панаваў пах паўднёвага горада — пах, які ні з чым не зблытаеш. Таполі з пастацыямі, як у джыгітаў з якога-небудзь горнага аула, персікавыя дрэвы і іншая экзотыка так і кідалася ў вочы. Але галава мая закружылася, як толькі мы ад'ехалі ад Еўпаторыі ў бок узбярэжжа… Хмельны пах лаванды і іншага разнатраўя ўдарыў у галаву, як добрае віно! Дагэтуль, у Мінску, толькі маленькая падушачка, як пяцістнаструнная скрыпка, дарыла мне маленькую сустрэчу з Крымам. А тут сотні ці нават тысячы такіх "падушачак"-скрыпак адначасова — цэлы сімфанічны аркестр! І — абсалютна плоская раўніна, пакрытая сухімі травамі з гэтым дзіўным вытанчаным водарам…

А я чакаў сустрэчы з морам! Хаця еду на мора другі раз, не першы. Першая сустрэча з ім адбылася ўзімку, у Адэсе, падчас экскурсіі. Я бачыў мора ўсяго дзесяць хвілін, не больш. Шчоўкнуўся на "плёначнік" на пірсе. І ўсё — у аўтобус. Мора было тады непрыветным, сур'ёзным. Нават суровым. І цяпер перад вачыма стаіць толькі пустынны студзеньскі пляж і *яно* — арыстакратычна-халоднае. Мора тады шаптала мне пра штосьці сваё, а я не разумеў яго — проста стаяў і глядзеў удалеч, імкнучыся захаваць у памяці кожнае імгненне гэтай сустрэчы — калі яшчэ давядзецца стаць турыстам!.. А па свінцова-чорнай паверхні ціха каціліся белыя грабеньчыкі і разбіваліся ля маіх ног…

Калі паклікалі ў аўтобус, доўга не хацеў ісці: хацелася запомніць *яго*. Любым. Такім, як ёсць. Нават такім, як цяпер. І…чамусьці баяўся, што больш не ўбачу *яго*. Але самае дзіўнае — у той час не запомніў паху мора. Паху марскога ветру і волі, адчуваннем якой насычана гэтае паветра. Нешта заварушылася тады ў душы маёй. Патаемна-незразумелае. Хмельна-прывабнае, як вочы дзяўчыны, якую сустрэў тады на адэскім узбярэжжы і якую потым назваў сваёй жонкаю…

…Аўтобус зноў паварочвае, і я, увесь час узіраючыся паміж радамі крэслаў уперад, раптам бачу, як недзе далёка і адначасова, як падалося, вельмі блізка ў марыве над асфальтам, зліваючыся з блакітам неба, расце нейкая цёмна-сіняя маса, падобная да цунамі, — быццам бы вялізная хваля хоча абрынуцца на наш маленькі аўтобус. "Міраж", — падумалася мне. Я паглядзеў на сваіх суседзяў — усе размаўлялі або абыякава пазіралі ў вокны на адзін і на другі бок. "Няўжо я гэта адзін толькі бачу — вялікае сіняе мора, падобнае на вялізную хмару? І яно ўжо не зімова-хмурнае, а напэўна, іншае, ласкавае, *маё мора*? Тое, пра якое даўно марыў?.."

Але што гэта? Паступова гэтая сіняя паласа становіцца тонкай. Потым зусім знікае. І зноў перад намі блакітнае неба і стракаты неабсяжны стэп. І — чароўны пах…

А праз нейкія паўгадзіны я, нарэшце, убачыў Яго Вялікасць Мора. Курортны гарадок Штармавое. Дробна-жоўты пясочак на пляжы. І пах — пранізлівы, прывабна-ёдзісты. Той самы… І Мора — блакітна-зеленаватае, з бела-пяшчотнымі венчыкамі мядуз каля самай паверхні. І — ветразь на гарызонце. Белы-белы, як вялізныя аблокі на блакітным паўднёвым небе!..

Я ведаю цяпер, як выглядае мая мара, і нават ведаю яе пах. Дзівосна-прывабна-пяшчотны… Як і само жыццё, калі ж, вядома, любіць яго. Часта ў снах бачу я зеленавата-блакітныя хвалі, як вочы любай жончыны. Маёй. Назаўсёды…

# Цеплыня жыцця



**Марына ПЯТРОВА,
рэдактар літаратурнай
часткі Нацыянальнага
акадэмічнага драматычнага
тэатра імя Якуба Коласа**

**Вялікая сіла таленту не абмяжоўваецца ўзростам. Няма лепшага сведчання майстэрству і ўнутранай сіле акцёра, чым тое, што ў свае восемдзесят год ён ставрае незабыўныя вобразы, кранае і прымушае чакаць наступнага спектакля з яго ўдзелам. А гэта значыць, што чалавек сваім унутраным святлом перамог небяспечны "холад жыцця", які гэтак часта забірае ў палон сталага чалавека. Заслужанай артыстцы Беларусі Тамары Шашкінай споўнілася восемдзесят. Холад жыцця — гэта дакладна не пра яе…**

Побач з імем Тамары Рыгораўны заўсёды цеплыня. Тая цеплыня, што саграваe бліжніх. Гэта адчуваеш адразу, як адчыняюцца дзверы і на парозе з'яўляецца постаць прыгожай жанчыны, бездакорна апранутай. Роўна распраўленыя плечы, высока ўзнятая галава ды і боцікі на абцасах сведчаць пра тое, што без танцаў у жыцці артысткі не абышлося. Тамара Шашкіна была лепшай танцоркай на курсе, калі вучылася ў Беларускім дзяржаўным тэатрально-мастацкім інстытуце і "выцягвала" сваімі здольнасцямі будучага мужа — Георгія Дубава, якому танцы даваліся не так проста…

Шмат усяго — добрага і не вельмі — ужо адбылося ў яе жыцці… Яна сядзіць насупраць мяне. Разважае мудра, але ёсць у яе словах такі неабходны добры гумар. Што ж дапамагае актрысе жыць з цяплом? Жыццёвы досвед, вера, сцэна ці сябры?..

У Тамары Шашкінай было тры сястры. Яна — адна з дзвюх дзяўчат-блізнятак, дата нараджэння ў якіх... з разбегам у дзень! Пераблыталі падчас рэгістрацыі. Дагэтуль Тамара памятае, як іх з Лідай хрысцілі: "Старэйшыя сёстры былі нашымі хросньімі маці, а дзядуля Іван — хросным бацькам. Нас імкнуліся пахрысціць хутчэй, бо меркавалі, што без гэтага блізнятам, народжаным у 1930-я гады, не выжыць. Дзякуй Богу, не памерлі. І дагэтуль мая сястра жывая".

Падчас вайны сям'я Шашкіных дапамагала партызанам: бацька рабіў для іх ломы, каб пускаць пад адхон цягнікі, а яны, дзеці, перадавалі патрэбныя партызанам звесткі пра рух цягнікоў, хаваючы запісы пад шапкамі. Тамара Рыгораўна прыгадвае, як аднойчы ў дом прыйшлі немцы з вобыскам якраз тады, калі яна padрыхтавала чарговую запіску. Тамара змагла адцягнуць іх увагу, папрасіўшы аднаго з "гасцей" навучыць яе іграць на гітары і, дзякуючы гэткай знаходлівасці, тым разам усё абышлося…

Вайна скончылася. Тамара Рыгораўна паступіла ў політэхнічны тэхнікум вучыцца на будаўніка. Але кінула і паступіла ў бібліятэчны. Пазней, два гады папрацаваўшы ў Мядзелі загадчыцай бібліятэкі, паступіла ў тэатральны інстытут. Студэнты Тамара Шашкіна і Георгій Дубаў пажаніліся. Дыпломны спектакль "На дне", дзе Тамара Шашкіна выконвала ролю Насты, а Георгій Дубаў — Барона, паказалі ў Маскве, Дубава запрасілі ў адзін з маскоўскіх тэатраў. Але кіраўнік курса Дзмітрый Арлоў папярэдзіў, што там талент акцёра могуць "зацерці" і ён згубіцца, і параіў вяртацца ў Беларусь. Мінулі гады — і Георгій Дубаў стаў народным артыстам Беларусі.

Яны жылі і працавалі ў Гродне, калі туды прыехаў рэжысёр Іосіф Папоў, якому ў 1963 годзе прапанавалі ўзначаліць Коласаўскі тэатр. Ён сказаў: "Неадкладна пераходзьце да нас! Мне неабходная менавіта такая артыстка на ролю Нюры". Гэта было ўвесну. Тэатральная сям'я літаральна зрываецца з Гродна, пераязджае ў Віцебск. Для Гродзенскага тэатра гэта сталася вялікай стратай: Тамара была напоўніцу занятая ў рэпертуары і глядач бязмежна любіў яе. "Мы згадзіліся, бо проста вельмі любілі Папова. Але, мяркую, нельга было так зрывацца пасярод сезона — трэба было адкласці пераезд да наступнага…"

Тамара Рыгораўна не шкадуе, што звязала лёс з тэатрам імя Якуба Коласа. Шашкіна і Дубаў плённа працавалі тут. Вось ужо 48 гадоў Тамара Шашкіна служыць на віцебскай сцэне. Выдатныя партнёры, галоўныя ролі: Рыта Асяніна ("А досвіткі тут ціхія" Б. Васільева), Таісія Пятроўна ("Стары дом" А. Казанцава), Жамгулене ("Клеменс" К. Саі), Конці ("Сола для гадзінніка з боем" О. Заградніка), Маці ("...Таму што люблю..." А. Паповай), місіс Уайер ("Дакрануцца вуснамі да нябёсаў" Т. Уільямса)...

Сёння ў яе рэпертуары — ролі Лідзіі Васільеўны ("Старамодная камедыя" А. Арбузава), Берты ("Памінальная малітва" Р. Горына), Паўліны Эйнштэйн ("Прывітанне, Альберт!" Ю. Сохара), а ў спектаклі "Млын" разам з Валянцінай Петрачковай іграе запамінальных гледачу бабулек.

Для Тамары Шашкінай шчасце — гэта яе сын і яе вера: чыстая, нефанатычная. Яна так шчыра ўсміхаецца, калі расказвае пра сына. Генадзь, у сваю чаргу, пяшчотна гаворыць пра маці: "Самай галоўнай мамінай роляй была і застаецца роля гаспадыні і пяшчотнай маці. Мама — чалавек, які не ведае стомы".

І праўда. Уявіце: чатыры гады таму Тамара Рыгораўна наведала востраў Валаам — манастыр, царкву, святыні. А перад гэтым здзейсніла вандроўку ў Ізраіль, пабывала ў святых мясцінах: "Я была якраз на Вялікдзень, у суботу, калі з'яўляецца Святы агонь. У руках трымала два пучкі па трыццаць тры свечкі. Чакала. І раптам — святло, ва ўсіх загараюцца свечкі. Я дакранулася да агню і, уявіце, ён не быў гарачы і зусім мяне не абпаліў!"

У свае восемдзесят Тамара Рыгораўна застаецца цікавай жанчынай і вельмі годна й прывабна выглядае на сцэне. Яна заўсёды ходзіць пешкі, а дасціпны гумар — у кожным яе слове. Тамара Шашкіна да таго ж выдатны стыліст, да чыіх заўваг прыслухоўваюцца калегі, бо ў яе — выключны густ. А нядаўна актрыса паспрабавала паразумецца з ноўтбукам, разабрацца ў мабільных тэлефонах. Мабыць, карысці з гэтага выйшла няшмат, але цікаўнасць — галоўная ўмова руху наперад. Гледзячы на Тамару Шашкіну, верыш: чалавек на многае здатны, калі жыве з цяплом у душы, імкнучыся спазнаць наваколле і зразумець іншых…

# Магічнае «тройчы адзінаццаць»





**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва**

Ёсць нешта містычна-прыцягальнае ў сённяшняй пятніцы. Звярніце ўвагу на яе дату: 11.11.11... А канцэрт, замоўлены на гэты вечар у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі? Яго ахінае рамантычная таямніца! У праграме прадстаўлена разнажанравая, папулярная і мала вядомая шырокаму слухачу музыка, натхнёная вобразам той, якая "ніколі нічыёй не будзе", магнетызм, абаяльная дзёрзкасць і вальналюбства якой ужо амаль паўстагоддзя інтрыгуюць, нясуць у сабе загадку для кампазітараў, паэтаў, мастакоў, выканаўцаў ды публікі. Грубаватая шчырасць, нястрымны тэмперамент, невытлумачальна трагічная і трапяткая, недасяжная, нібы няўлоўная птушка, душа... Кармэн! Вось гераіня "тройчы адзінаццатага" музычнага вечара.

Над праграмай "Салют, Кармэн!" Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам свайго нязрымслівага маэстра Яўгена Бушкова пачынаў працаваць яшчэ ў мінулым сезоне. І няма сумневу ў тым, што прыгожая задума знайшла яскравае ўвасабленне. Бо поруч з гэтым калектывам у праграме бяруць удзел іншыя знаныя айчынныя выканаўцы: Канцэртны аркестр Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі на чале з мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам Уладзімірам Перліным, ансамбль ударных інструментаў "Grig Percussion Group", салірующь лаўрэаты міжнародных конкурсаў Аксана Волкава (мецца-сапрана), Андрэй Шынкевіч (кантрабас). А якая музыка будзе гучаць! "Малітва Тарэра" Х.Турыны, "Кармэн-сюіта" Ж. Бізэ — Р. Шчадрына для струнных і ўдарных, "Кармэн-фантазія" Ф.Прота для кантрабаса з аркестрам, выбраныя вакальныя нумары з неўміручай оперы Ж. Бізэ... Шыкоўны дарунак меламанам ад фестывалю "Беларуская музычная восень"!

***На здымку: мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь, заслужаны артыст Расіі Яўген Бушкоў.***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА,
фота Віктара Кавалёва**

Музычна-фальклорны ансамбль "Прымакі" (мастацкі кіраўнік Юрка Астапчук), вядомы захавальнік і прапагандыст нашай нацыянальнай культуры ў Польшчы, завітаў у Мінск і наладзіў у сталічнай філармоніі яркі, запамінальны вечар. Да канцэртнай праграмы гасцей далучыліся іх сябры: Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята" (мастацкі кіраўнік Анатоль Кашталапаў) і фальклорны гурт "Купалінка" (мастацкі кіраўнік Алена Цялькова). Дарэчы, учора "Купалінка" зноў выступіла на сцэне БДФ: святочнай імпрэзай "Адвечная песня" ансамбль адзначыў сваё 45-годдзе.

Наталля Табушава — таленавіты жывапісец з творчай сям'і. Бацька яе, Уладзімір Табушаў, — адметны графік, незабыўны лімавец, — працаваў мастацкім рэдактарам нашай газеты. Маці, Людміла Луцэвіч, — архітэктар. Вядома, што па лініі маці маладая мастачка належыць да роду Янкі Купалы: дзядуля Наталлі быў стрыечным братам Івана Дамінікавіча. Так што невыпадкова Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы наладзіў персанальную выстаўку Наталлі Табушавай. У экспазіцыі пад назвай "Асобы майго



часу" — партрэты сучаснікаў, з якімі мастачку зводзіла жыццё. Гэта прадстаўнікі розных прафесій, рознага сацыяльнага статусу і пераважна — сталага веку. (Наталля кажа, што з маленства яна, "позняе дзіця позняга шлюбу", бавіла час у асяроддзі людзей, нашмат старэйшых за сябе, і з імі ёй было цікавей, чым з аднагодкамі). У яе творчай біяграфіі — 4 персанальныя выстаўкі, удзел у многіх калектыўных экспазіцыях, конкурсах, пленэрах, прычым аўтарам канцэпцыі аднаго з сёлетніх ("Дух гісторыі", Шчучынскі раён) была сама Наталля. Яна лаўрэат трох міжнародных конкурсаў і прэміі Мінскага гарвыканкама, адзначана Падзякай міністра культуры Беларусі.

Сусветна вядомая містычная камедыя Карэла Чапека "Сродак Макропуласа" ўвасоблена ў Тэатры-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм". Над прэм'ерай працавалі рэжысёр Таццяна Траяновіч, сцэнограф Дзмітрый Мохаў, мастак па касцюмах Ніна Гурло, пастаноўшчык сцэнічнага руху Вольга Скварцова-Кавальская. Ролі ў гэтай дасціпнай гісторыі пра незямную прыгажосць і славу, вечную маладосць і судовае разбіральніцтва даўжынёю ў не адно стагоддзе выконваюць Валерыя Арланава, Аляксандр Бранкевіч, Уладзімір Грыцэўскі, Уладзімір Мішчанчук, Алеся Пухавая ды іншыя артысты.

Сёння ў Мінску завяршаецца III тэатральны фестываль "Дзверы", арганізаваны Беларускай дзяржаўнай акадэміяй мастацтваў, Цэнтрам беларускай драматургіі ды рэжысуры, Белдзяржуніверсітэтам, БДУ інфарматыкі і радыёэлектронікі, гімназіяй № 74. Ён прадставіў своеасаблівы "зрэз" аматарскага тэатральнага руху.

***На здымку: Наталля Табушава "Мужчынскі партрэт".***

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

# «Харошкі»? Гэта лёс...

**Гастролі — гастролямі, але іх шчыльны расклад не замінае артыстам Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі" пад кіраўніцтвам іх нястомнага і натхнёнага лідара Валянціны Гаявой ладзіць святы і "дома", для мінскай публікі. Сталічныя канцэрты заслужанага калектыву, якія адбываюцца на працягу сезона, заўсёды нясуць у сабе дух абнаўлення: у "Харошак" проста не можа быць дзвюх абсалютна аднолькавых праграм! Знакаміты ансамбль зноў пераканаў у гэтым сваіх прыхільнікаў падчас надаўняй імпрэзы, што з аншлагам прайшла ў Вялікай зале Палаца Рэспублікі.**



Па сутнасці гэта быў бенефіс Валянціны Гаявой: канцэрт пад красамоўнаю назвай "Мой лёс — «Харошкі»" прысвячаўся яе юбілею. Што і казаць, ансамбль, які нарадзіўся амаль чатыры дзесяцігоддзі таму і пераняў сваё імя ў старадаўняй вёскі на Магілёўшчыне, дзе быў запісаны знакавы для рэпертуарнага аблічча і далейшай творчасці танец "Гусарыкі"; ансамбль, вядомы сёння на ўсіх кантынентах як візітоўка нашай краіны, сапраўды стаўся лёсам Валянціны Іванаўны. Гэтаксама лёсам для яе, ураджэнкі зямлі рускай, стала Беларусь. Адкрыўшы для сябе самабытную прыгажосць нашай нацыянальнай культуры, захапіўшыся гісторыяй, традыцыямі, душой беларускага народа, Валянціна Гаявая не толькі ператварыла ўласную творчасць у шчырае служэнне мастацтву сваёй другой радзімы. Думаю, можна сказаць, што яе дзейнасць як харэографа, як таленавітага арганізатара і галоўнага балетмайстра ўнікальнага аўтарскага Тэатра Танца пад імем "Харошкі" — гэта і шчырае прызнанне ў любові да Беларусі. Нездарма блізкі ёй па творчых памкненнях Уладзімір Мулявін калісьці назваў Валянціну Гаявую нашай "пясняркай" і марыў пра стварэнне супольнай фальклорнай кампазіцыі двух слынных ансамбляў...

"Па старонках «Полацкага сшытка»", "Тураўская легенда", "Бывай, XX стагоддзе!"; грандыёзны праект "Беларусы", праца над якім працягвалася тры гады; сёлетняя праграма "Памяць сэрца", паказам якой ансамбль адгукнуўся на журботную дату — 70-годдзе з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны; папулярная класіка "Харошак" — танцавальныя кампазіцыі "Таўкачыкі", "Весялуха", "Віцебская полька", "Лянсей", сюіта "Субота"... Часта даводзілася пісаць пра поліфанічныя, шматколерныя, насычаныя народнымі найгрышамі ды спевамі, харэаграфічныя палотны, сінкрэтычныя праграмы, дасціпныя мініяцюры, адмыслова ўгрунтаваныя ў пласты беларускай гісторыі, фальклору, побытавых традыцый, напоўненыя маладой жыццёвай энергіяй, працятыя самабытнай філасофіяй і аптымізмам. Бенефіс Валянціны Гаявой "Мой лёс — «Харошкі»" даў яшчэ адну падставу для захаплення.

І як жа не захапіцца, калі нават у кампазіцыях пад знаёмымі назвамі новыя залацінкі бязмежнай фантазіі харэографа, аранжыроўшчыкаў, мастакоў, раскрытыя праз дасканалае майстэрства артыстаў, арганічна спалучаюцца з тымі ранейшымі галавакружнымі знаходкамі, якія публіка паспела ўпадабаць і выклікае на "біс"! У кожным нумары праграмы адчуваўся крэатыўны дух непаўторнасці, які надаваў усяму відовішчу свежасць прэм'еры. Шляхетны і строгі мужчынскі танец у "Сакаліным паляванні"; неадназначная ў сваёй вобразнай поліфанічнасці мудрая замалёўка "Пілігрымы"; дасціпная і віртуозная музычна-харэаграфічная мініяцюра "Закаханы вартавы"; яскравыя сцэнкі "Плошча ў Полацку" і "Народнае свята ў прадмесці", дзе нечакана для публікі з'явіліся нават вандроўныя цыркавыя артысты-жанглёры; феерычныя сюіты "Местачковыя абразкі" ды "Субота"... А пачаўся гэты вялікі святочны вечар з новага творчага эксперыменту Валянціны Гаявой: прэм'ерай чатырохчасткавай вакальна-харэаграфічнай кампазіцыі "Лясная легенда". Упершыню артысты "Харошак" пераўвасобіліся ў нязвыклыя вобразы нашых далёкіх продкаў, якія жылі ў цеснай сувязі з прыродай, шанавалі сваіх магутных багоў, спраўлялі паганскія рытуалы, захоўвалі традыцыі роду. Героямі новай пастаноўкі сталі паляўнічыя, юнакі-дазорныя, што пільнуюць сваю тэрыторыю, дзяўчаткі-сіроты, якіх рыхтавалі ў берагіні...

Чарадзейнае сугучча эпох у праграме "Мой лёс — «Харошкі»" ажыццявілася, як заўжды, праз творчасць аўтараў аранжыровак і кампазітараў У. Гінько, С. Хвашчынскага, Ю. Пшанічнага, М. Марозавай, В. Раінчыка, А. Рашчынскага, мастакоў па касцюмах — А. Гаявога, Ю. Піскуна, музыкантаў-інструменталістаў і спевакоў.

З прэм'ерай і з юбілеем Валянціну Гаявую павіншавалі ў той вечар не толькі афіцыйныя асобы і шматлікія гледачы. Кранальным апафеозам стаўся выхад на сцэну чародкі дзяўчатак з кветкамі — выхаванак харэаграфічнай студыі, не так даўно створанай пры ансамблі, — будучыні "Харошак".

***На здымку: народная артыстка Беларусі Валянціна Гаявая з артыстамі "Харошак".***

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Праява нашай рэчаіснасці

**Для мастака-манументаліста асноўнае ў творчасці — калі яго работа застаецца ў прасторы, на месцы, калі яна запатрабавана не толькі сёння, а вельмі-вельмі працяглы час. Твор як бы пачынае сваё самастойнае жыццё і ўжо належыць сваёй краіне, гісторыі народа. Аднак у манументалізме, у адрозненне ад іншых відаў мастацтва, бракуе аднаго: магчымасці наладзіць выстаўку аўтарскіх работ. Таму адзінае выйсце для творцы-манументаліста — адлюстраваць іх на фотаздымках.**

Нядаўна ў Палацы мастацтваў ладзілася Рэспубліканская выстаўка "Манументальнае мастацтва Беларусі". Адкрываючы экспазіцыю, намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі зазначыў, што яна лагічна ўпісваецца ў шматгадовы праект Міністэрства культуры Беларусі па папулярызацыі манументальнага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Выстаўка — падсумаванне дзесяцігадовай творчай дзейнасці вялікай колькасці мастакоў, творчых калектываў, мастацкіх камбінатаў. "У шырокім разрэзе мы бачым палітру розных відаў мастацтва, якія сёння адыгрываюць выключна важную ролю ў нашым жыцці, — адзначыў Тадэуш Іванавіч. — Манументальнае мастацтва, як ніякі іншы від творчасці, сёння спрыяе абуджэнню гістарычнай памяці і фарміраванню нацыянальнай свядомасці. Важна, што творы мастацтва запатрабаваныя не толькі дзяржавай, але і грамадскімі ўстановамі, арганізацыямі і нават прыватнымі асобамі. Шырока развіваецца паркавая скульптура. Безумоўна, гэта крок наперад, гэта фарміруе эстэтычны густ нашай грамады, ды і вельмі важная падстава для маральнай, матэрыяльнай падтрымкі дзяржавай саміх мастакоў. І як вынік — мы будзем мець яшчэ больш значныя поспехі ў гэтым вельмі важным кірунку развіцця нацыянальнай культуры. Работы будуць захаваныя для будучых пакаленняў, будуць адлюстроўваць і калішнюю гісторыю, і гісторыю сённяшняга дня".

Тадэуш Стружэцкі падкрэсліў, што ў Міністэрстве культуры распрацаваны добрыя планы на перспектыву. Прыкладам, у бліжэйшы час плануецца стварэнне помнікаў Максіму Багдановічу ў Гродне, Янку Купалу і Якубу Коласу ў Варшаве, Сімяону Полацкаму ў Маскве, усталяванне памятнай дошкі Яну Баршчэўскаму ў Санкт-Пецярбургу…




Таксама слова бралі старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, яго намеснік па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна, загадчык кафедры манументальнага мастацтва БДАМ Уладзімір Зінкевіч, намеснік старшыні секцыі тэкстылю Наталля Сухаверхава, старшыня секцыі манументальнага мастацтва Алесь Суша, старшыня секцыі скульптуры Сяргей Логвін, народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка, які пяцьдзесят год таму, так бы мовіць, "заснаваў" (аддзяленне, а потым і кафедру) манументальнае мастацтва ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце.

Выступоўцы адзначалі, што выстаўка сама па сабе ўнікальная, незвычайная, бо праводзіцца даволі рэдка з той прычыны, што манументальнае мастацтва на то і манументальнае, грунтоўнае, не простае, якое робіцца не за адзін дзень, а гадамі і на гады, на стагоддзі. Любое мастацтва, асабліва выяўленчае, пачынаецца з асобы. Беларускаму выяўленчаму мастацтву пашанцавала, што ў аснове яго развіцця стаялі такія знаныя творцы, як Гаўрыла Вашчанка, Зоя Літвінава, Аляксандр Кішчанка, Уладзімір Стальмашонак (да слова, іх работы арганічна ўлучыліся ў агульную экспазіцыю)… Увогуле, шмат таленавітых людзей, якія сваёй харызматычнай работай здзіўлялі маладых творцаў.

Манументальнае мастацтва — праява моцнага народа. У адрозненне ад стрыт-арту, размаляваных камянёў паўз дарог, манументальная культура — інтэлектуальная, тонкая размова, дыялог з сугрмаадзянамі.

У выстаўцы ўдзельнічала шмат маладых мастакоў, якія былі прадстаўлены на вельмі дастойным узроўні. Яны працуюць, як кажуць, не дзякуючы, а насуперак. Бо без падтрымкі дзяржавы, без дзяржзаказаў выжыць амаль нерэальна. У мастакоў вялікі патэнцыял, яны чакаюць заказаў, каб увасобіць свае задумы. А яшчэ павінна быць сувязь, сінтэз, супрацоўніцтва з архітэктарамі.



Сярод удзельнікаў выстаўкі — П. Вайніцкі, А. Гуршчанкова, В. і Л. Бартлавы, Э. Рымаровіч, Н. Пілюзіна, А. Купрыянаў, А. Камардзін, Г. Інькова, Л. Сцефановіч, С. Возісаў, І. Чумакоў, У. Церабун, В. Кавальчук, А. Някрашэвіч, У. Жбанаў, А. Арціновіч, Б. Скрамблевіч, Г. Козел, Л. Аганаў, К. Касцючэнка, П. Асмакоўскі, А. Прахараў, Л. і С. Гумілеўскія, У. Кандрусевіч, П. Герасіменка, Г. Буралкін, А. Дранец, У. Тоўсцік, С. Дамарад, А. Батвінёнак, Г. Жарын, В. Барабанцаў, К. Камал і інш. Сяргей Аганаў і Васіль Матусевіч для кожнага творцы падрыхтавалі адмысловыя планшэты, на якіх былі выявы работ, іх назвы і месцы, дзе яны ўсталяваныя або знаходзяцца.

У экспазіцыю ўвайшлі манументальны і манументальна-дэкаратыўны жывапіс, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, зробленыя ў інтэр'ерах і экстэр'ерах дзяржаўных і грамадскіх будынкаў, манументальная, мемарыяльная і паркавая скульптура. Лепшыя творы за апошнія дзесяцігоддзе дэманстраваліся ў выглядзе іх фотапрынтаў, фрагментаў кардонаў, эскізаў і рабочых мадэляў, а таксама ўвазе гледачоў былі прапанаваныя няздзейсненыя праекты. Годнае месца занялі выявы габеленаў, якія ўпрыгожваюць Палац Рэспублікі, Нацыянальную бібліятэку Беларусі, Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета нашай краіны...

Выстаўка ўнікальная, і яе можна лічыць адной з яскравых падзей года, бо манументальная творчасць з'яўляецца найважнейшай з усіх відаў выяўленчага мастацтва на сучасным этапе. Гэтыя "чалавечыя арыенціры", непасрэдна звязаныя з сацыяльнай накіраванасцю, ідэалогіяй ды эстэтыкай высокага густу, — не толькі частка нашага паўсядзённага быцця, але і своеасаблівы падручнік нацыянальнай гістарычнай памяці і сучаснага разумення таго сацыяльнага асяроддзя, у якім мы жывём.

***На здымках: кардон мазаікі ў Доме міласэрнасці г. Мінска, аўтар Віктар Барабанцаў; Леў Гумілеўскі, Сяргей Гумілеўскі "Балет" (бронза).***

**На гэтым тыдні, 10 — 11 лістапада, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі праходзяць VII Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні "Бібліятэкі і палітыка адкрытага доступу да інфармацыі і ведаў". Іх арганізатарамі супольна з галоўнай кніжніцай краіны выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Бібліятэчная асамблея Еўразіі, Беларуская бібліятэчная асацыяцыя і Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж". Праблематыка такіх чытанняў традыцыйна носіць універсальны характар, яна звязана з найбольш актуальнымі тэмамі, якія ў той ці іншы год узнімаюць бібліятэкары. Папярэднія гутаркі прысвячаліся новым тэхналогіям і іх выкарыстанню ў абслугоўванні чытачоў, разглядаліся тэмы фарміравання кніжнага фонду, аспекты, звязаныя з асобай сучаснага карыстальніка. Сёмыя чытанні арганізаваныя ў кантэксце раней праведзеных. Яны больш выразна акрэсліваюць шляхі атрымання інфармацыі, удасканалення заканадаўчай базы ў галіне адкрытага доступу да ведаў, стварэння электронных бібліятэк і архіваў. Пра кнігазнаўчыя чытанні распавядае дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман МАТУЛЬСКІ.**




Ірына ТУЛУПАВА

# Online да Оксфарда давядзе

— Кніга як была, так і застаецца ў цэнтры нашай увагі. Але мы ўсе добра разумеем, што сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі ўпэўнена займаюць сваё месца ў жыцці. І бібліятэкі не могуць заставацца ўбаку ад гэтых працэсаў.

На канферэнцыі ідзе гаворка пра сучасныя электронныя інфармацыйныя рэсурсы. Гэта не абавязкова кнігі ў выглядзе дыскаў альбо музыка і відэа на дысках, навучальныя праграмы ды гульні. Гаворка ідзе пра тыя электронныя рэсурсы, доступ да якіх забяспечваюць толькі бібліятэкі, і ніхто іншы. Гэта так званая сетка інфармацыйных рэсурсаў, якая, прыкладам, дазваляе патрапіць у інфармацыйныя рэсурсы Оксфарда ці Кембрыджа.

**— Наколькі яны цяпер запатрабаваныя?**

— Вельмі запатрабаваныя. Нават больш, чым традыцыйныя. Пошукавыя сістэмы ў іх больш дакладныя, можна хутчэй усё знайсці. Калі дакумент існуе ў электронным выглядзе, значыць, яго можна раздрукаваць, дапрацаваць. Таму значная частка запытаў наведвальнікаў нашай бібліятэкі задавальняецца праз электронныя інфармацыйныя рэсурсы. У першую чаргу іх карыстальнікамі выступаюць моладзь, студэнцтва, навукоўцы. Прычым, падкрэслю: гэтая інфармацыя не мастацкая, не гульнёвая. Гутарка вядзецца пра навуковыя рэсурсы, рэсурсы ў дапамогу бізнесу, эканоміцы.

**— Але наша гістарычная спадчына таксама не заўсёды адкрытая: старажытныя кнігі знаходзяцца ў сховішчах бібліятэк, дзе вытрымліваюцца неабходныя ўмовы захавання. Ці будзе гаворка пра гэтыя фонды?**

— Бясспрэчна. У нас два дні працуе "круглы стол" — гаворым пра кнігу Беларусі ў кантэксце кнігазнаўчых дасследаванняў. Да нас прыехалі госці з Расіі і Украіны, з Літвы, Казахстана і нават Швейцарыі. Мяркуем, як выявіць усе беларускія кнігазборы, якія знаходзяцца ў Беларусі, а галоўным чынам — у замежжы. І як зрабіць так, каб кнігазборы вярнуліся на радзіму хаця б у электронным выглядзе, каб яны былі больш даступнымі шырокаму колу чытачоў.



**— Удзельнікі чытанняў — не толькі бібліятэкары, а і музейныя работнікі, архівісты. Якія супольныя праекты з прадстаўнікамі іншых, сумежных сфер могуць быць запачаткаваны бліжэйшым часам?**

— У першую чаргу — якраз па ўзнаўленні калекцый. Таму што нашы кнігазборы былі вывезены, раздзелены, штосьці знаходзіцца ў нашай краіне, штосьці — за мяжой. І толькі агульнымі намаганнямі бібліятэкі, музеі і архівы могуць вярнуць, сабраць у адно пэўныя веды. Вось, у мінулым годзе мы рэалізавалі праект "Падпольны і партызанскі друк Беларусі". І для таго, каб стварыць электронны рэсурс у выглядзе самастойнай базы, мы працавалі разам: і Нацыянальная бібліятэка Беларусі, і Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, і Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь — пры падтрымцы ЮНЕСКА. Таму што, да прыкладу, у кагосьці ёсць першы экзэмпляр той жа партызанскай лістоўкі, у кагосьці — другі. А віртуальна, на электронных носьбітах, удалося сабраць іх разам. Фізічна ж дакументы як захоўваліся, так і захоўваюцца ў запасніках.

У нас вялікая надзея і на выдацоў. Таму што хочацца надалей мець цесныя сувязі, каб больш выходзіла рарытэтных выданняў у выглядзе факсіміле, рэпрынтаў. Каб мы маглі ўзнаўляць рарытэты кшталту "Слуцкага Евангелля" альбо выдання "Белавежская пушча: зямля сілы".

**— Чаму неабходна ўдасканаленне заканадаўчай базы ў галіне адкрытага доступу?**

— Тэма выкарыстання электронных рэсурсаў — адна з найбольш дыскусійных і праблематычных у сучаснай медыйнай прасторы ўсяго свету. Кожная краіна спрабуе знайсці свой найбольш прымальны варыянт. Ёсць і міжнароднае аўтарскае права, паняцце інтэлектуальнай уласнасці. І трэба зыходзіць якраз з гэтых палажэнняў. Мы запрасілі да ўдзелу ў канферэнцыі прадстаўнікоў нашага парламента і спадзяёмся на сумесную працу. Неабходна спалучыць інтарэсы маладога чытача, які жадае хутка атрымаць інфармацыю на хатні камп'ютар, і аўтара, які жадае абараніць свой прадукт ад несанкцыянаванага распаўсюджвання, атрымаць ганарар.

**— Сярод арганізатараў сёлетніх чытанняў пазначаны і Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж"…**

— Там запланаваны "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў замежных дэлегацый. Непасрэдна ў Нясвіжы была заснавана і знаходзілася адна з самых буйных бібліятэк Беларусі — Радзівілаўская. На месцы, думаецца, працэй вызначаць, у тым ліку з іншымі дзяржавамі, магчымыя кірункі супрацоўніцтва ў пошуку страчаных каштоўнасцей і іх вяртання.

***На здымках: экслібрыс бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў; Нацыянальная бібліятэка Беларусі.***

# Радыёла-плюс, альбо Нашы рэліквіі

Наталля МАЕЎСКАЯ,
метадыст Бярэзінскай ЦБС

**Міні-музей бібліятэчнай справы ствараюць у Беразіне. Для гэтага ёсць асаблівая нагода — 35-годдзе Бярэзінскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.**



За час свайго існавання бярэзінцы перажылі шмат складаных перыядаў, асабліва ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Колькасць чытачоў ЦБС у той перыяд зменшылася ўдвая. Крызісны стан матэрыяльна-тэхнічнай базы, катастрафічнае скарачэнне сельскага насельніцтва, з'яўленне малаперспектыўных зон у сельскай мясцовасці, дзе пераважная большасць жыхароў пенсіянеры — усё гэта прывяло да скарачэння бібліятэк. Працэс пачаўся ў 1984 годзе, набыў значны маштаб у 1991, 1993, 2002 гадах. Такім чынам, да 2006 года было закрыта 18 сельскіх філіялаў!

Але дзяржаўная палітыка адраджэння вёскі і стварэнне аграгарадкоў далі новы штуршок сацыяльна-культурнаму развіццю сельскіх населеных пунктаў, абнаўленню жыцця беларускай вёскі. Узнялася на новы, сучасны, узровень вясковая культура. Як прыклад: Косаўская бібліятэка, якая была закрыта ў 2002 годзе, праз тры гады зноў пачала працаваць. Цяпер ужо — як сельская бібліятэка аграгарадка Косаўка. За апошнія 5 гадоў справілі наваселле 11 сельскіх бібліятэк.

Дваццаць шэсць бярэзінскіх публічных бібліятэк якраз ўпісаліся ў культурную прастору раёна. Каб захаваць мінулае, сваю гісторыю, іх супрацоўнікі вырашылі стварыць міні-музей бібліятэчнай справы. За аснову яго афармлення ўзята інфармацыйнае выданне "З гісторыі бібліятэк Бярэзінскай ЦБС", у якім сабрана шмат архіўных дакументаў і матэрыялаў.

Увазе наведвальнікаў міні-музея прадстаўлены розныя стэнды. Гэта карта-схема Бярэзінскай ЦБС, на якой паказаны дзеючыя і зачыненыя бібліятэкі. На пачэсным месцы размешчаны матэрыялы, прысвечаныя ветэранам бібліятэчнай справы. Праз фотаздымкі прадэманстравана хроніка мінулых падзей. На стэндзе "У нас у гасцях" — фотаздымкі, зробленыя ў час сустрэч з вядомымі людзьмі Беларусі.

Асаблівая каштоўнасць — кнігі-старажылы Бярэзінскай ЦБС, такія, як "Балады" В. Жукоўскага 1948 года выдавецтва "Латгосиздат" (Рыга), зборнік п'ес А. Макаёнка "Перад сустрэчай. Жыццё патрабуе" 1951 года, "Выбраныя творы" Цёткі, Ф. Багушэвіча, "Вершы і паэмы" Якуба Коласа 1952 года і інш.

Рэліквіі музея — кнігі-экспанаты з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, падпісаныя чытачам бібліятэкі, віншавальныя паштоўкі ад калег і сяброў.

Цікавасць выклікае і тое бібліятэчнае абсталяванне, якое ўжо стала гісторыяй. Гэта пішучая машынка, ратар, капіравальны апарат, дыяпраектары розных марак, радыёла з пласцінкамі, касетны магнітафон, першы тэлевізар "Зорька", які ў 1969 годзе Ушанскі сельскі Савет перадаў з мясцовага клуба Ушанскай сельскай бібліятэцы, і іншае.

Экспазіцыя бібліятэчнага міні-музея — першая і адзіная ў раёне, таму і прыцягвае ўвагу чытачоў і гасцей Бярэзіншчыны.

Выдавецкія клопаты

**Святлана МАРОЗАВА,**
**доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы**

**Бібліятэкі з часоў іх узнікнення з'яўляліся важным асяродкам інтэлектуальнага жыцця грамадства і фарміравання эліты. Пачатак бібліятэчнай справы на беларускіх землях сягае ў XI — XII стст. Яны ствараліся пры храмах, манастырах і навучальных установах і спачатку называліся "кніжніцамі". Прадстаўнікі інтэлектуальнай і палітычнай эліты фарміравалі ўласныя кнігазборы. У XIX —XX ст. клопат пра стварэнне і функцыянаванне бібліятэк бярэ на сябе дзяржава.**

# Тут працаваў Адам Багдановіч

Увосень 1830 г. высокапастаўленыя асобы Гродзенскай губерні на чале з губернатарам Міхаілам Бабяціцкім на сваёй нарадзе ў адпаведнасці з указаннем міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі вырашылі адкрыць у губернскім горадзе публічную бібліятэку. Яна павінна распаўсюдзіць у грамадстве звесткі і адкрыцці ў навуках, мастацтве, земляробстве і прамысловасці і "кожнаму дасць магчымасць чытання і ўзбагачэння сябе ўсімі карыснымі звесткамі і адкрыццямі". Першым яе бібліятэкарам стаў ксёндз-дамініканін Кандзід Зялёнка — ураджэнец Вільні і гадаванец Віленскага ўніверсітэта, выкладчык Гродзенскай дамініканскай гімназіі.

З таго часу прайшло 180 гадоў. Пра гісторыю, перыпетыі лёсу старэйшай публічнай бібліятэкі Беларусі, пра яе працаўнікоў, мецэнатаў і сяброў, а таксама пра дзень сённяшні распавядае навукова-папулярнае выданне "Галоўная кніжніца Прынямоння: да 180-годдзя з дня заснавання ДУК «Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага»" (Гродна: Гродзенская друкарня, 2010). Кніга — плён працы аўтарскага калектыву на чале з дырэктарам бібліятэкі Л. Мальцавай.

Напісаная на аснове архіўных і апублікаваных крыніц (матэрыялаў заканадаўства, справаводства, статыстыкі, помнікаў мемуарыстыкі і публіцыстыкі, перыядычнага друку), кніга ў сваёй першай частцы хоць і лаканічна, але ўсебакова адлюстроўвае асноўныя напрамкі, дасягненні і цяжкасці дзейнасці бібліятэкі на ўсім працягу яе гістарычнага шляху.

У кнізе паказаны рэарганізацыі, структурныя змены, узбуйненні, адкрыццё філіялаў, а таксама змены адрасоў і назваў бібліятэкі. Яна была Публічнай бібліятэкай, Першай Народнай. У 1957 г. атрымала імя акадэміка Яўхіма Карскага. З 1932 г. працавала ў былым будынку купца Мураўёва, з 1991 г. — у Новым замку. Бібліятэка ніколі не мела спецыяльнага будынка, і сёння яна раскідана па розных частках горада. Выданне ўтрымлівае шмат статыстычных дадзеных, якія адлюстроўваюць папаўненне і страту кніжных фондаў, рост колькасці і нават змену складу чытачоў.




Кіраўнікам бібліятэкі і людзям, якія пакінулі значны след у яе гісторыі, у кнізе слушна ўдзелена асобная ўвага. Мы даведваемся, што з бібліятэкай звязана дзейнасць шэрагу выдатных асоб. У склад яе праўлення ўваходзіў вядомы даследчык гісторыі Гродна Яўстафій Арлоўскі. Шмат зрабіў для яе развіцця і павышэння ролі ў культурным жыцці Гродна Адам Багдановіч, бацька славутага беларускага паэта.

Кніга дае ўяўленне пра сучасны стан, напрамкі дзейнасці, кадры, кніжны фонд і праблемы бібліятэкі.

Сёння Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага з'яўляецца найбуйнейшым кнігасховішчам, вядучым інфармацыйным, адукацыйным і сацыяльна-культурным цэнтрам, лідарам бібліятэчнай палітыкі ў вобласці. Штогод бібліятэкай карыстаюцца амаль 44 тысячы чытачоў, штодня яе наведваюць звыш 900 чалавек. Кніжны фонд налічвае 640 тысяч дакументаў на 45 мовах свету, у тым ліку кнігі, 800 назваў часопісаў, 250 назваў газет, грампласцінкі, дыяфільмы, відэакасеты, электронныя дакументы. Бібліятэка валодае найбагацейшай калекцыяй дакументаў пра рэгіён, сярод якіх і рарытэтныя выданні XIX — пачатку XX ст.

Як важны асяродак інтэлектуальнага жыцця Гродзеншчыны, бібліятэка здаўна гуртуе вакол сябе інтэлігенцыю краю, найперш вучоных, людзей творчых прафесій, краязнаўцаў. Цеснае сяброўства і плённае супрацоўніцтва звязваюць яе з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы. Пра гэта таксама распавядае кніга. Асабліва цесныя ўзаемазацікаўленыя кантакты па лініі "бібліятэка — універсітэцкія гуманітарыі" ўсталяваліся са стварэннем у яе структуры аддзела краязнаўства.

Другая частка кнігі змяшчае бібліяграфічны паказальнік літаратуры за 1830 — 2010 гг. пра бібліятэку. Гэты вялікі спіс аб'ёмам у 40 старонак з'яўляецца крыніцай новых грунтоўных даследаванняў пра гісторыю і сучасны стан бібліятэкі.

Прадстаўленае выданне ярка сведчыць, што бібліятэка ідзе ў нагу з часам, прыкметай якога з'яўляюцца перамены. Поспеху і новым дасягненням у яе рабоце садзейнічае ўкараненне інавацыйных метадаў і сучасных інфармацыйных тэхналогій. Галоўная кніжніца Панямоння супрацоўнічае з кнігасховішчамі Расіі і Польшчы, удзельнічае ў міжнародных бібліятэчных праектах, чаму ў выданні таксама прысвечана ўвага. Бібліятэка з'яўляецца арганізатарам і ўдзельнікам шэрагу міжнародных навуковых канферэнцый.

Змест кнігі разам з арыгінальным дызайнам, прыгожымі ілюстрацыямі і сувенірным паліграфічным афармленнем робіць яе годным помнікам бібліятэцы і людзям, якія прысвяцілі ёй частку сваёй душы і жыцця.

# Натхненне на настрой

**Ірына ЦАРУК,**
**намеснік дырэктара цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Навагрудскага раёна**

**Вось ужо на працягу трох год Навагрудская цэнтральная раённая бібліятэка далучае жыхароў горада і раёна да прыгожага з дапамогай выставак жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**

Цяпер у міні-галерэі "Імгненне" цэнтральнай раённай бібліятэкі працуе сямейная персанальная выстаўка "Натхненне". Аўтары — маці і дачка, Таццяна і Вольга Лук'ян. У свой час Таццяна пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута прыехала працаваць настаўніцай выяўленчага мастацтва і чарчэння ў Ліду. Яе дачка Вольга таксама звязала жыццё з мастацтвам. Закончыла факультэт мастацтваў Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і працуе навуковым супрацоўнікам Лідскага гісторыка-мастацкага музея. Менавіта дзякуючы дырэкцыі музея навагрудчане могуць пазнаёміцца з творчасцю гэтых прыгожых жанчын.

Кожная з мастачак прадстаўляе свой унікальны творчы свет, і яны не спрачаюцца, а дапаўняюць адна адну. Мастачкі працуюць у жанрах жывапісу і графікі. На выстаўцы прадстаўлена 30 работ, сярод якіх нацюрморты і пейзажы, тэматычныя карціны. Таццяна перавагу аддае акварэлі. Вольга — алоўку і гуашы, спрабуе сябе ў камп'ютарнай графіцы. У аснову іх твораў пакладзена любоў да прыроды, гісторыі, старажытных архітэктурных форм. Калі глядзіш на карціны, хочацца апынуцца ў ваколіцах маёнткаў, палацаў, касцёлаў і яшчэ раз усвядоміць, колькі цікавых і маляўнічых куточкаў побач. Ад архітэктурных будынкаў з карцін Вольгі "Дворышчы", "Бердаўка", "Начны Гродна" патыхае нейкай таямнічасцю і загадкавасцю. Гэтыя працы былі б вельмі добрымі ілюстрацыямі да гістарычных і прыгодніцкіх раманаў нашых беларускіх пісьменнікаў.

Зачароўваюць увагу наведвальнікаў змястоўныя акварэлі Таццяны: "Драўлянае дойлідства", "Ліпнішкі", "Мураванка", "Дакудава". Яны поўныя сонечнага святла, пяшчоты, узнёсласці. Шмат пазітыўных эмоцый выклікаюць нацюрморты.

Работы мастачак знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі і замежжа. Хочацца, каб навагрудскія краявіды і гісторыка-культурныя каштоўнасці натхнілі Таццяну і Вольгу на стварэнне новых карцін.

# Расшыфруем Тору!

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўвае ў сваіх фондах нямала скарбаў мінулага. З дапамогай Алены Цітавец, загадчыка сектара кнігазнаўства гэтага аддзела, мы пазнаёмімся ці не з самым таямнічым з іх: напісанымі на старажытнаяўрэйскай мове трыма скруткамі Торы (Пяцікніжжам Маісея), якія датуюцца XVIII стагоддзем.**

У некаторых чытачоў, зразумела, можа ўзнікнуць лагічнае пытанне: у чым жа каштоўнасць тых рукапісных кніг, якія з'явіліся ўжо пасля адкрыцця Іагана Гутэнберга? Каб адказаць на яго, дазволю сабе нагадаць, што не толькі кожная рэлігійная абшчына (кагал), але і кожны яўрэй павінен быў мець экзэмпляр Пяцікніжжа Маісея. Прычым яго трэба было або перапісаць самастойна, або заказаць скрутак у прафесійнага перапісчыка біблейскіх кніг. Яўрэйскі пісец, выконваючы заказ на перапіску Торы, лічыў гэта ў вышэйшай ступені пачэснай і богаўгоднай справай. Ён працаваў, трымаючы перад сабой кананічны ўзор Торы, з якім звяраў кожнае слова, бо нават кожная літара ў ім была знакам Божай волі. Нездарма ў талмудычным паданні сцвярджалася: "Прапусціш адну літару ці прыбавіш літару — і можа адбыцца пераварот у галовах людзей усяго свету". Вытворчасць Тор у выглядзе скруткаў пергаменту працягвалася на беларускіх землях да XIX стагоддзя. Матэрыял і почырк заставаліся нязменнымі з сярэднявечча. Згодна са знешнім выглядам, фрагменты скруткаў Торы з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі можна аднесці да XVIII стагоддзя. Але калі мы бачым іх, лёгка ўявіць, як выглядала Тора шмат стагоддзяў таму.

Фрагменты галоўнай кнігі яўрэяў трапілі ў бібліятэку ў 1974—1987 гадах: супрацоўнікі набылі іх у букіністычнай кнігарні. Тэксты рарытэтаў былі даследаваны кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам кафедры культуралогіі гуманітарнага факультэта БДУ Міхаілам Тарэлкам.

Звычайна Тора размяшчалася на скрутку добра выробленага пергаменту. Для яго выкарыстоўвалася толькі скура "чыстых" жывёл: авечак, коз, цялят. Вырабіць пергамент было няпроста: скуру пасля апрацоўкі вапнай ачышчалі механічным спосабам ад валаскоў і мышачнага слоя. Потым пасля паўторнай апрацоўкі вапнай пергамент расцягвалі і высушвалі. Высушаную скуру спачатку націралі крэйдай, якая ўбірала рэшткі тлушчу, а потым паліравалі пемзай, каб зрабіць паверхню скуры больш гладкай.

Пергамент заўсёды быў дарагім матэрыялам (вышэйшыя гатункі яго выраблялі са скуры жывёл, што яшчэ не нарадзіліся), але яго можна было выкарыстоўваць некалькі разоў. Каб сцерці стары тэкст, пергамент трымалі ў малацэ ці вадзе, пасля чаго старыя літары лёгка саскрабаліся. Свяшчэнныя пергаментныя скруткі Торы, накручаныя на драўляны валік, які мог быць аздоблены разьбой, захоўваліся ў сінагозе ў спецыяльных шафах. У самы ўрачысты момант служка-шамаш выносіў іх для агляду.

Як сведчаць даследаванні, у калекцыі ЦНБ НАН Беларусі захоўваюцца скруткі пергаменту даўжынёй 8,5 і 3 м з тэкстам на старажытнаяўрэйскай мове. Гэта розныя фрагменты двух поўных скруткаў Торы. Яны складаюцца з прамавугольных палос пергаменту, якія змацоўваюцца паміж сабой вошчанымі ніткамі. На палосах — па тры-чатыры слупкі так званага яўрэйскага "квадратнага" пісьма. Яго эфект заключаецца ў тым, што кожная літара нібы ўпісана ва ўмоўны квадрат. Гэта пісьмо выкарыстоўвалі яўрэі з III—II стагоддзяў да н. э. і захавалі для моў іўрыт, ідыш і ладзіна. Выкарыстанне для запісу Торы і Талмуда некананічнага шрыфту лічылася святатацтвам.

Першы фрагмент скрутка (набыты ў 1975 годзе) змяшчае тэкст кніг "Быццё" і "Выхад" (апошняя перарываецца на пятым вершы 21-й часткі). Другі фрагмент пачынаецца з пятага верша 21-й часткі кнігі "Выхад" (якраз там, дзе заканчваецца першы фрагмент) і заканчваецца на 17-м вершы 26-й часткі кнігі "Левіт". Хоць другі фрагмент быў набыты бібліятэкай праз 12 гадоў пасля першага (у 1987-м), ён, безумоўна, з'яўляецца працягам першага. Несумненна, што абодва фрагменты належалі да аднаго скрутка Торы.

А вось трэці фрагмент, набыты ў 1974-м, змяшчае "Другазаконне" і заканчваецца апошнім словам кнігі. Ён вылучаецца больш якасным вырабам пергаменту: калі ў складзе двух першых фрагментаў былі палосы рознай якасці, то ў гэтым фрагменце якасць вырабу ўсіх чатырох палос аднолькава добрая. Дакладна вызначыць, ці з'яўляецца трэці фрагмент часткай таго ж самага скрутка ці іншага, немагчыма, таму што почырк перапісчыка індывідуальна не праяўляецца. Калі браць за аснову якасную характарыстыку пергаменту і чарніла, першыя два фрагменты адрозніваюцца ад трэцяга. Такім чынам, апошні, хутчэй за ўсё, — частка іншага скрутка.

Яўрэі разам з іншымі народамі, што жылі ў Беларусі, зрабілі вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры. Без даследавання іх спадчыны нашы веды пра родны край будуць няпоўныя. Асабліва гэта датычыць Торы, дзесяць запаведзяў якой сталі асновай агульначалавечай маралі.

Алесь СУША

# Гомельскія карані «Ленінкі»

**У 2011 г. першай культурнай сталіцай СНД стаў беларускі горад Гомель. Такі высокі статус ім быў атрыманы нездарма. Гомель — горад з развітой культурай. Толькі ў гэтым годзе ўжо рэалізавана больш як 150 творчых праектаў, многія з якіх маюць міжнародны характар. Магчымасць такога бурнага культурнага жыцця забяспечана даўнімі традыцыямі Гомеля, многія з якіх бяруць свой пачатак ад часоў пражывання ў горадзе графа Мікалая Румянцава.**

Граф займаў высокія пасады і меў моцны аўтарытэт у вышэйшым кіраўніцтве Расійскай імперыі: член Неадменнага савета з 1801 г., дырэктар водных камунікацый у 1801 — 1809 гг., міністр камерцыі ў 1802 — 1810 гг., міністр замежных спраў у 1807 — 1814 гг., дзяржаўны канцлер з 1809 г., старшыня Дзяржаўнага савета ў 1810 — 1812 гг. Аднак у сваёй палітычнай кар'еры граф зрабіў вялікую памылку: ён быў перакананым франкафілам і прыхільнікам збліжэння з Напалеонам. Пасля нападу Францыі на Расію М. Румянцава спаралізавала, а ў 1814 г. ён быў адпраўлены ў адстаўку. Месцам свайго адпачынку граф абраў Гомель, які атрымаў у спадчыну ад бацькі — вядомага военачальніка Пятра Румянцава-Задунайскага.

Яшчэ жывучы ў Германіі, а пасля ў Пецярбургу, граф меў схільнасць да збірання і даследавання прадметаў старажытнасці, у расійскай сталіцы стварыў так званы "Румянцаўскі гурток" (які таксама называлі "Румянцаўскай акадэміяй") з вучоных гісторыкаў і археографаў, які ўпершыню ў гісторыі расійскай навукі ў шырокіх маштабах пачаў выяўленне і збор дакументальных помнікаў па гісторыі Расіі. Аднак менавіта ў гомельскі перыяд свайго жыцця М. Румянцаў здолеў напоўніцу праявіць сваю цікавасць да збірання музейных, архіўных і бібліятэчных калекцый, падтрымкі таленавітых культурных і царкоўных дзеячаў, навукоўцаў і мастакоў. Пры яго ўдзеле друкаваліся навуковыя працы, зборнікі дакументаў, за яго кошт ажыццяўляліся многія экспедыцыі. Вакол Мікалая Пятровіча сабралася кола спецыялістаў бібліёграфаў, археографаў, гісторыкаў, кнігазнаўцаў, мовазнаўцаў і літаратуразнаўцаў, якія працавалі ў шматлікіх расійскіх і замежных архівах і бібліятэках, рабілі копіі, выпіскі, пры магчымасці везлі свайму патрону арыгіналы рукапісных і друкаваных кніжных помнікаў.

Самастойна і пры падтрымцы вялікай колькасці таленавітых людзей, якія заўжды акружалі графа, Мікалай Румянцаў здолеў сабраць багатую калекцыю культурных помнікаў. У гэтай калекцыі налічвалася звыш 28 тысяч кніг, 710 рукапісаў, этнаграфічныя і археалагічныя матэрыялы, нумізматычныя і мінералагічныя зборы, шматлікія творы жывапісу і скульптуры. Сярод кніг значыліся 104 інкунабулы (нават сёння Нацыянальная бібліятэка Беларусі мае ўдвая менш), вялікая колькасць славянскіх старадрукаў, навуковых прац XVIII—XIX стст., твораў мастацкай літаратуры. У бібліятэцы М. Румянцава захоўваліся шматлікія апісанні падарожжаў, першае выданне "Слова пра паход Ігаравы" 1800 г., першыя два выданні знакамітай Энцыклапедыі Дзідро і Д'Аламбера. У 1822 г. у Гомелі графам было прыдбана знакамітае Дабрылава евангелле. Яно было перапісана дзякам Канстанцінам Дабрылам у 1164 г., а ў 1573 г. цар Іван Жахлівы падараваў яго манастыру святога Стэфана.

Мікалай Пятровіч цікавіўся і археалагічнымі знаходкамі. Напрыклад, у 1822 г., падчас работ па планаванні плошчы гомельскімі сялянамі быў знойдзены скарб срэбных арабскіх манет IX — X стст., а ў 1825 г., пры раскопках кургана, быў знойдзены крыж XVI — XVII стст.

Нягледзячы на тое, што М. Румянцаў прадстаўляў у Беларусі акупацыйныя сілы (падчас паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі яго бацька быў галоўнакамандуючым расійскімі войскамі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай і накіроўваў А. Суворава на задушэнне паўстання), сам граф не быў прыхільнікам вырашэння канфліктаў ваеннымі сродкамі і імкнуўся зблізіць беларускі край з Расіяй мірным шляхам — праз асвету, навуковыя працы, пашырэнне дасягненняў расійскай культуры. Нездарма на фамільным гербе Румянцавых быў змешчаны дэвіз "Non solum armis" ("Не толькі зброяй").

Пры гэтым М. Румянцаў быў далёкім ад канфесійных спрэчак і ўласцівага некаторым сучаснікам фанатычнага змагання за пашырэнне ў Беларусі праваслаўя. Ён падтрымліваў таленавітых людзей незалежна ад іх рэлігійнага самавызначэння: і праваслаўных, і католікаў, і ўніятаў.

Сярод іншага, у 1824 г. у Маскве пры падтрымцы М. Румянцава быў апублікаваны знакаміты "Беларускі архіў старажытных грамат" — адзін з першых выдадзеных у Расіі зборнікаў дакументаў па гісторыі Беларусі XV — XVIII стагоддзяў. Яго падрыхтоўкай займаўся вядомы праваслаўны дзеяч Іван Грыгаровіч, які падтрымліваў цесныя кантакты з графам і зрабіў прысвячэнне на выдадзенай фундаментальнай працы: "Его сиятельству, государственному канцлеру, графу Николаю Петровичу Румянцеву, любителю и покровителю наук, милостивейшему государю усерднейшее приношение".

У той жа час Мікалай Румянцаў аказаў падтрымку не менш вядомаму ўніяцкаму дзеячу, навукоўцу, аднаму з першых беларускіх славістаў Міхалу Баброўскаму. Яшчэ ў 1825 г., калі да яго дайшлі звесткі пра адкрыццё М. Баброўскім унікальных старажытных рукапісаў у Супрасльскім манастыры, граф пісаў славісту А. Вастокаву: "Я чрезвычайно вам благодарен, что так скоро дали мне знать о двух самых древних памятниках славянской письменности, открытых ксендзом Бобровским. Сделайте мне одолжение, поручите г. Кеппену или кому иному, не теряя ни мало времени, наведаться у г. Бобровского, не могу ли я куплею приобрести обе сии древние рукописи за какую цену". У далейшым М. Румянцаў распрацоўваў план камандзіроўкі М. Баброўскага па славянскіх землях, каб сабраць як мага больш звестак пра помнікі старадаўняга пісьменства. Пры яго спрыянні ў 1826 г. уніяцкі святар быў вызвалены з-пад нагляду паліцыі і ссылкі ў Жыровіцкі манастыр (выказваў залішне прагрэсіўныя ідэі па рэфармаванні Віленскага ўніверсітэта) і здолеў вярнуцца да выкладання ў Вільні.

У выніку шматгадовай працы ў пецярбургскай і гомельскай рэзідэнцыях М. Румянцава назапасіліся багатыя зборы помнікаў. У 1826 г. граф памёр і быў пахаваны ў Гомелі. Пасля яго смерці не засталося тастамента. Але, выконваючы вусную волю памерлага, яго брат у 1828 г. перадаў калекцыю ў казённае ведамства (дзяржаве) "на пользу Отечеству и благое просвещение". Тады ж імянным указам імператара Мікалая I быў заснаваны Румянцаўскі Музеум, які знаходзіўся ў падпарадкаванні Міністэрства народнай асветы.

Музеум размясціўся на Англійскай набярэжнай у Пецярбургу, а з 1831 г., як сапраўдная публічная ўстанова, адкрыў свае дзверы для наведвальнікаў (дарэчы, напачатку толькі адзін дзень на тыдзень). У 1861г. Румянцаўскі Музеум пераехаў у Маскву, дзе размясціўся ў даўняй рэзідэнцыі насупраць Крамля — колішнім доме Пашкова. З прыходам савецкай улады на аснове Румянцаўскай бібліятэкі ўзнікла галоўная бібліятэка краіны — Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна, вядомая кожнаму як "Ленінка". Сёння гэта Расійская дзяржаўная бібліятэка. Гэтая найбуйнейшая бібліятэка Усходняй Еўропы і адна з пяці найбольшых у свеце бярэ свой пачатак ад збораў Мікалая Румянцава і яго актыўнай дзейнасці ў Гомелі.



*На здымку: партрэт графа Мікалая Румянцава работы англійскага мастака Джорджа Доў (1828 г.).*

# Па Брэсце — з нямецкамоўным даведнікам

Галіна БУРЫНА

**Пяты тыдзень нямецкай мовы і культуры прайшоў у Брэсце. Асноўныя падзеі Тыдня былі сканцэнтраваны ў абласной бібліятэцы імя М. Горкага і сярэдніх школах № 7 і № 20, а таксама ў абодвух брэсцкіх універсітэтах.**

Тыдзень пачаўся з адкрыцця фотавыстаўкі "Незвычайны Брэст", наладжанай студэнтамі эканамічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта. Аўтары фотаздымкаў задумалі гэты праект як даведнік па Брэсце для нямецкамоўных і рускамоўных гасцей горада. Было зроблена шмат цікавых фотаздымкаў па тэмах: гісторыя Брэста, яго сучасныя вуліцы, культурнае жыццё, духоўная спадчына, прырода. Да кожнага з іх аўтары дадалі кароткія паэтычныя назвы на нямецкай і рускай мовах. Ажыццявіць свае творчыя задумкі студэнтам дапамагалі прафесіяналы фатаграфіі і дызайну. Праект рэалізаваны пры фінансавай падтрымцы праграмы лектараў Фонду імя Роберта Боша і Пасольства Германіі ў Беларусі.

Журналістка "Саксонскай газеты" Хайкэ Забэль, аўтар некалькіх кніг пра Беларусь, якая стварыла аб'яднанне "Разам у будучыню", правяла майстар-клас "Прыказкі і моўныя звароты" па нямецкай мове для вучняў СШ № 7, а для зацікаўленай дарослай аўдыторыі ў абласной бібліятэцы прадставіла свае працы па тэме "Немцы і нямецкая мова". Спадарыня Забэль прачытала некалькі артыкулаў, прысвечаных Беларусі. Заўсёды цікава, як тваю краіну ўспрымаюць іншыя людзі, што кідаецца ім у вочы, што яны лічаць займальным. "Беларусь — гэта краіна ў сэрцы Еўропы, людзі якой жывуць адной нагой у мінулым, другой — у будучым. Беларусь — гэта краіна, якую можна альбо любіць, альбо не любіць, але абыякавым яна не пакідае нікога", — так лічыць Хайкэ Забэль.

Дзве імпрэзы ў абласной бібліятэцы прысвячаліся гістарычнай тэме.

Чытачка абласной бібліятэкі Святлана Шпаннагель (т.зв. руская немка, якая выехала ў эміграцыю з Казахстана ў 1994 г., доўгі час жыла ў Германіі, узначальвала Зямляцтва расійскіх немцаў г. Эрфурта, была дэпутатам гарадскога савета. У сваім выступленні "70 гадоў. Трагедыя немцаў у Расіі" яна закранула самыя цяжкія і жудасныя старонкі жыцця савецкіх немцаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, іх выпрабаванні і трагічныя лёсы, у тым ліку і лёс сваёй сям'і.

Лекцыя ўдумлівага даследчыка, гісторыка, прафесара БрДТУ М. В. Стральца "Адносіны ФРГ да Халакосту" была пабудавана на новых і малавядомых фактах з сучаснай гісторыі Германіі.

У 2011 годзе адзначаецца 200 гадоў з дня смерці вялікага нямецкага паэта, драматурга і пісьменніка Генрыха фон Клейста, імя якога добра вядомае не толькі ў сваёй краіне, але і за яе межамі, таму ў гэтым годзе праводзяцца шматлікія мерапрыемствы, прымеркаваныя да гэтай падзеі. Інстытут Гётэ ў Мінску прадаставіў чытачам абласной бібліятэкі выстаўку плакатаў на рускай мове "В путешествиях по Европе. Путешествия Генриха фон Клейста", каля 20 кніг і дыскі. Дарэчы, абласная бібліятэка мае намер далучыцца да культурных і адукацыйных арганізацый і па прапанове Берлінскага міжнароднага літаратурнага фестывалю і Аб'яднання імя Генрыха фон Клейста 21 лістапада, у дзень смерці пісьменніка, сумесна з БрДУ імя А. С. Пушкіна, СШ № 7 і іншымі зацікаўленымі правесці літаратурныя чытанні твораў нямецкага аўтара на нямецкай і рускай мовах.

Ужо стала традыцыяй падчас правядзення Тыдня запрашаць на літаратурныя сустрэчы альбо чытанні беларускіх і замежных літаратараў. За пяць гадоў чытачы абласной бібліятэкі сустракаліся з аўстрыйскім і швейцарскім пісьменнікамі Марцінам Полакам і Петрам Кунішам, вядомымі беларускімі літаратарамі Верай Бурлак, Віктарам Жыбулем. Адбылася таксама творчая вечарына паэта Алеся Разанава "Паэзія ў сучасным свеце" з нагоды аўтарскай прэзентацыі новай нямецкамоўнай кнігі "Der Mond denkt, die Sonne sinnt" ("Месяц думае, сонца разважае").

# «Кнігі — гэта настрой»



**Пра знаёмства з бібліятэкай распавядае першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір КАРАЧЭЎСКІ.**

— Гэта адбылося ў раннім дзяцінстве. Мне падабалася, калі маці чытала кнігі, і я вельмі хацеў навучыцца чытаць сам. У сем гадоў, калі пайшоў у школу і ведаў усе літары, запісаўся ў школьную бібліятэку, Каб мець магчымасць і са школы прыносіць дадому розныя кнігі. У мяне была такая “хвароба”: кнігі трымаў дзе толькі можна — і ў ванным пакоі, і пад сталом, пад ложкам, пад коўдраю. І нават калі рыхтаваўся да заняткаў у школе, выконваў хатняе заданне, мог хвілін праз дзесяць спыніцца, каб пачытаць мастацкую літаратуру, а пасля браўся за ўрокі зноў. І заўсёды марыў, каб у мяне была вялікая бібліятэка. Таму зайздросціў бібліятэкарам: у іх такая цікавая праца!

Калі вучыўся ў ВНУ, частку стыпендыі аддаваў на набыццё кніг. Мне была цікавая гістарычная літаратура, творы пра вядомых людзей, музыкантаў, скульптараў. Цяпер частка бібліятэкі знаходзіцца ў бацькоў. У мяне дома збор невялікі: каля 600 — 700 асобнікаў, нешта пакінуў на лецішчы, каб і там было што пачытаць.

Кнігі — гэта настрой. Таму магу чытаць адразу некалькі: адну — як забаўляльнае чытво, для адпачынку; іншую — сур’ёзную гістарычную альбо класіку. Кніга заўсёды са мной. Калі ёсць вольны час, адпачынак, я лепш вазьму кнігу, чым буду глядзець тэлевізар.

# Шукаем героя нашага часу

**Вольга НЯВЕЙКАВА,**
**Ірына ТУЛУПАВА**

**Правядзенне конкурсаў літаратурнай творчасці ў бібліятэках — з’ява дастаткова распаўсюджаная, але конкурсы міжнароднага маштабу — хутчэй выключэнне: яны адзінкавыя! І тым самым прыцягваюць да сябе незвычайную цікавасць.**

У красавіку мінулага года кіраўнікі Віцебскай і Пскоўскай абласных бібліятэк падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. На гэты год запланавалі тры асноўныя праекты — правядзенне літаратурнага конкурсу “Чытаем Лермантава, або Герой нашага часу”; выданне бібліяграфічных паказальнікаў “Дзіўныя імёны — дзіўная Пскоўшчына” і, адпаведна, “Дзіўныя імёны — дзіўная Віцебшчына” ды прэзентацыя гэтых выданняў і знаёмства з пераможцамі конкурсу пры канцы года, у снежні.

Літаратурны конкурс праходзіць у рамках Міжнароднага фестывалю “Еўракніга-2011” і прадбачыць два этапы. На першым — уласна конкурс, альбо напісанне эсэ. На другім, міжнародным, — правядзенне канферэнцыі з удзелам лаўрэатаў, пісьменнікаў ад тэрыторый-удзельніц праекта. Плануецца, што працы лаўрэатаў, каментарыі да іх будуць растыražаваны на папяровых і электронных носьбітах. Галоўная ж мэта спаборніцтва аматараў-творцаў — умацаванне супрацоўніцтва паміж Віцебскай і Пскоўскай абласцямі праз знаёмства з сучаснай літаратурай.

— Конкурс стартаваў яшчэ ў лютым, і прыём работ доўжыўся на працягу трох месяцаў. Кожны з удзельнікаў меў магчымасць раскрыць тэму праз аналіз твораў Лермантава або праз сачыненне-разважанне на тэму “Герой нашага часу: хто ён?”, абапіраючыся на сучасныя літаратурныя творы. Пераважная большасць выбрала менавіта другі варыянт.

Працы мусілі адпавядаць фармату эсэ, быць рускамоўнымі (конкурс міжнародны) або ў аўтарскім перакладзе з беларускай мовы. Адно з галоўных патрабаванняў да работ — аб’ём у памеры не больш як адна друкаваная старонка: можна ўявіць тыя цяжкасці, з якімі сутыкнуліся конкурсанты!

На ацэнку Нацыянальнаму журы было падрыхтавана 17 работ ад шаснаццаці ўдзельнікаў. Іх аўтары — школьнікі і студэнты, бібліятэкары і настаўнікі, псіхолагі і журналісты, юрысты і людзі на заслужаным адпачынку. Трэба дадаць, што малодшаму з конкурсантаў ледзь споўнілася 12 год, а старэйшы падышоў да святкавання 75-гадовага юбілею.

Узначаліў Нацыянальны экспертны савет (журы) доктар гістарычных навук, кандыдат філасофскіх навук, прафесар кафедры ўсеагульнай гісторыі і сусветнай культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава Аркадзь Русецкі.

Паводле рашэння Нацыянальнага экспертнага савета і вынікаў інтэрнэт-галасавання дыпломамі І ступені ў трох узроставых групах па дзвюх тэмах былі ўзнагароджаны Арцём Маклакоў (г. Віцебск), Марыя Лялькіна (г. Віцебск), Алена Ціханава (Бешанковіцкі раён) і Алена Дабракова (г. Віцебск). Дыплом ІІ ступені атрымала Дар’я Андронава (г. Віцебск). З работамі пераможцаў можна пазнаёміцца ў вольным доступе на афіцыйным сайце Віцебскай абласной бібліятэкі.

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў конкурсу адбылася ў Беларусі ў Дзень бібліятэк. Але наперадзе — другі этап, калі пераможцы з Віцебска і Пскова сустрэнуцца ў агульнай гутарцы пра літаратуру дзвюх краін. Да сустрэчы таксама рыхтуюцца і бібліяграфічныя паказальнікі. У Віцебскай абласной бібліятэцы выйшаў у свет бібліяграфічны паказальнік па Святлане Акружной, цяпер рыхтуецца выданне пра Аляксея Дударава.

## Штрых-код

### Што будзе

**12 лістапада** Лелюкінская сельская бібліятэка Іўеўскай ЦБС запросіць на конкурс чытальнікаў “Роднай мове і роднаму краю прысвячаем”. У імпрэзе возьмуць удзел вучні старэйшых класаў. У праграме — прэзентацыі з выказваннямі знакамітых людзей пра паэзію, літаратуру, мову; чытанне вершаў, у тым ліку і напісаных вучнямі.

**З 14 па 25 лістапада** ў бібліятэках Пінскага раёна будзе праводзіцца раённы агляд-конкурс “Тэатр беларускай кнігі ў бібліятэках”.

**20 лістапада** ў Пінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Я. Янішчыц адбудзецца выступленне літаратурна-паэтычнай групы на тэму “Крылы яе бессмяротнай паэзіі” (да дня нараджэння Я. Янішчыц).

**20 лістапада** ў Валішчанскай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна пройдзе конкурс чытальнікаў “Птушка зялёнага Палесся” (да дня нараджэння Я. Янішчыц).

**21 лістапада** Дварышчанская сельская бібліятэка Лідскай ЦБС запросіць на літаратурную гадзіну “Сумленны і мужны талент” з нагоды 110-годдзя з дня нараджэння Міхася Зарэцкага, беларускага празаіка, драматурга, перакладчыка, крытыка. Прысутныя пазнаёмяцца з жыццём і творчым шляхам пісьменніка, раманамі “Вязьмо”, “Сцежкі-дарожкі”, апавяданнямі і аповесцямі “Голы звер”, “У віры жыцця”, “Пела вясна”.

**25 лістапада** Варанчанская сельская бібліятэка Карэліцкай ЦБС ладзіць літаратурнае падарожжа “Капітан нашых падарожжаў з любімымі героямі — Я. Маўр”. Прысутныя на мерапрыемстве пазнаёмяцца з творамі пісьменніка, возьмуць удзел у літаратурнай віктарыне.

**У лістападзе** ў Ашмянскай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбудзецца літаратурнае свята, прысвечанае 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча “У вянок паэту”. У час мерапрыемства прагучаць творы пісьменніка, а таксама песні, напісаныя на яго вершы.

**26 лістапада** ў Садоўскай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна будзе арганізавана літаратурная гадзіна “Лістапад запрашае ў Якубаў дом” (да дня нараджэння Якуба Коласа).

**Да 30 лістапада** ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна працуе выстаўка “Збіральнік рускага слова”, прысвечаная 210-годдзю з дня нараджэння вялікага рускага вучонага і пісьменніка Уладзіміра Даля.

**27 лістапада** ў Пінкавіцкай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна пройдзе літаратурна-музычная вечарына “Паэт уславіў наш палескі край” (да дня нараджэння Якуба Коласа).

**30 лістапада** Раклевіцкая сельская бібліятэка Дзятлаўскай ЦБС арганізуе для вучняў 8 — 9 класаў турнір знаўцаў “Беларусы-землякі, захаваем мову на вякі”. Самых дасведчаных удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі.

# За школьнаю партай...

**У школе № 21 г. Брэста прайшоў семінар бібліятэкараў устаноў адукацыі Маскоўскага раёна абласнога цэнтра. Ён быў прысвечаны роднай мове, беларускай кніжцы, ушанаванню Бацькаўшчыны.**

Адкрыла семінар метадыст па бібліятэчнай рабоце аддзела адукацыі Маскоўскага райвыканкама г. Брэста Наталля Тарасюк. Затым слова ўзяла бібліятэкар Таццяна Корсак, якая распавяла пра ролю беларускай кніжкі ў выхаванні падрастаючага пакалення, фарміраванні яго светапогляду, у развіцці і захаванні нацыянальнай літаратуры і культуры. Увазе ўдзельнікаў была прапанавана літаратурна-музычная кампазіцыя “Слава кніжцы беларускай”. Але асабліва ўсіх прысутных уразіла выступленне паэтэсы Надзеі Парчук. Яе светлыя, пранікнёныя вершы, прысвечаныя роднай мове, яе прыгажосці, Радзіме, свайму народу, зямлі беларускай, слухаліся з заміраннем сэрцаў і кранал і душы.

З цікавай тэмай “Ілюстрацыя кніг — справа творчая” выступіла настаўніца выяўленчага мастацтва Галіна Жорж. Яна расказала пра сваё супрацоўніцтва з пісьменнікамі Брэста, якім дапамагла і дапамагае ў аздабленні іх кніг ілюстрацыямі.

**Людміла ЛІТВІНЧЫК,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры школы № 21 г. Брэста**



# Арт-клуб запрашае

**Пры Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна пачаў сваю дзейнасць арт-клуб. Прэзентацыя сабрала больш як 70 чалавек. Арт-клуб зніТоўвае творы літаратуры і розных відаў мастацтваў. Гэткі сінтэз — тэндэнцыя, якая назіраецца ў сучаснай культуры; у выставачных праектах — у прыватнасці.**

Падчас прэзентацыі новага арт-цэнтра адбылося адкрыццё выстаўкі дзевяці мастакоў. У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя работы гамяльчан Генадзя Говара, Віталя Дзенісенкі, Яфіма Мінявіцкага, Генадзя Тарскіх; графіка (акварэль) Уладзіміра Кароткага; мастацкая фатаграфія на палатне Алега Ананьева, мастацкая фатаграфія дызайнера Леаніда Пружыны; жывапіс мазыраніна Мікалая Дубравы і Міхаіла Міронава з Рагачова.

Пасля знаёмства з творчасцю мастакоў у выставачнай зале бібліятэкі прагучала літаратурна-музычная кампазіцыя “Восеньская вясёлка”. У ёй песенныя балады на беларускай, рускай, украінскай і французскай мовах непаўторна душэўна і высокапрафесійна былі выкананы лаўрэатам рэспубліканскіх конкурсаў афганскай, бардаўскай і турыстычнай песні Ірынай Марчанкай з Рагачова.

Канцэрт быў гарманічна дапоўнены чытаннем вершаў Генадзя Говара, Алега Ананьева, Ніны Шкляравай, Уладзіслава Шышыгіна, Аляксандра Каляды з Мазыра, Міхаіла Міронава з Рагачова.

Большасць удзельнікаў першай выставачна-канцэртнай прэзентацыі — сябры Беларускага саюза мастакоў і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Але арт-клуб адкрыў свае дзверы ўсім, хто цікавіцца мастацтвам і сам займаецца творчасцю.

Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч падкрэсліў: “Асноўная задача падобных арт-цэнтраў — увасабленне праектаў, літаратурных, музычных, мастацкіх, якія садзейнічалі б развіццю рэгіянальнай культуры. Бо клуб аб’ядноўвае людзей, так ці інакш звязаных з літаратурай і мастацтвам, інтэлігенцыю горада, моладзь. У сваёй дзейнасці клуб закліканы адстойваць прынцыпы захавання культурнай спадчыны і ў той жа час падтрымліваць інавацыйныя праекты”.

**Алег АНАНЬЕЎ**

***На здымку: падчас адкрыцця арт-клуба.***

Раіса МАРЧУК,
фота аўтара

# Творчая пляцоўка для душы

**Хутка будзе год, як у Інтэрнэце з'явіўся форум рамеснікаў REMESLA.BY, які аб'ядноўвае апантаных творчасцю людзей, тых, хто не бавіць марна час, а карпатліва і з вялікай любоўю стварае прыгожыя і ўнікальныя рэчы.**

З чаго ўсё пачыналася? Спачатку некалькі аднадумцаў — Навамір Кудзінаў (дарэчы, па прафесіі юрыст) і яго сябра-юрыст Аляксандр Елісееў з жонкай Антанінай — вырашылі стварыць праект з мэтай аб'яднання людзей, якія могуць штосьці рабіць сваімі рукамі. Падобнага ў Інтэрнэце яшчэ не было, хаця існавалі на розных сайтах невялічкія форумы для аматараў прыкладнога мастацтва.

— Проста мы, пасля шматлікіх падарожжаў па Беларусі, убачылі, што ў нашай краіне вельмі шмат людзей, якія ствараюць адмысловыя рэчы, а вось наладзіць нейкія стасункі паміж сабою не могуць. Вельмі хутка наш форум займеў шматлікіх прыхільнікаў, якія дзеляцца з аднадумцамі вопытам, ідэямі.

А яшчэ арганізатары форуму зразумелі, што ў Мінску няма месцаў, дзе майстры могуць самі прадаваць свае работы, сустракацца з калегамі. Праўда, ёсць нямала крам, у якіх рэалізуюцца вырабы народных майстроў. Але там проста гандлююць. Ім жа захацелася стварыць нейкую пляцоўку, дзе б майстры сябе прадстаўлялі, скажам так, з усіх бакоў. Узнікла яшчэ адна задумка: праводзіць кірмашы хэнд-мэйду. Ініцыятыву падтрымала Міністэрства культуры нашай краіны, сталічныя ўлады, а калі кірмашы ладзяцца ў рэгіёнах, то заўсёды маюць падтрымку з боку мясцовых улад.

— Адбор у нас жорсткі, — зазначае Навамір Кудзінаў. — Абавязковая ўмова: выключна ручная работа. Усе майстры зарэгістраваныя ў якасці рамеснікаў — значыць, маюць права гандляваць сваімі маленькімі шэдэўрамі. І мы не абмяжоўваемся традыцыйнымі відамі рамёстваў. Тым больш што ў апошнія гады шмат майстэрскіх навінак прыйшло да нас з Захаду. Яны карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў людзей розных узростаў. Менавіта такія адмысловыя работы можна ўбачыць падчас кірмашоў хэнд-мэйду і тут жа пазнаёміцца і пагутарыць з іх стваральнікамі, паглядзець майстар-класы, патрымаць вырабы ў руках, а пры жаданні запісацца на курсы. Прадавец жа ў магазіне не стане расказваць, як гэта зроблена.

— На кірмашы збіраюцца майстры не толькі з Мінска, а з усёй Беларусі, — працягвае Навамір Кудзінаў. — Не сакрэт, што значная колькасць беларусаў пастаянна карыстаецца Інтэрнэтам, а тут уладарыць жывыя зносіны, гучыць жывая музыка. Пакуль кірмашы праходзяць раз на месяц, можа, у будучым атрымаецца арганізоўваць іх часцей. Іншы раз узнікаюць цяжкасці з падборам памяшкання, бо стараемся ладзіць свае мерапрыемствы ў цэнтры горада, каб усім было зручна. Напрыклад, у гістарычным музеі ўжо некалькі разоў былі. У асноўным мы супрацоўнічаем з музеямі, за што вялікае дзякуй іх кіраўніцтву і калектывам. А наведвальнікаў заўсёды шмат — значыць, людзям гэта цікава.

Многія разумеюць: калі хочаш штосьці займець, не абавязкова спяшацца ў краму ці на кірмаш. Чаму б не зрабіць жаданую і прывабную рэч сваімі рукамі? Вось так і знаходзіцца занятак па душы. Вельмі шмат жанчын у дэкрэтным адпачынку звяртаюцца да творчасці. І нават калі выходзяць на працу, працягваюць гэтым займацца, развіваць



набытыя навыкі, бо іх вырабы радуюць вока, цешаць душу і прыносяць прыбытак.

— Калі мы праводзілі ў Доме-музеі І з'езда РСДРП выстаўку "Зробленае сваімі рукамі", то вырашылі аб'яднаць работы маладых і масцітых майстроў, — зазначыў Навамір. — У кожнага меўся бэйджык, на якім былі пазначаны не толькі імя і прозвішча майстра, але і абавязкова яго прафесія. Аказалася, менеджары, эканамісты, бухгалтары, настаўнікі з захапленнем займаюцца творчасцю. Звычайна працэнтаў 15 — 20 удзельнікаў нашых выставак — майстры з іншых гарадоў. Іх у першую чаргу запрашаем на кірмашы.

Ужо некалькі разоў удзельнічала ў выстаўках і кірмашах настаўніца матэматыкі Вікторыя Калейнік з Мінска, якая стварае з даволі пластычнага матэрыялу — палімернай гліны — жаночыя ўпрыгажэнні. Дарэчы, гэты вельмі добры артматэрыял, ён карыстаецца вялікай папулярнасцю ў майстроў Еўропы, Амерыкі. Калега дзяўчыны, Тэрэза Труханові́ч, якая працуе настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў сталічнай гімназіі № 15, з задавальненнем дэманструе мядзведзікаў Тэдзі. "Шыю іх шмат гадоў, раблю мядзведзікаў таму, што яны — добрыя, мілыя. Можна сказаць, гэта мой уласны спосаб самарэалізацыі".

— Хацелася б, каб нашы людзі адарваліся ад бясконцых серыялаў, а іншы раз, можа, і ад моцных напояў, і пачалі тварыць. Хочацца, каб Беларусь зноў стала краінай рамеснікаў, як гэта было 50 — 100 гадоў таму, — шчыра і горача зазначае Навамір Кудзінаў.

***На здымку: Навамір Кудзінаў.***

**Вядучая праекта — Раіса Марчук.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Кітай далёкі і блізкі

# З Пекіна — па-беларуску

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Цікавыя сустрэчы адбыліся ў мяне на Міжнародным радыё Кітая. Гэта буйная медыйная структура, якая вяшчае круглыя суткі ў эфіры і Інтэрнэце больш як на шасцідзесяці мовах. Ёсць тут месца і беларускай мове: створаны сайт, на якім змяшчаюцца навіны, рэпартажы і іншыя матэрыялы пра Кітай. Работу сайта забяспечваюць супрацоўнікі рускай службы міжнароднага радыё Кітая, у якой працуюць беларусы Раман Мышкоўскі і Вольга Гальпяровіч, добра вядомыя нашаму слухачу па перадачах Беларускага радыё.

Увогуле, на Міжнародным кітайскім радыё робяць значную стаўку на этнічных носьбітаў мовы, таму сярод супрацоўнікаў можна сустрэць грамадзян Расіі і Украіны, Польшчы і Славакіі, Германіі і Францыі і нават Шры Ланкі, Нігерыі, Новай Зеландыі... Увесь гэты "інтэрнацыянал" жыве ў гатэлі для замежных спецыялістаў, які знаходзіцца ў некалькіх сотнях метраў ад адміністрацыйнага і вяшчальнага будынка радыё.

Дарэчы, радыё належаць і карпусы сталовай, рэстарана, басейна. Увесь гэты комплекс узведзены некалькі год таму ў адным з новых мікрараёнаў Пекіна. У самім будынку радыё — утульныя холы, зручныя кабінеты, кавярні, а на апошнім, сямнаццатым паверсе — спартыўная зала. Абсталяванне студый, гуказапісваючая тэхніка не саступаюць лепшым сусветным узорам.

Рэдакцыя выпуску праграм на рускай мове — адна з самых буйных на міжнародным радыё Кітая. Тут працуе і шмат кітайцаў, якія добра валодаюць рускай моваю. Для зносін у рэдакцыі яны выбралі сабе рускія псеўданімы. Напрыклад, кіраўніка рэдакцыі Сунь Юн Фэна ўсе клічуць Антонам, а яго намесніка Юань Цінгэя — Віцем. Ёсць тут кітайскія Ларыса, Ліна, Наташа...



Давялося мне выступаць перад калектывам, браць удзел у адной з перадач. Дарэчы, інтэрв'ю ў мяне брала Ганна Алаберт, кандыдат гістарычных навук, аўтар кнігі "Месца канфуцыянства ў мадэрнізацыі Кітая". Супрацоўнік украінскай рэдакцыі Уладзімір Урусаў напісаў падручнік па кітайскай мове для ўкраінскіх школьнікаў і стаў аўтарам кітайска-ўкраінскага слоўніка. Прыемна было ў далёкім Пекіне пачуць украінскую мову, і мы далей так і гаварылі паміж сабой: ён — па-ўкраінску, я — па-беларуску.

***На здымку: падчас інтэрв'ю на Міжнародным радыё Кітая.***

## Афарызм

*Тыя, што варты стакрот кахання, —*
*Тыя не маюць яго на зямлі.*
*Потым, як пойдуць ў зямлю сырую,*
*Сотні прыгожых дзяўчат і дам*
*Статуям іхнім рукі цалуюць,*
*Быццам лягчэй ад таго касцям.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Таццяна Генадзьеўна КУЗНЯЧЭНКАВА**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 1800 рублёў

Наклад — 2824
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 10.11.2011 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 5382

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12